

# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

25 СНЕЖНЯ 1998 Г. № 52/3980 КОШТ 4 000 РУБ.








Р. Таболіч. "Нараджэнне паэта".



В. Новак. "А Міцкевіч з жонкай".



У. Голуб. "Фантазія ў стылі рамантызма".

# Пілігрым свабоды

**Падчас юбілею выдатнага паэта Адама Міцкевіча варта згадаць, што беларускае мастацтва неаднаразова звярталася да вобраза самога песняра і створаных ім герояў. Выйшла выдатна ілюстраванае выданне паэмы "Пан Тадэвуш" на трох мовах з ілюстрацыямі народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча. Беларуская акадэмія выяўленчага мастацтва некалькі месяцаў таму з'арганізавала сваю дужа цікавую выставу, прысвечаную вобразу пана Адама. Днямі адкрылася рэспубліканская экспазіцыя ў Музеі сучаснага мастацтва. Пра гэтую выставу, наогул пра вобраз А. Міцкевіча ў беларускім выяўленчым мастацтве — артыкулы Я. ШУНЕЙКІ і Н. ЖОГЛЫ.**

З 1929 г. стаіць у Парыжы помнік аднаму з найслаўнейшых сыноў беларускай зямлі — Адаму Міцкевічу, створаны выдатным французскім скульптарам Антуанам Бурдэлем. На Захадзе пана Адама — паэта, грамадзяніна, змагара — называлі "Пілігрымам свабоды". Гэта выпакутаванае і заслужанае па праву найменне і стала ключом для вырашэння кампазіцыі, відаць, найлепшага на сённяшні дзень помніка Міцкевічу. На высокай калоне, на аскетычна вырашанай у форме ахвярніка капітэлі ўзвышаецца постаць — не імператара, не містычнага святога, але няспыннага вандроўніка. Правай рукой ён абапіраецца на кій, бо цяжкі і

(Працяг на стар. 4)



# КОЛА ДЗЁН

***Усяго толькі тыдзень застаўся да Новага, 1999 года. Нехта да гэтага свята даўно падрыхтаваўся (такіх, відаць, лічаныя адзінкі), а нехта сустрэне гэты дзень у не вельмі добрым настроі, бо са зменай года ў яго жыцці нічога не зменіцца. Відаць, не паменшаюць чэргі ў крамах і не паболее ў нашых кішэнях грошай. Аднак, нягледзячы на ўсе праблемы, жыць трэба, бо жыццё працягваецца і гэта жыццё наша, на нашай зямлі, хоць камусьці і хочацца падгрэбсці нас пад сябе.***

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

З інфармацыі Нацыянальнага банка стала вядома, што ў лістападзе рублёвыя дэпазітывы ў банках павялічыліся амаль на 521 мільярд рублёў, валютныя — на 2,8 мільёна долараў. За першую палову снежня асабістыя зберажэнні грамадзян у СКВ на рахунках беларускіх банкаў узраслі яшчэ на 1,9 мільёна долараў. Толькі дзіву даешся, чытаючы такую інфармацыю: "Жывуць жа і сярод нас людзі!"

## РАСПРОДАЖ ТЫДНЯ

У Мінску пачаўся распродаж навагодніх ялінак. Лясную прыгажуню можна (так абяцаецца ў друку) купіць усяго за 68 тысяч рублёў, калі яна будзе вышынёй у адзін метр, 2 метры абыдуцца ў 85 тысяч, 3 метры — 103 тысячы рублёў. Здаецца, не так і дорага, але мы ўжо ведаем, як могуць расці цэны на тавар, які купляецца. Яліны, хутчэй за ўсё, выключэннем не будуць... Былі б ялінкі!

## АПЫТАННЕ ТЫДНЯ

Мінскім НДІ сацыяльна-эканамічных праблем праведзена апытанне 800 жыхароў беларускай сталіцы пра магчымасць займацца прадпрымальніцтвам. 39 працэнтаў мінчан лічаць, што сёння ў сталіцы Беларусі адсутнічаюць сацыяльныя, эканамічныя і.прававыя ўмовы для паспяховай дзейнасці прадпрымальнікаў. У той жа час 31 працэнт апытаных лічыць, што прадпрымальнікі маюць спрыяльныя ўмовы для паспяховага ажыццяўлення сваёй дзейнасці, але іх цяжка рэалізаваць. І ўсяго 9 працэнтаў заявілі, што прадпрымальнікі ў Мінску не толькі маюць, але і могуць рэалізаваць сацыяльныя, эканамічныя і прававыя ўмовы для паспяховага ажыццяўлення сваёй дзейнасці. Але і без апытання простым людзям бачна, на апошнім часам у нашай сталіцы скарачіўся прыватны бізнес.

## НАВІНА ТЫДНЯ

З друку стала вядома, што Нацыянальным саветам па працоўных і сацыяльных пытаннях Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь разглядаецца прапанова аб павышэнні з новага года мінімальнай заработнай платы і тарыфнай стаўкі 1 разрада адпаведна да 500 тысяч і 1 млн. 200 тыс. рублёў. Адначасова з гэтым плануецца павысіць памеры фіксаваных даплат для нізкааплатных катэгорый работнікаў. Праўда, пакуль гэтыя лічбы з'яўляюцца папярэднімі, канчатковае рашэнне павінна быць прынята ўрадам у бліжэйшы час.

Пры гэтым мяркуемыя зараз памеры павышэння заробкаў могуць быць не толькі павялічаны, але нават і зменшаны.

Для многіх працоўных нашай краіны павелічэнне мінімальнай заработнай платы можа стаць нядрэнным навагоднім падарункам, але павелічэнне, відаць, было б яшчэ лепш успрынята, калі б людзям сёння своечасова плацілі за іх працу, сыходзячы з цяперашняй мінімалкі.

## КАНФІСКАЦЫЯ ТЫДНЯ

На адным з беларускіх пунктаў мытнага афармлення ў грамадзяніна Польшчы, які ехаў з Германіі ў Расію, канфіскаваны незаконна перавозімыя 495 тэлевізараў на суму 40 мільярдаў 600 мільёнаў рублёў.

## МАРКІ ТЫДНЯ

Да надыходзячага новага года рэспубліканскае дзяржаўнае аб'яднанне "Белпошта" выпусціла ў абарачэнне сцэпку з дзвюх марак, прысвечаную Новаму, 1999 году і Калядам. Стварыла марку і канверт "першага дня" мастак Т. Гутколўская.

## АДКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ

У Глускім раёне Магілёўскай вобласці адкрыта яшчэ адно, шэсцьдзесят трэцяе па ліку, беларускае радовішча нафты. Усе пошукавыя работы на свідравіне N 10 Нова-Драздоўскай плошчы праводзілі спецыялісты Мазырскай нафтаразведчай экспедыцыі. У выніку з глыбіні больш як тры тысячы метраў атрыманы фантанны прыток аб'ёмам 25 кубічных метраў у суткі. Аб'ём зусім не вялікі, але гэта лепш, чым нічога. Праўда, здаць новую крыніцу нафты ў эксплуатацыю ў найкарацейшыя тэрміны немагчыма. Прычына на сённяшні дзень вельмі ўсім знаёмая, — няма фінансаў.

## АПРАЎДАННЕ ТЫДНЯ

Больш за чатыры месяцы цягнулася судовае пасяджэнне па іску рэдакцыі газеты "Наша Ніва" супраць Дзяржаўнага камітэта па друку. За гэты час адбылося некалькі моваазнаўчых экспертыз. І вось 22 снежня Вышэйшы гаспадарчы суд Беларусі аб'явіў, што правапіс, якім карыстаецца "Наша Ніва", не з'яўляецца парушэннем агульнапрынятых нормаў мовы. Адным словам, "Нашу Ніву" апраўдалі.

## ДЫЯГНАЗ ТЫДНЯ

У Мінску прайшоў чарговы з'езд Беларускай сялянскай партыі. На ім выступіў былы прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір. Гаворачы аб магчымай беларуска-расійскай інтэграцыі, ён заўважыў, што сёння Расія і Беларусь "настолькі хворыя пацыенты, што іх размяшчэнне ў адной палаце яшчэ больш аслабіць абодва дзяржаўныя арганізмы. Мы павінны кожны сам па сабе выходзіць з крызісу, не забываючы пра нармальныя эканамічныя ўзаемаадносіны".

## СУСТРЭЧА ТЫДНЯ

У Нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь прайшоў "круглы стол" "80-годдзе ўтварэння БССР: вопыт і ўрокі гісторыі". У ім прынялі ўдзел акадэмік, доктар гістарычных навук І. Ігнаценка, дырэктар Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Я. Матусевіч, дырэктар Інстытута гісторыі Беларусі НАНБ М. Касцюк і іншыя вучоныя. Святкавацца 80-годдзе БССР будзе не толькі ў нас, але і ў Расіі ў Смаленскай губерні, якая 80 гадоў назад была ў складзе нашай краіны. А вось 80-годдзе БНР, папярэдніцы БССР, у сакавіку сёлетняга года было незаўважана.

ІМПРЭЗЫ

# Сувязі аднаўляюцца

З 10 па 16 снежня праходзілі Дні культуры Югаславіі ў Беларусі. Вядомыя калектывы (сімфанічны аркестр, камерны хор, ансамбль народных танцаў) і асобныя зоркі (напрыклад, прымадонна Бялградскай оперы Радміла Бакочавіч) на працягу тыдня ў сталіцы і ў абласных цэнтрах РБ давалі канцэрты. Дэманстраваліся югаслаўскія кінафільмы, ладзіліся мастацкія выстаўкі. Дзеячы кіно, тэатральнага і выяўленчага мастацтва СРЮ сустракаліся з беларускімі калегамі і грамадскасцю. Наогул, адбылася падзея, неардынарная ва ўсіх адносінах. Агульны аналіз яе, відома, яшчэ будзе рабіцца, а пакуль што мы звернем увагу толькі на важнейшыя моманты, якія звязаны з літаратурай.

Яшчэ да пачатку афіцыйнага адкрыцця Дзён адбылася кніжная выстаўка ў кнігарні "Светач". Уласна, гэта была прэзентацыя "VERZALpress" — недзяржаўнага Бялградская выдавецтва, якое за восем месяцаў свайго існавання выпусціла пад 200 найменняў кніжнай прадукцыі, у тым ліку дзве энцыклапедыі, дзве анталогіі, шэсць перакладных слоўнікаў, дзесятак манаграфій, збор твораў, некалькі серый чытэльных твораў усіх жанраў, а таксама унікальнае выданне "Ода сербскаму народу" Д'Анунцыа (твор у арыгінале і перакладзе, з каментарыямі; сама кніжка кішэннага фармату ў пераплёце з натуральнай скуры). Каралей кажучы, усім прысутным беларусам было на што паглядзець, было пра што задумацца. Але не ўсім давялося проста зайздросціць і журыцца. Даведаўшыся, што ў БДУ ёсць ужо аддзяленне сербскай мовы і літаратуры, студэнты якога прысутнічаюць на гэтым мерапрыемстве, дырэктар "Верзалпрэса" па маркетынгу вырашыў перадаць усё прывезенае універсітэцкай кафедры славянскіх літаратур. Шчодры дарунак быў прыняты, натуральна, з глыбокай удзячнасцю і ўсведамленнем, што ўсё ж такі неабавязкова на меркантыльным разліку, на карысліваcці трымаюцца людскія адносіны, у чым нас апошнім часам на розныя лады спрабавалі пераканаць. Усім прыемна было адчуваць, што не зніклі падчыстую прынцыпы стасункаў, якія раней мы шчыра называлі братэрскімі, сяброўскімі.

А што патрэбу якраз у такіх адносінах захавалі абодва нашы народы, сведчылі ўсе астатнія мерапрыемствы, прынамсі, тыя, да якіх давялося мець дачыненне аўтару гэтых радкоў. Так, хочацца верыць, што глыбейшаму ўзаемапазнанню і збліжэнню спрыяла і мерапрыемства, праведзенае 11 снежня ў Доме Дружбы таварыствам "Беларусь—Югаславія". Гэта была вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння слыннай сербскай паэтэсы Дэсанкі Максімавіч. Адкрываў яе старшыня рады таварыства, прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук А. Вайтовіч, а ўдзел бралі супрацоўнікі прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, ансамбль "Купалінка", беларускія югаслаўскія пісьменнікі, згаданыя ўжо студэнты, а таксама сербісты яшчэ маладзейшыя — выхаванцы Мінскай гімназіі N 111.

Паэзія Дэсанкі Максімавіч, слыннай песняркі сербства і славянства, шматлікімі ніцямі звязанай і з беларускай культурай, дапамагала канкрэтней адчуць і зразумець, што нашым народам ад старажытнасці і па сённяшні дзень не дазваляе размяжоўвацца і варагаваць.

Уласна, паэзія, славеснасць і не павінна мець іншага зместу, апроч імкнення да харaства, любові і праўды, выхавання духоўнасці, вернасці запаветам і традыцыям свайго народа пры павазе да іншых. Вось пра гэта ішла гаворка на пісьменніцкай сустрэчы 16 снежня ў Доме літаратара — між іншым, салідна прадстаўнічай. З беларускага боку, акрамя першых асоб кіраўніцтва СП, прысутнічалі дырэктары выдавецтваў, рэдактары часопісаў, прадстаўнікі Міністэрства культуры і Камтэта па друку, вядомыя пісьменнікі. А гасцямі былі Наталля Дудаш — паэтка, якая піша па-русінску і па-сербску, яна ж — дырэктар русінскага выдавецтва і намеснік міністра культуры Сербіі, Барыс Іленка — літаратуразнавец і культуролаг, дырэктар Інстытута (паводле нашай класіфікацыі — камітэта) па міжнародных сувязях у галіне навукі, культуры і адукацыі, Мілісаў Міленкавіч — паэт і драматург, а таксама генеральны сакратар Скупшчыны СРЮ, Слабадан Ёкавіч — публіцыст, ён жа — згаданы вышэй дырэктар маркетынгу "Верзалпрэса", драматург Міліца Ноўкавіч, паэты Драгамір Брайкавіч і Слабадан Станішыч.

І югаслаўскія і беларускія пісьменнікі чыталі свае творы, выказваліся пра стан развіцця літаратуры ў абедзвюх краінах. Усе шкадавалі, што не скарыстоўваюцца магчымасці для сапраўдных узаемасувязяў: апошняя перакладная кніга югаслаўскага аўтара на беларускай мове датуецца 1991 годам, а беларуская ў СФРЮ — 1993-м, сітуацыя з абменам п'есамі яшчэ горшая, хоць у рукапісах маюцца і перакладзеныя на беларускую мову творы для тэатра, і дзесятак даўно падрыхтаваных кніг. Нягледзячы на вядомыя праблемы, абмяркоўваліся канкрэтныя прапановы па актывізацыі гэтага плана спраў. Як і належыць, прадстаўнікі нашых міністэрстваў абяцалі спрыяць, а выдаўцы ўзялі на сябе і канкрэтныя абавязкі. Хочацца верыць, што зрухі ўсё ж такі будуць і на Дні культуры Беларусі ў Югаславіі наша дэлегацыя зможа завезці перакладзеныя кнігі пісьменнікаў гэтай братняй краіны, пацвярджаючы, што беларусы — не толькі ветлівыя, але і абавязковыя, дзелавыя. Гэтага вымагае сапраўднае братэрства.

**Іван ЧАРОТА**

ВЫСТАВЫ

# У суладдзі з музычнай сцэнай

16 снежня ў Музеі тэатральнай і музычнай культуры (гасцёўня У. Галубка) адкрылася персанальная выстава работ галоўнага мастака Дзяржаўнага тэатра музычнай камеды, заслужанага дзеяча культуры Беларусі, лаўрэата ўсесаюзных і міжнародных конкурсаў Яўгена Ждана. У кампактнай экспазіцыі прадстаўлены лепшыя творы майстра, якія яскрава адлюстроўваюць яго align="left" рознабаковы, шматгранны дар.

Яўген Ждан добра вядомы ў нашай краіне як таленавіты тэатральны мастак, творчасці якога ўласцівы вобразнасць і паэтычнасць мовы, багацце мастацкіх сродкаў, глыбокае пранікненне ў задуму рэжысёра, у драматычную і музычную аснову твора. У розныя гады на сцэне Нацыянальнага тэатра оперы і балета, тэатра музычнай камедыі ён ажыццявіў пастаноўкі шэргу спектакляў, якія атрымалі высокую адзнаку гледачоў і прэсы, сталі значнымі падзеямі ў культурным жыцці. На выставе экспануюцца эскізы мастацкага афармлення і касцюмаў да спектакляў "Князь Ігар", "Русалка", "Яўген Анегін", "Дон Кіхот", "Бахчысарайскі фантан", "Паненка і хуліган", "Капялюш Напалеона", "Цыганскі барон", "Цалуй мяне, Кэт!" і іншыя, якія выкананы ў яркай своеасаблівай манеры і нясуць адбітак творчай індывідуальнасці мастака. Амаль кожная з яго тэатральных работ можа разглядацца як самастойны жывапісны твор з глыбокім філасофскім падтэкстам і абагульненнямі. Напрыклад, менавіта такое "самастойнае жыццё" набылі ў адным з музеяў Японіі "Дэман", створаны ў свой час Я. Жданам, як суперзаслона да аднайменнага спектакля ў тэатры оперы і балета. Такі ж лёс напаткаў і суперзаслоны да спектакляў тэатра музычнай камедыі "Капялюш Напалеона" і "Цалуй мяне, Кэт!" — іх жывапісныя палотны таксама набытыя замежнымі музеямі для сваіх калекцый.

Багаты творчы плён унёс Яўген Ждан і ў скарбніцу беларускага жывапісу і графікі. Дасканалае валоданне прынцыпамі і спецыфікай сцэнаграфічнага мастацтва паўплывала на жывапісныя і графічныя творы мастака. У сваіх работах ён смела выкарыстоўвае тэатральныя прыёмы, што дазваляе адысці ад звыклых стэрэатыпаў мыслення і вырашэння кампазіцыйных пабудоў, а шырыня дыяпазону мастацкіх сродкаў — ад реалізму да мадэрна, класічнага і авангарднага кірункаў — уносіць асабісты светапогляд і навізну ў жывапісныя і графічныя кампазіцыі. Прадстаўлены на выставе палотны "Тарэйкаўская Божая маці", "Кірыла і Мяфодзій", "Францішак Скарына", "Сон генія", графічны твор "Рэквіем" уражваюць метафарычнасцю вобразаў, спалучэннем рэалістычнасці і сімволікі, якая нясе глыбокі сэнс; цеплынёю і энергетыкай дабра вее ад "Партрэта маці", жыццесцвярджальнасцю і любоўю да сваёй радзімы прасякнуты краявіды родных мясцін.

Яўген Ждан вядзе актыўную культурна-асветніцкую дзейнасць. На сваёй радзіме, у вёсцы Сноў, ён стварае студыю выяўленчага мастацтва, культурны цэнтр і карцінную галерэю, у якой у бліжэйшы час будзе экспанавацца больш за 100 яго твораў. Сярэдняй школе N64 г. Мінска і школе ў Снове, дзе



мастак вучыўся, ён падарыў па 30 сваіх работ, а ў дар гісторыка-краязнаўчаму музею Нясвіжа плануе перадаць 80 сваіх твораў. За плённую працу на ніве беларускай нацыянальнай культуры Яўген Ждан вылучаны на атрыманне прэміі "За духоўнае адраджэнне".

Пра ўсё гэта гаварылі вядучыя дзеячы мастацтва на адкрыцці выставы, на якой, адбылася таксама прэзентацыя выдадзенай нядаўна грунтоўнай манаграфіі, дзе ў добрай паліграфічнай якасці прадстаўлены каляровыя рэпрадукцыі твораў мастака. (Адну з экспануемых карцін і сваю манаграфію Я. Ждан падарыў Музею тэатральнай і музычнай культуры.)

Прыхільнікі творчасці Яўгена Ждана і ўсе, хто цікавіцца выяўленчым і тэатральным мастацтвам, могуць наведацца ў Траецкае прадмесце — выстава працуе да 16 студзеня.

**Людміла РАБУШКА,**
**загадчык літаратурнай часткі Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі**
*Фота Віт. АМІНАВА*

ФЕСТЫВАЛІ

# Праваабарончы кінааазіс

Сімвалічнай кінападзеяй ужо мінулага года зрабіўся Міжнародны фестываль праваабарончых фільмаў (1—6 снежня). Арганізатары кінафэсту (мінская кінавідэастудыя "Тацціяна", Прадстаўніцтва ААН у Беларусі, Гільдыя кінарэжысёраў Расіі) прысвяцілі яго 50-годдзю Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. "Мы — людзі культуры барыкад. Барыкад, войнаў і рэвалюцый, — казала С. Алексіевіч, прэзідэнт фестывалю. — Але з барыкады бачыш толькі мішэнь, на барыкадзе псуецца зрок. Давайце не будзем забіваць адзін аднаго, давайце навучымся цярплівасці і прызнаем, што кожны мае права быць самім сабой. Сёння нас можа з'яднаць толькі адна ідэя — каштоўнасць жыцця, пэўнага чалавечага жыцця".

На жаль, гуманістычная канцэпцыя кінафэсту не спадабалася Міністэрству культуры РБ. Літаральна за два дні да адкрыцця фестывалю праваабарончых фільмаў, яго арганізатары страцілі дзве дадатковыя фестывальныя "плошчы" — кінатэатры "Піянер" і "Перамога". Больш за дзесяць стужак пагледзець ужо было немагчыма. На шчасце, менавіта ў залах ДК прафсаюзаў і Саюза кінематаграфістаў былі запланаваны паказы беларускіх дакументальных фільмаў "Шлях на Курапаты" М. Жданоўскага, "Аазіс" Ю. Хашчавацкага, "Сустрэчны іск" А. Рудэрмана і Ю. Хашчавацкага, "Дамова з Гітлерам" У. Коласа, — стужак надзвычай актуальных, злабадзённых.

...На экране — беларускія персоны нон-грата: З. Пазняк, С. Алексіевіч, А. Адамовіч, В. Быкаў. У фільме "Сустрэчны іск" (1989) прыдуманыя аўтарамі "цэрберы" КДБ назіраюць за жыццём беларускага пісьменніка А. Адамовіча. Падглядваюць у дзірку за інтэлігентам-змагаром, які адважыўся даказаць у судзе, што Сталін — гэта кат і звер. Зацікаўліваюць "кіношныя" вехі з біяграфіі Адамовіча: вучоба на Вышэйшых сцэнарных курсах, пасада дырэктара НДІ кінамастацтва, праца над фільмам "Ідзі і глядзі". Дарэчы, разам з рэжысёрам Э. Клімавым Адамовіч змагаўся за пастаноўку гэтай стужкі амаль дзесяць гадоў. У кнізе В. Фаміна "Кіно і ўлада. Савецкае кіно: 1965—1985 гады", выданню якой калісьці спрыяў А. Адамовіч (прэзентацыю кнігі ладзілі на фестывалі) — уся сумная гісторыя гэтага фільма.

"Мяне збіў зпанталыку гэты Пазняк", — скардзілася на экране бабуля, адна са сведак курапацкіх расстрэлаў. "Збіў зпанталыку" сваімі пытаннямі: ці патрэбна моладзі ведаць пра Курапаты? "А навошта?" — здзіўлялася бабуля (і дагэтуль мы нічога не хочам ведаць пра сябе і сваю гісторыю: пачалі забывацца на Курапаты, Чарнобыль, з'явіліся новыя праблемы — харчовыя). У фільме "Шлях на Курапаты" (1990) сустракаюцца ахвяры і каты: доўгі гэты шлях на Курапаты. Шлях да адраджэння нацыянальнай трагедыі. Шлях да шчырага даравання.

Звычайна свае фільмы Ю. Хашчавацкі робіць з гумарам, яго героі — камічныя. У фільме "Аазіс" (1996) занатоўваецца адзінокі жыхар Чарнобыльскай зоны, бомж-філасоф, які ўсур'ёз разважае пра грошы, царкву, смерць. У чужым доме, на чужым ложку. Гледзячы на яго, цяжка стрымаць усмешку. І толькі непрыкметны дазіметр (лічыльнік смерці) рызыкуе спаборнічаць з гаваркім бамжом.

У стужцы У. Коласа "Дамова з Гітлерам" (1998), прысвечанай маладым беларускім мастакам, ёсць таксама кадры, дзе філасофстве гарадскі бомж. Ён зачараваны Гітлерам, яго позіркам, дыктатарскай хваткай, шавіністычнымі ідэямі.

Адзін з цэнзараў фільма "Ідзі і глядзі" патрабаваў, каб з фільма выразалі песню: "Забіце Гітлера паўсюль, забіце Гітлера ў сабе". Чыноўнік абурыўся: "Ды каб я Гітлера ў сабе насіў?!" Але ў тым і парадокс, што мы яго носім у сабе. Шукаем у натоўпе яго твар. І знаходзім...

Падчас фестывальных паказаў я ўважліва назірала за святлацянямі твараў у зале: шчаслівых, задумлівых. І думала: мінскі фестываль праваабарончых фільмаў з'яднаў людзей розных пакаленняў, вымусіў беларусаў зноў перажыць былыя трагедыі, супаставіць час сённяшні з часам мінулым. Вопыт карысны.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

АБСЯГІ

*ВІЦЕБСК...*

## Дзесяты міжнародны...

На працягу двух тыдняў Віцебскае музычнае таварыства праводзіць X Міжнародны музычны фестываль імя І.Салярцінскага. У праграме — канцэрты прызнаных майстроў мастацтваў Беларусі, Расіі, Польшчы, навуковыя чытанні "Віцебскі рэнесанс пачатку XX стагоддзя", мастацкія выставы. На сцэне музычнага вучылішча, якое носіць імя нашага земляка, сусветна вядомага музычнага крытыка Салярцінскага, з поспехам прайшлі аўтарскі канцэрт, прысвечаны 85-годдзю з дня нараджэння кампазітара А.Багатырова, канцэрт заслужанага артыста Расіі, скрыпача С.Стадлера. Канцэрт "Сілуэты польскіх кампазітараў XX стагоддзя" прайшоў з удзелам старшыні Саюза кампазітараў Польшчы М.Малецкага. Фестывальная музыка завітала і ў сцэны дзіцячай музычнай школы, дзяржуніверсітэта, Полацкага Сафійскага сабора. Тут выступалі майстры з Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі, Полацкі камерны хор пад кіраўніцтвам Л.Жукавай, ансамбль салістаў "Класік-Авангард". Ідзя фестывалю — адраджэнне вялікіх культурных традыцый Віцебска.

## "Сузор'е муз"

Так называецца свята творчай інтэлігенцыі Віцебска, на якім штогод вызначаюцца лепшыя ў розных галінах мастацтва. Сёлета лаўрэатамі сталі: у галіне музыкі — арганізатар Віцебскага Міжнароднага фестывалю імя Салярцінскага, дырэктар абласной філармоніі Уладзімір Правілаў; у тэатральным мастацтве — актрыса Белдзяржакадэмтэатра імя Я. Коласа Тацццяна Ліхачова; у літаратуры і журналістыцы — галоўны рэдактар і выдавец часопіса "Диалог. Карнавал. Хронотоп", дацэнт ВДУ Мікалай Панькоў; у галіне архітэктуры і дызайну — Валерый Лукомскі; у галіне арганізацыі культурна-забаўляльнай дзейнасці — начальнік упраўлення культуры гарвыканкама Віктар Кібісаў; у выяўленчым мастацтве — мастак Фелікс Гумен...

Лаўрэаты атрымалі памятныя медалі, дыпломы і прэміі.

## На вернісажы Фелікса Гумена

На адкрыцці выставы Фелікса Гумена "Па Германіі акварэльнай" сабралася столькі прыхільнікаў таленту выдатнага віцебскага акварэліста, што нават яблыку не было дзе ўпасці. Работы мастака любяць за непаўторную выразнасць і гульню колераў, а яго самога — за незвычайную працавітасць.

— У сваёй вандроўцы па Германіі Гумен вельмі плённа працаваў, — расказвае пісьменнік, старшыня таварыства беларуска-нямецкай дружбы "Вілкомен — калі ласка" Уладзімір Папковіч. — З аркушам і фарбамі ён гадзінамі сядзеў пад дажджом, прыкрываючыся парасонам. І вынікам такой напружанай работы сталі 300 малюнкаў з Нямеччыны.

**Святлана ГУК**

# Вынікі падведзены

Падвядзенне вынікаў агляду спектакляў для дзяцей, уручэнне дыпломаў і прызоў парупіліся сумясціць з гаворкай аб праблемах дзіцячай сцэны, для чаго і зладзілі "круглы стол" у Тэатры юнага гледача.

Супрацоўнік Міністэрства культуры В. Дапкюнас нагадаў, што творчы шлях "адзінага ў свеце" беларускамоўнага тэатра для дзяцей пачынаецца з Любові Мазалеўскай. "Тэатр заўсёды пачынаецца з асобы", — падкрэсліў ён.

Старшыня журы, народная артыстка Беларусі Л. Давідовіч гаварыла пра астатквы прынцып у адносінах да дзіцячых спектакляў на дарослай сцэне. Ставяцца яны часта да канікулаў, у рэпертуары трымаюцца нядоўга, пастаноўкі даваяраюць звычайна маладым, каго трэба праверыць "на ўсходжасць".

З аналізам канкрэтных конкурсных спектакляў выступіла тэатразнаўца Т. Гаробчанка. Яна прывяла такую лічбу: кожны трэці школьнік і студэнт прыходзіць у тэатр упершыню ў жыцці. 47 працэнтаў купалаўскай публікі — выпадковыя людзі. Гэта азначае, што глядач не выхоўваецца з дзяцінства. Ды і як яму выхоўвацца, калі на вобласць звычайна адзін храм Мельпамены?

Т. Гаробчанка адзначала адсутнасць школьнай тэмы і ўбогуле спектакляў для моладзі. Нешматлікія выключэнні — "Пунсовыя ветразі" (пастаноўка У. Караткевіча ў Гомелі і Віцебску) і адзначаная на нядаўнім фестывалі ў Бабруйску "Апошняя пастараль" М. Дзінава на Вольнай сцэне. Што ж да агляду, то з 16-ці дзяржаўных тэатраў толькі 10 вылучылі свае спектаклі да яшчэ далучыўся Незалежны тэатр з Гомеля. Крытык высока ацаніла спектаклі В. Маслюка (Віцебск) — адзіны на беларускай мове, — Л. Бархатавай (Бабруйск), А. Андросіка (Мінск). З новых непаважаных тэндэнцый у спектаклях для дзяцей вылучаны "агрэсіўная візуальнасць" і іншыя невербальныя сродкі, разлічаныя на біялагічна-маторныя рэакцыі.

Кандыдат педагагічных навук В. Грачова распавяла пра асаблівасці ўспрымання тэатральнага відовішча дзецьмі. Ігнараванне ўзроставай спецыфікі падчас вядзе да крыўдных "праколаў". Малых, напрыклад, прыгнятаюць зацемненасць залы і чаканне "жахаў", падлеткі, наадварот, любяць пераадольваць страх і аддаюць перавагу фабульнасці. На фестывалі дзіцячых спектакляў — калі такі адбудзецца — пажадана, каб адначасна з дарослым існавала і дзіцячае журы.

Выступленні прадстаўнікоў ТЮГа А. Андросіка (ён жа — намеснік старшыні журы) і дырэктара Ю. Буты былі кароткімі, але "па справе". Першы агучыў пажаданне, каб важнасць дзіцячых пастановак у тэатрах займела матэрыяльны эфект, г. зн. каб яны маглі фінансавацца па лініі дзяржзаказу. Другі выказаў заўвагі па ўмовах агляду і яго арганізацыі.

Пераможцамі сталі наступныя спектаклі: **"Дзюймовачка"** бабруйчан, **"Каці-гарошак"** Коласаўскага тэатра і "Маленькі лорд Фаўнтлярой" ТЮГа.

Усе адзінадушна прызналі неабходнасць такіх конкурсаў для далейшага развіцця тэатральнага мастацтва для дзяцей. Праўда, "круглы стол" абмежаваўся "запланаванымі выступленнямі", і свабоднага абмену думкамі не адбылося. Тэндэнцыя нашага тэатра да закрытасці і статуснай іерархіі праявілася і ў гэты раз. Драматургі, крытыкі, журналісты прысутнічалі ў колькасці аднаго-двух, а пры сцяне для мэтраў тэатральнай справы выгарадзілі яшчэ адзін, адасоблены прэзідыум. Каб не змяшаліся, крый божа, з шараговай масай...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

ВЕЧАРЫНЫ

# "На хвалях успамінаў"

16 снежня Беларускі універсітэт культуры стаў месцам імправізаванага вяртання і сустрэчы "філарэтаў і філаматаў". Імпрэза прысвячалася 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча.

Бібліятэка, аддзел рэдкай кнігі, кафедра рэжысуры свят БУКа выступілі арганізатарамі незвычайнай сябрыны пад назвай "На хвалях успамінаў", якая пачалася з тэатральнай пастаноўкі "Вяртанне філарэтаў і філаматаў", выкананай студэнтамі 214-ай групы з удзелам і пад кіраўніцтвам рэжысёра Валерыя Мароза.

Чытальная зала бібліятэкі поўнілася гукамі мелодый Шапэна, на фоне якой разгортвалася дзея. Праз успаміны з лістоў да Браніслава Залескага паўсталі постаці сяброў, аднадумцаў і паплечнікаў Адама Міцкевіча і сам ён. Госці сябрыны сталіся гледачамі і слухачамі ягонай паэзіі, а таксама Тамаша Зана, Яна Чачота, Ануфры Петрашкевіча, Антона Эдварда Адынца і іншых, адначасова трапіўшы на пасяджэнне філарэтаў і філаматаў, якое было прымеркавана да дня нараджэння Адама Міцкевіча. Прысутныя адчулі сябе далучанымі да спраў філарэтаў і філаматаў, пранікнёнае выкананне студэнтамі вершаў не пакінула нікога абыякавым. Высокай пахвалы варты ўсе без выключэння выканаўцы роляў філарэтаў і філаматаў: Дзяніс Паршын, Андрэй Баравы, Уладзімір Мікалаеў, Мікалай Вяцкі, Андрэй Краўчук, Андрэй Баброўка, Раман Коцешаў, Сяргей Беляковіч, Андрэй Рында, Дзмітрый Казлоўскі, Ірына Жук, Вольга Пятроўская, Юлія Драздова.

У працяг тэатралізаванага дня нараджэння Адама Міцкевіча былі выступленні навукоўцаў, літаратараў, перакладчыкаў, прыхільнікаў творчасці Адама Міцкевіча, якія прыйшлі на сябрыну — Міколы Грынчыка, Язэпа Янушкевіча, Ірыны Багдановіч, Наталлі Булацкай, Любові Канапляннік, Зміцера Яцкевіча, Валерыя Мароза, Наллі Ічанкі, Уладыслава Завальнюка.

Сябрына сталася адначасова і своеасаблівай прэзентацыяй кніг (на жаль, без прысутнасці іх укладальнікаў) "Філарэты і філаматы" (укладанне і пераклад К. Цвіркі) і "Раса набёсаў на зямлі тутэйшай" (укладанне У. Мархеля), на аснове якіх быў зроблены сцэнарый пастаноўкі.

Пачэснае месца на сябрыне было адведзена і іншым выданням твораў паэта, а таксама сярод іх была і кніга Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш" (на польскай мове), выдадзеная ў Лодзі ў 1925 г., якая выкарыстоўвалася ў тагачасных гімназіях і на Беларусі. Гэтае выданне падараваў аддзелу рэдкай кнігі бібліятэкі доктар філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры БУКа М. Грынчык.

Добрым дапаўненнем сябрыны стала і фотавыстава "Светлым ценем Адама Міцкевіча", прадстаўленая Польскім інстытутам у Мінску, — фотаздымкі Адама Міцкевіча, месцаў яго жыцця, вандровак і прытулку, ілюстрацыі да яго вядомых твораў, ксеракопіі прыжыццёвых выданняў. Польскі інстытут, а таксама рэдакцыйна-выдавецкае прадпрыемства "Каўчэг" выступілі яшчэ і фундатарамі мерапрыемства.

**Л. ДОЎНАР**

*МАГІЛЁЎ...*

## Дні Адама Міцкевіча

Завяршаецца Міжнародны год вялікага беларускага і польскага паэта Адама Міцкевіча. Днямі народны тэатр-студыя Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры і вольнага часу паказаў спектакль "Дзяды" (трэцяя карціна).

Натхнёнае слова пра паэта сказаў дэкан філфака Магілёўскага універсітэта імя А. Куляшова, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Яраслаў Клімуць. Вершы і санеты А. Міцкевіча гучалі ў выкананні Вольгі Азаравай, Настассі Жлобіч і Раісы Ануфрыевай. Бард Павел Пастухоў праспяваў песню "Свіцязь", якую ён напісаў на аднайменны верш Рыгора Барадуліна.

У спектаклі былі занятыя артысты народнага тэатра Міхась Вараб'ёў, Лявон Падляцкі, Алег Загароўскі, Яраслаў Клімуць, Мікалай Паддубскі, Яўген Рокшын і іншыя.

## Ансамбль "Весялосць" — усюды добры госць

Народны ансамбль народнай музыкі і песні "Весялосць" упершыню выступіў перад гледачамі роўна 10 год таму. Арганізаваў ансамбль дырэктар Маслакоўскага сельскага Дома культуры Горацкага раёна Аляксандр Клешчанка.

"Весялосць" — лаўрэат трох міжраённых фестываляў "Грай, гармонік", пераможца конкурсу абласнога свята беларускай народнай музыкі, які штогод праходзіць у горацкай вёсцы Аўсянка, удзельнік вечарыны ў Мінску з нагоды 100-годдзя класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага, рэспубліканскага свята "Дажынкі-96", фестывалю народнай песні ў польскім горадзе Белападляска, пераможца конкурсу абласнога свята "Прыпеўка" ў Слаўгарадзе, дыпламант Першага рэспубліканскага свята народнага мастацтва "Беларусь — мая песня".

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

*ГОМЕЛЬ...*

## Пяты рэспубліканскі

Міністэрства культуры Беларусі, абласное ўпраўленне культуры, музычны каледж імя Н. Сакалоўскага сталі арганізатарамі пятага фестывалю лаўрэатаў міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў выканаўцаў на духавых і ўдарных інструментах. У фестывалі прынялі ўдзел калектывы Беларускай акадэміі музыкі, ліцэя пры гэтай установе, Беларускага універсітэта культуры, Баранавіцкі гарадскі духавы аркестр і духавы аркестр Гомельскага музычнага каледжа.

## Шэдэўры балетнай сцэны

Санкт-Пецярбургскі тэатр балета "Паўночныя мары" даў у Гомелі вялікае прадстаўленне "Шэдэўры класічнай харэаграфіі". У канцэрце былі прадстаўлены фрагменты балетаў Чайкоўскага, Шастаковіча, Штрауса, Мінкуса... У прадстаўленні прынялі ўдзел вядучыя артысты калектыву Тацццяна Прынц, Мая Радчанка, Мікалай Банкоў, Васіль Фядотаў і іншыя.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ГРОДНА...*

## І зноў гучалі вершы

Днямі ў абласным метадычным цэнтры народнай творчасці прайшоў урачысты вечар, прысвечаны 200-м угодкам Адама Міцкевіча. І зноў са сцэны гучалі неўміручыя вершы паэта. Салісты гродзенскай капэлы выконвалі творы XVIII—XIX стагоддзяў, песні на вершы Міцкевіча.

**Людміла ЛЕБЕДЗЬ**

# Ратуймася Купалам!

## ЗАМЕСТ ПАСЛЯСЛОЎЯ ДА АДНАГО СВЯТА

Мінулым летам быў я на свяце ў Бяларучах. "Свята" — мо й гучна сказана, аднак жа падзея там адзначалася неардынарная: сто гадоў назад Ян Луцэвіч, будучы пясняр Беларусі, атрымаў пасведчанне аб сканчэнні Бяларуцкага народнага вучылішча. У дадатак гэтая дата супала з завяршэннем рамонту, а больш дакладна — рэканструкцыі, практычна адбудовы нанова колішняга школьнага будынка ў знакамітай вёсцы. Мясцовыя лагойскія ўлады пастараліся: Бяларуцкая школа змянілася непазнавальна, на старым падмурку паўстаў проста-такі выдатны — светлы, прасторны, з густам аздоблены — асяродак асветы. Прыгадаўшы сваю пасляваенную школку, скіданую са счарнелых бёрнаў ацалелай калгаснай лазні, я шчыра пазайздросціў беларуцкім дзецям (на жаль, іх зусім мала ў прыгараднай на сёння вёсцы), якім пашчасціць вучыцца ў такім слаўным школьным будынку. Быў і трэці, мо самы галоўны момант святочнай імпрэзы: у адным з пакояў адбудаванай школы тым днём адчыняўся музей "Купала і Бяларучы", своеасаблівы філіял "вялікага" Купалаўскага музея, што ў Мінску.

Як бачыце, падстаў для наладжвання свята ў Бяларучах было дастаткова. І свята адбылося. Былі госці (пісьменнікі на чале з васьмідзесяцідвухгадовым Уладзімірам Юрэвічам, дзед якога па маці Мікалай Турчыновіч, будучы на той час дырэктарам Бяларуцкага народнага вучылішча, падпісаў першы адукацыйны дакумент Яна Луцэвіча; супрацоўнікі музея Янкі Купалы на чале з пляменніцай песняра Ядвігай Раманоўскай; лагойскае начальства на чале з намеснікам райвыканкама Антонам Навіцкім), быў невялікі канцэрт, падрыхтаваны вучнямі і настаўнікамі, была экскурсія па школьным музеі Янкі Купалы, якую надзвычай хораша, прафесійна правялі вучаніцы недзе пятага-сёмага класаў, было добрае, сардэчнае застолле з гарбатай, пірагамі, тортамі і іншым печывам — дзівосным плёнам адмысловай кулінарнай творчасці гасцінных гаспадынь-настаўніц на чале з абаяльнай і адначасова дзелавітай дырэктаркай Валянцінай Петракоўскай.

Для мяне, як ураджэнца Лагойшчыны, свята ў Бяларучах было асабліва шчымлівым. Некалькі гадоў назад Купалаўскі мемарыял-музей быў адчынены ў Акопах — Харужанцах на Лагойшчыне. Цяпер вось дайшла чарга і да Бяларучаў. Што ж, лепш позна, чым ніколі, хоць гэта й малое суцяшэнне. Тым не менш, для нас, лагойцаў, тым днём адбывалася не абы-якая падзея. Кажу — лагойцаў, бо сапраўдная калыска Купалы — усё ж Лагойшчына, песня ягоная ўзрасла і ўзгадавалася над Гайнай. Тут, на Лагойскай зямлі, слядоў яму нямала. А знакаў памяці — недаравальна мала. Вось цяпер ёсць, будзе — стараннямі добрых і слаўных людзей — яшчэ адзін знак увагі, пашаны і ўдзячнасці песняру, які "адплаціў народу, чым моц" яго змагла. А моц ягоная змагла многае. Неймаверна многае. Купала — не толькі народны паэт-пясняр, песні беларускай уладар, які "сэрцаў мільёнаў падслухаў біцця". Ён — наш Апостал, наш Прарок, наш Настаўнік, наш Дзяржаватворца, наш сапраўдны духоўны Бацька — не ў прыклад сённяшнім самазваным бацькам. Ён жыў, змагаўся і працаваў, адно марачы аб шчасці Беларусі. Ці збылася ягоная высокая і вялікая мара — убачыць родную Беларусь на сваім пачэсным пасадзе між народамі? На жаль, і па сёння не збылася...

Пэўна, таму й свята ў Бяларучах не надта ўсцешвала. Зрэшты, калі папраўдзе, дык і святам усё тое, што адбывалася, не надта й хацелася называць. Свята — гэта найперш людзі, многа людзей. А ў цудоўным, свежавыфарбаваным будынку школы сабралася жменька гасцей ды жменька вучняў і настаўнікаў. Сталых і старых бяларучаўцаў, колькі б іх ні было, як і жыхароў навакольных вёсак, свята не паклікала, не сабрала. Міжволі падумалася: а ці загляне хто ў гэты зусім неблагі школьны музейчык песняра, акрамя тутэйшых, бяларуцкіх школьнікаў? Вёска ж ляжыць на не надта торнай дарозе, і, па ўсім, наўрад ці будуць тут частыя экскурсіі юных і не юных турыстаў...

Там, у Бяларучах, падчас імпрэзы адкрыцця музея Янкі Купалы я прачытаў некалькі строф з вершаў песняра. Вось гэтыя:

*Ой вы, гусі-гудзіцелькі,*
*Не забудзеце зямелькі,*
*Дзе дзяцей пладзілі,*
*Дзе вы месячык страчалі,*
*Дзе вы зоркі падлічалі,*
*Плавалі, хадзілі.*
*Знаю, зложаце тут косці,*
*Толькі злётаеце ў госці*
*Асвяжыці грудзі:*
*Вы не ўмееце ўцячы, гусі,*
*Выракацца Беларусі,*
*Як умеюць людзі.*

*У беларускім вольным краі,*
*З ярэмнай збрыўшы стараны,*
*Царыць чужынец, а ў паслугах*
*Хто?*
*— Беларускія сыны!*
*Над беларускай беднай хатай,*
*Як полка вырвана з труны,*
*Вісіць чужы сцяг, а трымае*
*Хто?*
*— Беларускія сыны!*

*Не "незалежнасць" праз час гэты*
*Сваё разводзіла святло,*
*А падняволле без прасветы,*
*А рабства Беларусь гняло.*

*Адкуль і хто яны, адменцы?*
*Няма у кнігах роду іх:*
*Імя іх толькі — адшчапенцы,*
*А гэта ведама й без кніг.*
*Народ ім харамы паставіў,*
*Раллю капаў для іх, як крот,*
*Яны ж чужой прадалі славе*
*Сваю зямлю і свой народ,*
*У звоне золата ўтапілі*
*Трухлявы душ сваіх абраз*
*І на прадзедавай магіле*
*Спраўляюць радасны папас.*

*Спужайся, што хлапчук ў лапцёх,*
*Напаўадзеты вёскі сын,*
*У роднай мове ўчыцца змог?*
*О, стыдна, рускі "гражданін"!*

*А ўжо час працерць, здаецца,*
*Вочы хоць бы кулаком*
*І заняць у куце месца,*
*А не недзе за вуглом.*
*Не хадзіць жа век упрочкі*
*Ад сябе, не знаўшы дзе:*
*Быць затычкай пустой бочкі —*
*Сорам вольнай грамадзе!*

Гэта напісана вялікім Купалам у 1918, 19, 20, 25 і 26 гадах, 75—80 гадоў назад. А ўражанне такое, быццам напісана сёння нашым сучаснікам. І адрасаваны гэтыя радкі, "гэты крык, што жыве Беларусь", — нам, кожнаму з нас, сённяшніх беларусаў.

Сітуацыя ў нас сёння проста парадаксальная. Жывём быццам бы ў сваёй — па назве — дзяржаве, юрыдычна нават незалежнай, суверэннай, а на справе дык і зусім не ў беларускай. Беларушчына, як і цягам бясконца доўгіх гадоў перад гэтым, зноў у загоне. Асфальтавы каток русіфікацыі прасуе Беларусь бязлітасна. Нацыю, кажуць, стварае школа і царква. Якую ж нацыю стварае наша школа? Адказ адназначны — не беларускую. Беларускія дзеткі ў Мінску бароняць, як пчолкі вулей, свой адзіны ў сталіцы беларускай дзяржавы беларускі ліцэй. А пра царкву наогул гаварыць не выпадае. Каму сказаць пра гэта? Каму "нести печаль свою"? Хто пачуе? Во — Вялікага Купалы не чуем!

Сем дзесяткаў гадоў хавалі Купалу ад народа. А ён жа бачыў, разумеў і спадзяваўся. У 1926 годзе, калі ў тагачаснай БССР нібыта сапраўды адбудоўваўся Беларускі Дом, ён з нясцерпным сардэчным болем пісаў:

*Ёсць яшчэ ў мяне сіла*
*Крыўдзе не дацца, змагацца,*
*Над спячых продкаў магілай*
*Вольна маланкай мігацца.*
*Ёсць яшчэ ў мяне сэрца,*
*Поўнае шчырых жаданняў,*
*Якое перш разарвецца,*
*Чымся любіць перастане.*
*Ёсць жа яшчэ ў мяне песень,*
*Поўных надзей, жыцця, —*
*Як бы ні быў ім свет цесен,*
*Вырвуцца ў свет з нябыцця.*
*Ёсць жа яшчэ ў мяне вера*
*У вольны мой родны народ,*
*Што — у патрэбе — з сякерай*
*Выйдзе за волю ў паход!*

Ці адбудаваны Беларускі Дом? Не адбудаваны. А было ж зусім нядаўна...

Нарадзілася Незалежная Беларусь! Смела, актыўна, годна пайшла ў свет. Ачнуліся, збудзіліся ад летаргіі яе сыны і дочкі, адгукнуліся на покліч Бацькаўшчыны, памкнуліся да вялікай і нялёгкай працы дзеля яе адбудовы. Ды забыліся мы, што змены ў народзе адбыліся не толькі колькасныя, але й якасныя, і не ў лепшы, на жаль, бок; што шырока разлілася і запанавала ў народзе люмпенская ідэалогія. У выніку людзі нашы лёгка паддаліся дэмагогам, цынікам, хлусам, балбатунам, пакваліліся на пустыя абяцанкі. Вось і вярнуліся да ўлады колішняя наменклатуршчыкі, толькі трошкі ніжэйшага, раённа-абласнога, узроўню, не надта шляхетныя, не надта высокага інтэлекту і не надта цвёрдых маральных прынцыпаў. Тыя ж купалаўскія "адшчапенцы", па-цяперашняму — "інтэрнацыяналісты", "аб'ядналышчыкі", "злівальшчыкі", "інтэгратары", змагары за "стабільнасць у дзяржаве", за "спакой і адзінства ў нашым агульным доме". Мы таксама за ўсё гэта. Толькі ж — у якім доме? У Беларускім Доме ці ў "Белорусской губернии" Расіі? Хто ў гэтым доме будзе гаспадаром? Беларус, "зямлі і неба валадар", ці пыхлівы пан-прыблуда, які літасціва будзе дзяліць сваю ўладу з тутэйшымі манкуртамі і янычарамі, з тымі ж купалаўскімі "адшчапенцамі"?

Без адказу на гэтыя пытанні няшмат сэнсу разважаць над іншымі пытаннямі. Эканоміка краіны ўсё больш патанае ў нашай беларускай дрыгве, з якой і выкараскацца наўрад ці зможа, бо не адпускае нікога і ніколі дрыгва. А на ўсе пытанні адказ адшуканы і дадзены іншымі народамі даўным-даўно. Панацэя — нацыянальная ідэя. Толькі яна з'яднае, згуртуе народ, прынясе спакой і стабільнасць у дзяржаву, забяспечыць росквіт і эканомікі, і культуры.

На жаль, мы, беларусы, у сваім дзяржаўным доме не жывём сваім нацыянальным жыццём, а пачуваемся хіба кватарантамі — бясправўнымі, нясмелымі, пакорлівымі. Нацыянальная ідэя так і не стала нашай пуцяводнай зоркай. Беларусы аказаліся завельмі савецкімі людзьмі. Бадай, як ніводны іншы народ былога СССР. Пагардлівае "савок" — мянушка найперш ці не нас, беларусаў. Мы й пасюль лічым сваім галоўным абавязкам і нават доблесцю — слухацца начальства і нічым не вылучацца ад іншых, быць як усе. Хто і якім чынам дастукаецца ў нашы сэрцы? Адно спадзяванне — на Купалу. І тады паўстане з народа нашага Прарок, Пясняр, Ваяк і Уладар, каб "адбудаваць свой забраны пасад", бо народ "забыў, хто гаспадар і хто яго абдзёр з каронных шат"...

Вось таму і быў у мяне тым днём у Бяларучах не надта святочны, мінорны настрой. Бо ў нас усё — не як у людзей. Зірніце на суседзяў — палякаў, украінцаў, жамойтаў. Яны апантана, самаахвярна, дружна адбудоўваюць свае нацыянальныя дзяржавы. А мы? А ў нас пакуль што бясконца, з месяца ў месяц, ладзяцца і грымяць па ўсёй Беларусі розныя, адзін аднаму на змену, фестывалі. Мы спяваем, скачам, гуляем — сапраўды, гуляць дык гуляць! Быццам усё ў нас добра, адно што зламаўся ў некага (памятаеце казачку?) нейкі там сцізорык-складанчык. А зламаўся ж не сцізорык. Зламалася ўсё наша жыццё. Людзі нашы апынуліся ў галечы і безнадзейнасці. Як ніколі. Сённяшнюю нашу беднасць і безвыходнасць можна параўнаць хіба з пасляваеннымі. Утрырую? А зірніце — ці не больш сёння, чым па вайне, жабракоў-папрашайкаў? А колькі сірот у нашых дзіцячых дамах і школах-інтэрнатах? Таксама ці не больш, чым пасля вайны. Страшэнна гібеюць старыя, найперш адзінокія, бездапаможныя людзі, галоўным чынам у нашых вёсках, куды за ўсе часы савецкіх пяцігодак і перабудоў практычна так і не дайшла сучасная цывілізацыя. Жахлівыя памеры набыло п'янства і зладзейства, самыя розныя формы злачыннасці. А да ўсяго далучаецца — не магу не паўтарыцца — бяспрыкладная, страшэнная русіфікацыя. Мова наша цынічна, адкрыта, подла выцясняецца адусюль — з радыё, тэлебачання, з друку. Рэдкасцю робіцца беларуская кніга. І ўсё гэта — пад выглядам развіцця славутага двухмоўя. Вялікі начальнік паказаў прыклад, як трэба ганьбаваць, паскудзіць роднае слова. А людзі ў ладкі пляскаюць, крычаць на абаронцаў нашай мовы: "Абрыдлі вы са сваёй мовай! Яна не корміць!" Ну а хто ж мы без гэтай самай мовы? Без мовы, на якой размаўляюць-гамоняць рэкі і лясы гэтай зямлі, "нівы гутаркі вядуць", на якой шэпчуцца ветры і травы, шчабечуць птушкі, перагукваюцца пагоркі і курганы? Мы без роднае мовы не людзі нават, не тое што патрыёты. Ды акурат як на здзек нагаспечаны саюз моладзі атрымлівае назву патрыятычнага, і плоймы іншых "патрыётаў" вакол, якім косткай у горле — роднае слова, мова гэтай так палымяна любімай імі зямлі. Як зарвала, даруйце, усім. І начальнікам — вялікім і малым, і не начальнікам. Нават і жыхарам вёскі, калгасным кіраўнікам і спецыялістам, даяркам і трактарыстам. Яны таксама стараюцца з усіх сіл "говорить правильно", "не па-дзеравенскі", бо вельмі ж хочацца, проста нясцерпна хочацца быць як усе...

"Сёння ў нашай хаце свята..." Мо й няблагая сама па сабе песня, але ж — ці такое яно ўсеагульнае і паўсюднае гэтае свята ў нашых хатах? Сказана ж: "Што за смех, што за радасць, калі свет пастаянна палае? Ахутаныя цемрай, чаму вы не шукаеце святла?"

Як шукаць гэтае святло і дзе шукаць — падказвае Купала. Толькі трэба звяртацца да Яго. Святло гэтае — у любові да роднае зямлі, да маці і бацькі, да мовы і песні бацькоў, да родных вытокаў, да спадчыны, якая завецца ўсяго толькі "старонкаю роднаю".

Яшчэ і яшчэ раз — ратуймася Купалам! Услухаемся, што ён гаварыў сучаснікам (а значыць і нам, сённяшнім беларусам) у 1920 годзе, у такі ж цяжкі, як і сёння, для Бацькаўшчыны час. Услухаемся і ўзмоцнімся вераю:

"На беларускай зямлі было і цяпер ёсць шмат фальшывых прарокаў, шмат ренегацкіх душ, што за лыжку поснай поліўкі з чужой міскі западаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам, але гэтага няма чаго баяцца. У адным з псалмаў біблейскіх сказана: "стануў Бог у зграмаджэнні Багоў і паміж Багамі суды судзіць". Будзем верыць, што і ў нас, беларусаў, прыйдуць новыя людзі, новыя прарокі і будуць пабожаму над фальшывымі прарокамі і прадажнымі душамі суды судзіць, з пакалення ў пакаленне праклцямі ўспамінаць.

Дык не зважайма на здраду, а пойдзем далей сваім цярністым, але святляным шляхам, па якім дагэтуль ішлі, з верай і надзеяй к таму вечнаму сонцу праўды і справядлівасці для ўсіх і для кожнага паасобку, і будзе на Беларусі не такое свята, якое мы цяпер святкуем".

Трэба чытаць Купалу! Звяртацца да Купалы! Радзіцца з Купалам! І тады мы пачуем сваё сэрца!

*Не шукай сабе, мой братку,*
*З ветрам Бацькаўшчыну-матку*
*Ні на сушы, ні на моры,*
*Ні ў шчасці, ні ў горы,*
*Не шукай яе там, братку!*

*Яе знойдзеш вельмі блізка,*
*Як знаходзіць лес вятрыска,*
*Толькі ў сэрца глянь сваё ты,*
*І ў душу заглянь з ахвотай,*
*Знойдзеш Бацькаўшчыну блізка!*

Ратуймася Купалам!

**Мікола ГІЛЬ**

ЛіМ ЧАСАПІС

## Пісала па-польску

**Імя пісьменніцы Галены Раманоўскай наўрад ці гаворыць нешта сучаснаму чытачу, а яна ж у канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў плённа выступала ў літаратуры. Нарадзілася Галена Людвігаўна 26 снежня 1908 года ў Мінску. Скончыла польскі педагагічны тэхнікум і Беларускі вышэйшы педагагічны інстытут. Да вайны настаўнічала ў школах Дзяржынскага раёна і ў Мінску, працавала ў газеце "Орка" ("Ворыва"), на рэспубліканскім радыё, з 1944 па 1963 год зноў настаўнічала ў Мінску. Пісала па-польску, выступала ў перыядычным друку з вершамі і апавяданнямі. Асобнымі выданнямі выйшлі аповесці Г. Раманоўскай "З вясною ў спаборніцтве", "Пахне зямля", інсцэніроўка для дзяцей "У барацьбе за Саветы". Пераклала на польскую мову аповесць П. Галавача "Спалох на загонах", асобныя творы іншых беларускіх пісьменнікаў. Не стала Галены Людвігаўны 17 мая 1980 года. Не лішне нагадаць, што Г. Раманоўская была першай жонкай вядомага беларускага пісьменніка Станіслава Шушкевіча і маці былога Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. Шушкевіча.**

## Вярнула... Радзіма

**Яўген Барычэўскі родам з Мінска. Скончыў мясцовую гімназію, у 1903 годзе паступіў у Берлінскі універсітэт, праз год перавёўся на гісторыка-філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта. Вышэйшую адукацыю атрымаў у 1910 годзе. Выкладаў рускую літаратуру ў сярэдніх навучальных установах Масквы, выступаў з артыкуламі і даследаваннямі на старонках газет і часопісаў. З восені 1918 года пачаў працаваць вучоным сакратаром Наркамасветы. У сувязі са стварэннем у Мінску Беларускага дзяржаўнага універсітэта былі запрошаны многія вядомыя навукоўцы з Масквы, Ленінграда, іншых гарадоў. У шэрагу іх апынуўся і Яўген Іванавіч, а ў 1924—1927 гадах працаваў у Мінскай цэнтральнай партыйнай школе, у Інстытуце беларускай культуры, з 1927 па 1933 год — у Інстытуце літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР. На жаль, і Я.Барычэўскага не мінулі рэпрэсіі. Памёр 12 верасня 1934 года. Пісаў на беларускай і рускай мовах. Першая кніга "Мир искусства в образах" выйшла ў 1922 годзе ў Маскве. Выдаў працы "Тэорыя санета", "Паэтыка літаратурных жанраў", дапаможнік для студэнтаў-завочнікаў "Паэтыка. Курс для завочнага педфака", прымаў удзел у падрыхтоўцы Збору твораў М.Багдановіча ў двух тамах (1927—1928). У "Працах Беларускага дзяржаўнага універсітэта", часопісах "Маладняк", "Полымя", "Узвышша" выступаў з артыкуламі, прысвечанымі творчасці Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, а таксама рускіх, нямецкіх, французскіх пісьменнікаў.**

**17 снежня з дня нараджэння Я.Барычэўскага споўнілася 115 гадоў.**

## Выданні пра Слонім

**Сёння ў Слоніме — 53 тысячы жыхароў, а ў раёне — 23600. З іх 13 чалавек, якім больш чым па сто гадоў. Гэтыя дадзеныя прыводзяцца ў буклетах "Слонім" і "Слонімскі раён", якія сёлета выйшлі ў свет.**

**Цяпер у Слонімскім раёне налічваецца 147 населеных пунктаў, а ў горадзе каля 200 вуліц і завулкаў. Адлегласць ад Слоніма да Варшавы, напрыклад, — 436 км, да Кіева — 703 км, да Масквы — 999 км, а да Берліна — 1103 км.**

**Разам з тым у гэтых буклетах ёсць некаторыя недакладнасці. Напрыклад, чытаю: "На нашай земле родились и выросли писатели и поэты Валентин Тавлай...". Але ж В. Таўлай нарадзіўся ў Баранавічах. Нечытэльнымі з'яўляюцца ў гэтым буклеце і схемы "валовых производств продукции животноводства". А ў раздзеле "Жировичи" чытаю: "Успенский собор (начато строительство в 1613 г., окончено в 1650 г.)" На самай справе ён быў узведзены ў 1565—1616 гадах.**

**Літаральна на днях у гандлёвых крамах горада пачала прадавацца прыгожая карта "Слоним и Слонимский район", якая падрыхтавана Дзяржкамітэтам па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі Беларусі і выдадзеная ў Мінску. Такога выдатнага выдання ў нас яшчэ не было. Тут ёсць усё: назвы вуліц і завулкаў Слоніма, пабудоў горада, назвы вёсак раёна, дарогі і г.д. Проста, цудоўнае выданне не толькі для слонімцаў, але і для нашых гасцей. Праўда, і тут без памылак не абышлося. Асабліва ў назвах населеных пунктаў: "Деревянчица, Мильканавичи, Неростовичи, Веценювка, Бабиничи, Вишев, Миловань" і іншыя. А трэба Дзеравянчыцы, Мялканавічы, Нараставічы, Вяценяўка, Бабінічы, Вішава, Мілаванне.**

**Тым не менш выданні заслугоўваюць увагі.**

**Сяргей ЧЫГРЫН**

УГОДКІ

# "Жыцця ў жыцці мне мала. Мала!"

75 гадоў з дня нараджэння Анатоля Вялюгіна мы адзначаем без паэта. Запазнілася чарговая кніга Анатоля Вялюгіна "Заклён на скрутны вір", а ў выніку стала і апошняй, уласна вычытанай і падрыхтаванай паэтам да друку: памёр Анатоль Сцяпанавіч 24 лістапада 1994 года, а зборнік пабачыў свет у канцы 1995-га. А таму і стаў "Заклён..." і пэўным падагульненнем пройдзенага жыццёвага і творчага шляху, і адначасова запаветам. І ці не галоўным — любіць жыццё, якім бы складаным, цяжкім яно ні было.

Прага жыцця найперш у радках, што сталі да гэтай кнігі эпіграфам:

*Шумі, свяці, мой ясны ясень.*
*Жыццё люляла і ламала.*
*Я паўтару цяпер, як вязень:*
*жыцця ў жыцці мне мала. Мала!*

А жыццё А. Вялюгін пражыў ВЯЛІКАЕ. І справа, вядома, не ва ўзросце: нават калі ён размяняў восьмы дзесятак гадоў, глядзячы на яго мажную постаць, адчуваючы нязменны аптымізм, можна было падумаць, што сама мала гадоў пятнаццаць лёсам яму яшчэ адпушчана. Але за гэтым аптымізмам хавалася тое, што ведалі найбольш блізкія паэту людзі і што засведчыў у невялікім уступе да "Заклёна..." — "Хочаш, я табе скажу" — Уладзімір Някляеў: "Праз самагубства пакінула найблізкая жанчына, трагічна страціў адзіную дачку... Слабасць не даравау сабе ні выказаць, ні паказаць. Ні ў чым, ні перад кім. Манументальна стаяў на рагу Купалаўскай вуліцы, манументальна сядзеў за жалобным сталом. Іншым разам здавалася камень у ягоных грудзях". ВЯЛІКАЕ ў тым сэнсе, што жыццё А. Вялюгіна ўвабрала ў сябе шмат падзей вялікіх і малых і нікалі Анатоль Сцяпанавіч не заставаўся ўбаку ад іх, а быў самым актыўным чыннікам усяго, што адбывалася. Многае зведаў, калі ваяваў пад Сталінградам, шмат даведаўся, працуючы на працягу 38-мі гадоў (з невялікімі перапынкамі, праўда) рэдактарам аддзела паэзіі часопіса "Полымя", а перад гэтым, у 1945—1946 гадах быў літаратурным супрацоўнікам рэдакцыі "ЛіМа".

Наўрад ці можна знайсці яшчэ каго-небудзь з такіх "доўгажыхароў" у літаратурна-мастацкім выданні. Ды А. Вялюгін іншага месца не шукаў, бо да паэтычнага прызнання дадалося яшчэ адно — выхавальнік творчай змены. Сёння не адзін дзесятак паэтаў могуць сябе з поўным правам назваць сябе яго хрэснікамі. Яны дагэтуль удзячны А. Вялюгіну за тыя ўрокі, якія даў ім. А тады пачцівa ставіліся да свайго НАСТАЎНІКА, а некаторыя і да старэйшага ТАВАРЫША, не называючы яго інакш, як АДМІРАЛАМ. Права стаць "адміралам" у паэзіі, у якой столькі выдатных імён, столькі сузор'яў першай велічыні, трэба заслужыць. А. Вялюгін заслужыў. І паважным стаўленнем да літаратурнай моладзі, і уласнай творчасцю, у якой так шмат паэтычных жамчужын, у якой само дыханне паэзіі.

Каторы зборнік ні возьмеш — першы "Салют у Мінску", выдадзены ў 1947 годзе, ці наступныя — "Негарэльская арка" (1949), "На подступах" (1952), "На зоры займае" (1958), "Насцеж" (1960), "Верасовы ўзвытак" (1974) і іншыя, абавязкова напаткаеш вершы, якія не толькі радуюць, а дазваляюць каторы раз здзіўляцца навычэрпным магчымасцям паэтычнага слова. А. Вялюгін паэзіяй жыў, а жывучы ёй, дапамагаў у гэтым і іншым, хто гэтаксама неабыякавы да прыгожага, чый эстэтычны густ мацуецца на сапраўдным харастве. Вершы яго напісаны без патугі, яны прамоўлены нібыта на адным дыханні. І сярод іх нямала такіх, што адразу сталі хрэстаматыйнымі, а правільней — класічнымі. Як "Спелы бор", напісаны яшчэ ў 1959 годзе:

*З усіх сабораў ёсць сабор,*
*дзе згодзен я маліцца:*
*у спелым леце, спелы бор,*
*звіняць твае званіцы.*

*У душным водары палян,*
*дзе маладосць хадзіла,*
*багун, дурнічнік, дурнап'ян —*
*раздзьмулі ўсе кадзіла.*

*Стаяць палкі баравікоў,*
*дрыжыць басок чмяліны.*
*Глыбокі мох,*
*на лісцях кроў*
*мядзведжае маліны.*

Было б аднак памылковым сцвярджаць, што нішто ў творчасці А. Вялюгіна не патрабуе карэкціроўкі часам. І ў яго з'яўляліся вершы, якія сёння паўстаюць толькі данінай свайму часу. Нельга аднаэначна паставіцца і да паэмы "Вецер з Волгі", якая некалі мела вялікі рэзананс і была ў 1964 годзе адзначана Літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы. Але ж, не будзем забываць, што справа не толькі ў тым, што ў ёй расказваецца пра маленства і юнацтва Уладзіміра Ульянава. Твораў пра Леніна з'яўлялася шмат, а прэмію атрымлівалі нямногія, толькі тыя, якія былі пазначаны майстэрствам. А яно асабліва відавочна ў лірычных адступленнях:

*Схаваўся снег у засень,*
*дзе шумна ля акон*
*абняўся з вязам ясень,*
*з таполяй — гонкі клён.*

*Чакаюць церпяліва,*
*пасталі ля варот.*
*Няўжо з такіх шумлівых*
*збіраюць эшафот?*

Гэтаксама і са шматлікіх фільмаў, створаных па сцэнарыях А. Вялюгіна (каля 50 дакументальных стужак, сярод якіх амаль трэць поўнаметражных, а яшчэ два мастацкія, адзін з іх двухсерыйны) лепшыя і сёння глядзяцца з вялікай цікавасцю, у тым ліку і поўнаметражны дакументальны "Генерал Пушча", адзначаны ў 1968 годзе Дзяржаўнай прэміяй БССР, а таксама "Дарога без прывалу", "Балада аб мужнасці", "Навальнічная далеч памяці" і іншыя. Да асобных з іх Анатоль Сцяпанавіч сам напісаў тэксты песень.

Дый, як кожны, хто пражыў немалое жыццё, ёй апошнім часам мусіў шмат пераасэнсоўваць, удакладняць. А ў выніку прыйшла чарга і да аднаго з лепшых вершаў "Прызнанне ў любові", напісанага ў 1958 годзе. У перапрацаваным выглядзе ён стаў "Паэмай любові". Засталося галоўнае:

*Я заўсёды баюся*
*напышлівых выцвілых слоў,*
*што звіняць,*
*як жабрацкая медзь у асенняй журбе.*

З'явілася новае, дзякуючы чаму любоў паэта да Бацькаўшчыны набыла яшчэ больш выразны сэнс, канкрэтызавалася, а сам ён у пэўнай ступені і падвёў апошнюю рысу пад пражытым:

*Прышлы век, ён даўжэй*
*смутнай прошласці ў плачы вятруг —*
*не стаміла работа цябе,*
*не зламала вайна.*
*А ці ўспомніш калі,*
*як імкнецца мой круг:*
*з салаўінае пушчы калыска —*
*з дрымотнага бору труна?..*

*Я й тады паднімуся,*
*стамлёны ў паходзе трубач,*
*каб уславіць твой Сцяг*
*і тваю маладую хаду.*
*Можа, словы не тыя?..*

---

Паўлюк ПРАНУЗА

### Паэзіі крыштальнай зерні...

Анатолю ВЯЛЮГІНУ*

*Лёс неспакойны чалавечы!*
*Пражыў ты семдзесят гадоў,*
*Ён узваліў табе на плечы*
*Нямала цяжкіх валуноў.*

*Мінулага ужо не вернеш,*
*Пайшлі у небыццё гады*
*Паэзіі крыштальнай зерні*
*У сэрцы сеяў маладых.*

*Ты пасталеў, ты стаў ссівелым,*
*Яшчэ жадаю многіх свят.*
*Не бойся мірных артабстрэлаў,*
*Бо франтавік ты і салдат.*

*І будзь жа надалей салдатам;*
*Жыццё — змаганне, праца, бой.*
*Салдат, я думаю, што атам*
*З магутнай сілай выбухной.*

27 снежня 1993 г.

*Верш прысвячаўся 70-гадоваму юбілею паэта. Друкуецца ўпершыню.

---

# Як быццам чытае на памяць паэму...

## ЯШЧЭ АДНА ІПАСТАСЬ МІЦКЕВІЧА

Што мы ведалі ў школе і пасля школы пра творчасць Адама Міцкевіча? Пра жыццё ў Навагрудку, частае наведванне Карэліцкіх мясцін. А ён жа хадзіў і ездзіў па той самай зямельцы, па якой ходзім і ездзім сёння мы, бачыў тыя ж туманы ў нізінах, любаваўся краявідамі Райцаў і Туганавіч, Варончы і Свіцязі, удыхаў пах спелай збажыны і водар свежаскошаных лугоў, углядаўся восьу гэтае сіняе неба, не мог налюбавацца на родныя палі, лясы, гоні, лугі, дарогі, рэчкі, азёры...

Гаворачы пра ролю творчага натхнення ў жыцці мастака, пра лёс творцы, Ян Парандоўскі ў займальнай кнізе "Алхімія слова" пісаў: "Міцкевіч быў паэтам усяго толькі некалькі гадоў, і яны далі ўсё — ад балад да "Пана Тадэвуша". Пасля гэтага ён жыў і дзейнічаў як палітык, публіцыст, лектар універсітэта і апостал, законны жыццё сваё салдатам".

"З музыкі хлеб невялікі", — кажуць у народзе. А ў паэта які хлеб? Паэтычным дарам сыты не будзеш. Няхай не бянтэжаць высокія ганарары вядомых пісьменнікаў, яхты Гі дэ Мапасана і велізарныя заробкі Метэрлінка. Аляксандр Дзюма-сын, паказваючы свой шыкоўны з мармуру дом з садам і басейнам у Парыжы, заўсёды падкрэсліваў, што ўсё гэта куплена за пастаноўку "Дамы з камеліямі". Служылі, служаць і сёння амаль усе паэты, і Адам Міцкевіч не быў выключэннем.

Жыццё Міцкевіча ў Парыжы складвалася даволі цяжка. Ён не любіў Парыж. "Парыж мне так надакучыў, — пісаў ён Адынцу, — што я з цяжкасцю магу яго вытрымаць". У другім лісце: "Я жыву тут амаль у поўнай адзіноце, з людзьмі мне ўсё цяжэй ужывацца, і чым я менеј іх бачу — тым лепей для мяне".

У 1834 годзе Міцкевіч ажаніўся з дачкой піяністкі Марыі Шыманоўскай Цэлінай, якую ён яшчэ падлеткам ведаў у Расіі. Праз год у іх нарадзілася першае дзіця, а затым яшчэ пяцёра. Матэрыяльныя ўмовы жыцця былі надзвычай складанымі.

Трэба было зарабляць на хлеб і на малако для дзяцей. Вось чаму паэт нават спрабаваў пісаць п'есы на французскай мове, пастаноўка якіх магла прынесці добры дастатак у сям'ю (паэт ведаў, што п'есы, якія ставіліся на французскіх сцэнах, добра аплочваліся). Але гэтым надзеям не суджана было спраўдзіцца. П'есы "Барскія канфедэраты" і "Якуб Ясінскі" не былі пастаўлены, бо не маглі зацікавіць французскага гледача.

У 1838 годзе Міцкевіч атрымаў кафедру рымскай славеснасці ў Лазанскім універсітэце. Здавалася б, жыццё пачало наладжвацца. Ён працаваў у акружэнні сусветнавядомых прафесараў, яго любілі студэнты, лекцыі слухалі з цікавасцю. Праца выкладчыка яго задавальняла і прыносіла спатаненне душы. Але якраз душэўнага спакою і не было.

"Я жыву ў прыгожым доме, — пісаў ён з Лазаны, — у мяне тут вялікая зала з велізарнымі люстэркамі і шырокімі вокнамі, з якіх адкрываецца від на сад і возера. Па праўдзе кажучы, гэтая кватэра — самая большая і, бадай, адзіная мая ўцеха. Часам на мяне находзіць туга па Літве, і ўвесь час бачу ў сне Навагрудак і Туганавічы". (Ён пісаў *Тухановічы.*)

Вокны кватэры выходзілі на Жэнеўскае возера і на Альпы. Менавіта ў той час і менавіта там нарадзілася паэтычная мініяцюра "Паліліся мае слёзы..." Гэта былі слёзы па няспраўджаным каханні, якое не па віне закаханых не стала шчаслівым. А тут яшчэ да агульных згрызот і мітрэнг далучыла-



*Сям'я А. Вялюгіна*



*З маладымі паэткамі.*



*А. Вялюгін на кінастудыі.*

***Прабач, мне, Радзіма, прабач —***
***для цябе, дарагая,***
***сапраўдныя словы знайду.***

І ўжо адтуль — не, не з небыцця, а з вечнасці! — гучыць паэтава:

***Я паўтару цяпер, як вязень:***
***жыцця ў жыцці мне мала. Мала!***

Жыццё А. Вялюгіна працягваецца. У паэзіі. У чытацкай памяці. І будзе працягвацца заўсёды.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*Фота Ул. КРУКА.*

---

ся псіхічнае захворванне жонкі. Заставацца ў Лазане было немагчыма. Тады ж Міцкевіч даведаўся, што пад Парыжам у Калеж дэ Франс адкрываецца кафедра славянскіх літаратур. Ён зрабіў усё магчымае дзеля таго, каб заняць кафедру, баючыся, як казаў сам, каб такую кафедру не ўзначаліў які-небудзь немец, г.зн. чалавек, мала знаёмы са славянскімі літаратурамі, халодны і разважлівы.

22 снежня 1840 года Адам Міцкевіч прачытаў сваю першую лекцыю з кафедры Калеж дэ Франс. Для паэта гэта была адзіная трыбуна, з якой ён гаварыў аб польскім народзе, аб ідэі славянскага адзінства і моцы славянскіх каранёў. Галоўнай задачай і асноўным зместам курса славянскіх літаратур, які ён чытаў, стала ідэя магутнасці і сілы славянскіх народаў, іх ролі ў грамадскім прагрэсе ўсяго чалавецтва. Паэт неадноймчы горача і натхнёна гаварыў пра адметнасць славянскай душы, нацыянальнага характару, загадкавасць славянскага менталітэту і адлюстраванне гэтых рыс у літаратурах славянскіх народаў.

Паэт-выкладчык заклікаў славянскія народы да яднання, каб усім разам супрацьстаяць чужынцам і асіміляцыі, каб усяму славянскаму братэрству заняць свой "пачэсны пасад між народамі". Гісторыя літаратур паказвалася ў сувязі з гістарычным развіццём краіны, з часам, з асяроддзем. Рух часу — рух грамадства — рух літаратуры, — такі падыход пісьменніка да выкладання, такая формула спасціжэння эстэтычнага і духоўнага багацця, ідэйнага зместу літаратур.

У заходніх універсітэтах цяпер уведзены амаль паўсюдна пасады паэта-прафесара. Адам Міцкевіч ці не першы паэт-прафесар у заходнім вялікім свеце...

Першы курс лекцый Міцкевіча ахопліваў гісторыю літаратуры славянскіх народаў да XVII стагоддзя. Гэтыя лекцыі выклікалі асаблівую цікавасць. Паэт шмат распавядаў пра свае асабістыя сустрэчы з Пушкіным, Вяземскім, Жукоўскім. На лекцыі да Адама Міцкевіча прыходзілі Жорж Санд, гісторык Мішле, Фрэдэрык Шапэн. А дзекабрыст Мікалай Тургенеў і яго брат Аляксандр перапісвалі лекцыі слова ў слова і слалі ў Расію з надзеяй калі-небудзь надрукаваць цыкл лекцый генія польскай літаратуры.

Імя Адама Міцкевіча стаяла ў адным шэрагу з віднейшымі вучонымі-славістамі сваёй эпохі, і ён апраўдваў гэтае высокае званне нястомнай і карпатлівай працай лектара.

Другі лекцыйны ліст істотна адрозніваўся ад першага. Шматлікія жыццёвыя перыпетыі паўплывалі на змест і характар лекцый. Раней у нашым літаратуразнаўстве гэты перыяд падаваўся ў негатыўным плане. Маўляў, Міцкевіч падпаў пад згубны ўплыў месіянства, стаў узвялічваць Напалеона, у чым урад Луі Філіпа бачыў пагрозу.

Ці такім ужо бясплённым быў гэты перыяд для паэта?

*(Працяг на стар. 15)*

---

# Крытыкай не заўважаны

## Аляксею КУЛАКОЎСКАМУ споўнілася б 85...



Цяжка сказаць, ці здагадваўся Аляксей Мікалаевіч, пішучы сваю чарговую аповесць "Дабрасельцы", што яна атрымае такі рэзананс у партыйных колах. Магчыма, і прыходзіла думка, што асаблівых апладысментаў не будзе. Але каб разгарнулася цэлая кампанія непрыняцця твора, абвінавачванне ў ачарненні савецкай рэчаіснасці?! Такое і ў галаву прыйсці не магло. На календары быў жа 1958 год, ішла так званая хрушчоўская адліга, краіна знаходзілася пад уражаннем XX з'езда КПСС, на якім першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Мікіта Хрушчоў сказаў праўду пра ганебныя вынікі культу асобы Іосіфа Сталіна. Партыя заклікала да крытыкі негатыўных з'яў у жыцці. А такога негатыву А. Кулакоўскі сустракаў шмат, бо не заседжваўся ў цішы кабінетаў, часта выязджаў у камандзіроўкі.

Жыццё падказала яму і змест гэтай аповесці, аб чым сведчыў невялікі ўступ "Ад аўтара", які папярэднічаў публікацыі твора ў пятым нумары часопіса "Маладосць" за 1958 год, у якім А. Кулакоўскі працаваў галоўным рэдактарам: "З год таму назад мне давялося размаўляць з адной дэпутаткай Вярхоўнага Савета БССР, старшынёй сельсавета, вельмі сціплай і разумнай жанчынай. Яна шмат расказала мне пра сваю мінулую работу. Нельга было без хвалявання слухаць, як яна гаварыла аб тым вялікім уздыме сельскай гаспадаркі, які распачаўся ў калгасах сельсавета пасля верасвёўскага Пленума ЦК КПСС, аб актыўнай і небывалай ініцыятыве калгаснікаў — гаспадароў зямлі".

Асабліва пераканаўчым у аповесці атрымаўся старшыня Чырванамакаўскага сельсавета Лявон Мокрут, якога людзі інакш, як "князькоМ і сабакам у ... сельсавеце", не называлі. Ды і старшыня дабрасельскага калгаса Шулаў узяты з самога жыцця. Як і многія іншыя. А самае галоўнае, што ім на вёсцы (а значыць, і ў аповесці) ніхто не супрацьстаіць. Не могуць супрацьстаяць беззаконню, хамству, усёдазволенасці, якія так моцна пусцілі карані. У выніку і атрымалася, што А. Кулакоўскі паказаў жыццё "чорнымі фарбамі". Менавіта так — "Чорнымі фарбамі" — называлася і рэцэнзія, з якой апераtыўна выступіў у "ЛіМе" Якаў Герцовіч.

А пасля — "пайшло-паехала". Зрэагавалі "Звязда", "Советская Белоруссия". Апошняя да абмеркавання твора "падключыла" народныя масы; у ролі крытыка і літаратуразнаўцы выступіў старшыня калгаса імя ЦК КПБ тадышняга Рудзенскага раёна П. Каскоў. Назва артыкула адпаведная — "У крывым люстэрку". Потым было адпаведнае рэагаванне.

Як паведамляў "ЛіМ" 2 ліпеня 1958 года, "днямі адбылося сумеснае пасяджэнне бюро ЦК ЛКСМБ і прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Было абмеркавана пытанне аб рабоце рэдакцыі часопіса "Маладосць" па выхаванні літаратурнай моладзі". І далей: "Выступаючыя адзначылі, што аповесць А. Кулакоўскага "Дабрасельцы" — памылковы, ідэйна-заганны і слабы ў мастацкіх адносінах твор, у якім у крывым люстры паказана жыццё людзей калгаснай вёскі. Прамоўцы згадзіліся з тымі крытычнымі заўвагамі, якія ўжо былі выказаны... у нашым друку". Аляксей Кулакоўскі "прызнаў сваю памылку, сказаў, што паспяшаўся з надрукаваннем недапрацаванага твора, не прадумаў глыбока ідэі, якая лягла ў аснову аповесці і паводзін герояў. А. Кулакоўскі заявіў, што ён мае намер яшчэ шмат працаваць над сваёй аповесцю і карэнным чынам перарабіць яе".

Аляксея Мікалаевіча вызвалілі ад пасады галоўнага рэдактара "Маладосці". Перапала А. Кулакоўскаму і на IV з'ездзе пісьменнікаў БССР...

"Білі" Аляксея Мікалаевіча і з іншай нагоды, хоць, праўда, не так балюча, як за "Дабрасельцаў". Пра гэта сведчыў і Іван Шамякін у прадмове да Збору твораў А. Кулакоўскага ў чатырох тамах у 1970 годзе: "У Аляксея Кулакоўскага вельмі нялёгкае жыццё. Такі ж нялёгкі і творчы шлях. На яго долю выпала даволі ран фізічных і душэўных, перажыванняў ад страт блізкіх людзей больш, чым каму-небудзь другому з яго равеснікаў, удараў крытыкі, якая не заўсёды разумела індывідуальнасць, своеасаблівасць творчасці гэтага мастака". Але, не зважаючы ні на што, працаваў ён плённа і мэтанакіравана.

А пачынаў пісаць А. Кулакоўскі яшчэ ў даваенны час як журналіст, аўтар нарысаў, замалёвак. У якасці празаіка творчыя магчымасці паспрабаваў у 1945 годзе, перад гэтым паспеў папрацаваць газетчыкам, выкладчыкам адной са школ на Магілёўшчыне, а ў гады вайны быў камандзірам узвода, потым камандаваў ротамі на Сталінградскім і Украінскім франтах, да мірнага жыцця вярнуўся тройчы параненым.

З першых яго апавяданняў лепшыя не страцілі мастацкіх якасцяў: "Стары млын", "Мікіта Мінавіч", "Сад", "Нямко", "Радзіны ў Забродскіх" і іншыя, у якіх прататыпамі галоўных герояў былі зем\лякі, найперш з роднай вёскі пісьменніка Кулакі, якая цяпер уваходзіць у склад Салігорскага раёна. У гэтым сэнсе А. Кулакоўскі блізкі да Кузьмы Чорнага, які пастаянна "пісаў" сваіх цімкаўцаў, а з сучасных пісьменнікаў — да Івана Пташнікава, таксама моцна прывязанага да таго кута, дзе прайшло маленства.

Добрае веданне жыцця вяскоўца адчуваецца і ў першай аповесці А. Кулакоўскага "Гартаванне", хоць твор напісаны на модную тады ў літаратуры тэму рабочага класа, на распрацоўку якой не адно дзесяцігоддзе арыентавала літаратараў партыя. Але галоўны герой аповесці Васіль Патрончык найбольш псіхалагічна праўдзівы не тады, калі паказаны ў блізкім яму рабочым асяродку. Мастацкай пераканаўчасцю вызначаюцца эпізоды з маленства героя. Гэта тычыцца і іншых твораў. Хоць А. Кулакоўскі нямала пісаў пра рабочых, у прыватнасці, пра тых, хто працуе на салігорскіх калійных камбінатах (гэтаму ў немалой ступені паспрыяла тое, што вёска Кулакі апынулася ў цэнтры распрацоўкі радовішчаў солі, а многія, каго добра ведаў Аляксей Мікалаевіч, памянялі сваю прафесію), тым не менш, паколькі ён быў бытапісальнікам па складзе свайго таленту, куды больш уражваюць аповесці, апавяданні, у якіх аўтар акунаецца ў блізкую і добра знаёмую яму вясковую стыхію. Гэта ж тычыцца і твораў, у якіх згадваюцца падзеі мінулай вайны і дзе А. Кулакоўскі таксама ў многім ішоў ад уласна перажытага і выпакутаванага.

У тым ліку і ў дылогіі, што складаецца з раманаў "Расстаёмся ненадоўга" і "Сустрэчы на ростанях". У галоўным героі Андрэю Сакольным у многім угадваецца сам аўтар. Асабліва ў першым рамане, у якім Сакольны, гэтаксама, як і А. Кулакоўскі, быў цяжка паранены. Прысутнасць асабістай біяграфіі ў другой частцы дылогіі іншага кшталту. Тут А. Кулакоўскі ішоў ад, так сказаць, унутранай біяграфіі, выкарыстоўваючы тое веданне партызанскага жыцця, якое пачэрпнуў падчас працы над кнігай мемуараў камандзіра Мінскага партызанскага злучэння, сакратара падпольнага абкома КПБ, Героя Савецкага Саюза Васіля Казлова "Людзі асобага складу", якая вытрымала некалькі выданняў.

Належаў жа А. Кулакоўскі да пісьменнікаў творча актыўных. Пасля выхаду Збору твораў у чатырох тамах у яго з'явілася некалькі новых кніг. У тым ліку і раманы "Сцежкі зведаныя і нязведаныя" і "Васількі", якія чарговы раз засведчылі шырыню творчых інтарэсаў аўтара. У першым рамане А. Кулакоўскі па-новаму асэнсоўвае падзеі калектывізацыі, а таксама вайны, у "Васільках" расказвае пра салігорскіх шахцёраў.

Не стала Аляксея Мікалаевіча 9 красавіка 1986 года.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

 **ЧАСАПІС**

## “Беларускі калекцыянер” жыве

**Газета “Беларускі калекцыянер” была заснавана яшчэ ў 1990 годзе, а паколькі гэта недзяржаўнае выданне, не мае пастаянных спонсараў, дык і выходзіць нерэгулярна. Тым не менш знаходзіць свайго ўдзячнага чытача, бо матэрыялы, змешчаныя на старонках “БК”, у асноўным такія, якіх у іншых газетах і часопісах не сустрэнеш.**

**Нядаўна пабачыў свет другі ў сёлетнім годзе (17-ы з часу выдання) нумар, пазначаны кастрычнікам. Атрымаўся шаснаццаціпалоснік, памер якога ўдвая меншы, чым у “ЛіМа”. Рэдактар — Алесь Сярожкін. Наклад невялікі, усяго 299 асобнікаў. А прачытаць ёсць што. Узяць хоць бы артыкул вядомага калекцыянера Л. Коласава “Беларускія фальсіфікатары”. Аказваецца, знайшліся на Беларусі тыя, хто паспрабаваў (і зрабіў гэта) пусціць у абарачэнне фальшывыя маркі. А выкарыстоўвалі для гэтага афіцыйныя маркі, на якія дадрукоўваліся розныя тэксты, мяняўся намінал. Адбывалася гэта адразу пасля распаду СССР. У якасці ілюстрацыйнага матэрыялу прыводзяцца выявы гэтых, з дазволу сказаць, марак і блокаў. А вось у Маладзечне на законных асновах выпусцілі чатыры паштоўкі, на якіх мастак Ю. Герасіменка-Жызнеўскі адлюстраваў воблікі Васіля Захаркі, Кастуся Езавітава, Палаты Бадуновай і Язэпа Драздовіча. Рэпрадукцыі паштовак можна ўбачыць у газеце. Чытач пазнаёміцца і з такімі артыкуламі, як “Беларуская замежная пошта”, “Мясцовыя выпускі беларускіх латарэй”, “Дзяржаўны знак”, “Апавядаюць старыя дакументы”, “Кароткі агляд нумізматычнага рынку”. І, зразумела, вялікую цікавасць выклікае “Прэйскурант паштовых марак Рэспублікі Беларусь”, кошт якіх дадзены як у намінале, так і ў доларах і нямецкіх марках на філатэлістычным рынку.**

## Шэні. Пружаны. Мікола Засім...

**Пружаншчына адзначыла 90-ыя ўгодкі аднаго са сваіх знакамітых сыноў — паэта Міколы Засіма. Пачатак юбілейных урачыстасцяў прыпадае на яго родную вёску Шэні, дзе ў школе імя Міколы Засіма працуе адкрыты дзесяць гадоў назад літаратурны музей. Вечарына адбылася ў мясцовым клубе, куды сабраліся вучні і настаўнікі школы, родзічы паэта, прыхільнікі ягонай паэзіі. Блізкія казалі ўспамінальнае слова, прагучала кампазіцыя па творах М. Засіма, сярод якой асабліва вылучаліся разнатэмныя частушкі, а таксама песні на словы паэта.**

**Другі вечар адбыўся ў Пружанах у літаратурнай гасцёўні “Сустрэча”. І тут была традыцыйная для мерапрыемстваў такога кшталту літаратурна-музычная праграма па творах юбіляра, гучалі беларускія народныя песні.**

**На гэтым жа вечары былі падведзены вынікі раённай віктарыны “Ці ведаеце вы творчасць Міколы Засіма?”. Пытанні віктарыны загадзя былі распрацаваны супрацоўнікамі райбібліятэкі і надрукаваны на старонах газеты “Раённыя будні”. Пераможцы яе атрымалі ў якасці падарункаў бібліятэчкі кніг мастацкай літаратуры.**

**У літаратурнай гасцёўні чытаў свае вершы Мікола Пракаповіч, мясцовыя паэты. Абласная студыя тэлебачання здымала ўрачыстасці, так што неўзабаве з тэлеверсіяй названых падзей пазнаёміцца шырокі берасцейскі глядач.**

**І яшчэ адзін прыемны сюрпрыз — да святкавання выйшаў з друку новы зборнік твораў Міколы Засіма “Вершы”, дзе сабраныя яго лепшыя творы. Фундатарам выдання стаў родны калгас пісьменніка “Ленінскі шлях”.**

**Уладзімір ТАРАСЮК**

## Пісьменнік, генерал, чалавек...

**Іх усё менш і менш сярод нас, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны...**

**Але памяць пра мужных абаронцаў Радзімы жыве ў нашых сэрцах, у памяці ўдзячных нашчадкаў.**

**У Доме афіцэраў адбылася літаратурная вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння вядомага пісьменніка, генерал-маёра Мікалая Іванавіча Аляксеева. Ладзілі і правялі гэтую вечарыну Саюз беларускіх пісьменнікаў сумесна з Міністэрствам абароны РБ.**

**З цікавымі ўспамінамі і расказам пра жыццё і творчасць пісьменніка выступілі першы намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, пісьменнікі Анатоль Сульянаў, Браніслаў Спрынчан, Іван Скарынкін і В. Карпухін — выхаванец Сувораўскага вучылішча, якое пасля вайны ўзначальваў М. Аляксееў.**

**У юбілейнай вечарыне прынялі ўдзел родныя і блізкія пісьменніка.**

**Я. ІВАНОЎ**

ПАЭЗІЯ

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ



## Я шукаю на тварах святла...

●

*Мне пранікліваець доля дала:*
*Я шукаю на тварах святла.*
*Я шукаю чагосьці такога,*
*Што з'яўляецца*
*сведчаннем Бога.*

*Ды, бывае, не бачу нічога,*
*Толькі шэрасць бяздум'я і тла.*

●

*Падсыпае снегу, падсыпае...*
*Бель непераможна наступае.*
*Што ж я мітушуся,*
*як сляпая?*

*Будзе так, як будзе.*
*Немінуча.*
*Толькі ты няпэўнасцю не мучай.*
*Я была і стану шчэ відушчай.*

*Мне турботы не дадуць прапасці.*
*Дзве крывінкі поруч —*
*Лена з Насцяй...*

●

*Людзі, адграбайцеся ад зла.*
*Самой мне гэта рэдка удаецца.*
*Бывае так,*
*што камянее сэрца*
*І не стае вачам маім святла.*

*Але мінае чорны момант той,*
*Ўсясільны промень*
*хмары расхінае,*
*І я тады ад светлых слёз сляпая,*
*І цэлы век*
*жадала б быць сляпой.*

●

*Калі мы адыдзем —*
*застануцца рэчы:*
*Кнігі, збудаванні*
*ды рыштунак нечы.*
*Застануцца рэйкі*
*разам з цягнікамі,*
*Кубкі і карціны,*
*кросны з чаўнакамі.*

*Ад красунь — пярсцёнкі,*
*ад шаўца — нажніцы,*
*Ад машыны — кузаў,*
*з парасона — спіцы.*
*Мусіць, не схлусілі:*
*кожны тут, як госць.*
*Застануцца рэчы.*
*Ў гэтым нешта ёсць.*

●

*Што рабіць мне*
*з чужою бядой —*
*З беспрасветнай, як ноч,*
*чарнатой?*

*Тут, бадай, не паможа закон,*
*Тут не жытка —*
*прытоены скон,*
*Тут заганы спляліся ў клубок,*
*Тут закрыта душа на замок*
*І закінуты дзесьці ключы...*
*Ты, сумленне маё, не маўчы!*
*Падкажы,*
*што зрабіць і сказаць,*
*Каб глухую сцяну праламаць.*
*З кім мне раіцца,*
*чым паступацца,*
*Каб магло ачышчэнне пачацца?*

●

*Птушкі нябесныя — два галубы*
*Зноў прыляцелі,*
*сядзяць пры балконе,*
*Ціха, цярпліва чакаюць, нібы*
*Век іх карміць буду*
*гэтак, як сёння.*

*Ў нашай кватэры, між тым, нелады:*
*Клункі з пакункамі,*
*скруткі дарожак...*

*У пераезда ёсць прысмак бяды,*
*З вэрхалу бачацца нечыя рожкі.*

*Ўсё тут парушана,*
*ўсё дагары,*
*Дух у кутах не жадае трымацца.*
*Новыя з'явяцца гаспадары,*
*Новыя сцены*
*ім, можа, ўжо сняцца.*

*А ці пасыплюць зярнятаў калі*
*Парачцы дружнай —*
*то нам невядома.*
*Крупак паелі, вады папілі...*
*Будзе ім неба настылае домам...*

### Лялька

Доктару Я.

*Дык што там у лялькі ўнутры?*
*На выгляд яшчэ не старая.*
*(Што сцерлася фарба на шчоках —*
*Не болей, чым дробязь, дэталь.)*

*Дык што ж унутры?*
*Характэрна,*
*Што лялька сама не жадае,*
*Каб поркаўся нехта ў вантробах,*
*Узброены Фрэйдам і К°.*

*Дык што там?*
*Ці так ужо важна*
*Даведацца вам пра начынне.*
*Апілкі ці штосьці дарагое —*
*Без розніцы,*
*Толькі б жыла.*

*Смяялася і суцяшала,*
*Задумліва ўдалеч глядзела,*
*Каб светлыя сны залятаці*
*Ў галоўку льняную.*
*Дык што?..*

●

*Дзвюх удачаў запар не бывае...*
*Не сагрэўшыся,*
*дзень астывае,*
*Промні нізкія*
*ў вокнах гараць.*
*Халадок удыхну, сцепануся,*
*І далей*
*па наезджаным крузе —*
*Непрыснёныя сны пераймаць.*

### Галалёд

*Перастук, перазвон...*
*Крышталёвых галін*
*Невыносны цяжар.*
*Галалёд — як сякера.*
*Бо калі прыгажосці*
*Парушана мера —*
*Нехта мусіць адказваць.*
*Не ўсе, дык адзін.*

●

*На гадзінніку стрэлкі застылі,*
*Пад гадзіннікам*
*людзі снуюць.*
*Пэўна, кажуць сабе: не забудзь*
*Тое й тое...*
*А сутнасць — забылі.*

*Хто забыў,*
*хто не помніў ніколі,*
*Хто атручаны зеллем і спіць.*
*І над нашай*
*агульнаю доляй*
*Сапсаваны гадзіннік вісіць.*

●

*Ці палітыкі слізкая дзея,*
*Ці разлік асабісты які —*
*Ліцадзеі мы ўсе, ліцадзеі,*
*Мы на сцэне жыцця ігракі.*

*Разыграем такія пачуцці,*
*Сымітуем такую любоў...*
*Ды навокал відушчыя людзі*
*І кароткая жытка*
*у слоў.*

*Імітацыя помсціць умее.*
*Ёсць адзін натуральны закон:*
*Хто падманвае, той і пусцее,*
*Аж далёка разносіцца звон...*

### Навагодняе

*Ўсё было.*
*Мы блукалі ў тумане*
*І не ведалі, лепей ці стане.*

*Адхіленні былі і спакусы*
*І змяіныя нават укусы.*

*Нас далёка разводзілі сцежкі,*
*Мы ж насустрач*
*спяшаліся бежкі.*

*Новы год як сустрэнем чарговы,*
*Дык гадаем:*
*апошні мо — новы?*

*Ўжо ж як будзе...*
*Даруйце мне, суддзі:*
*Ў вас такога дарунку*
*не будзе...*

ПРОЗА

ПОЗНА вяртаўся дадому Лявон Малец. Вяртаўся з працы, хоць сёння і грэх было працаваць — Каляды ж! Ды грэх не пакладзеш у мех. Зноўку, як некалі пры сацыялізме, наладзілі ў газеце, дзе ён працуе, дзяжурствы па святочных днях. Заўтра павінен выйсці суботні, з тэлепраграмаю нумар, вось і заседзеліся, чакаючы апошняй паласы.

Лявон пасля работы паспеў яшчэ забегчыся ў Цэнтральны універсам, наладаваў прадуктамі свой дыпламат. Купіў кавалачак кілбасы самага таннага гатунку, сыру кавалачак, пакет малака і смятаны, нават дазволіў сабе дзвесце грамаў шакаладных цукерак — што малое дзіця: без салодкага, як алкаголік без гарэлкі. Ну, і хлеб, вядома ж, яго любімы “Барадзінскі” хлеб. Што яшчэ трэба на Каляды старому халасцяку? Усё адно як студэнт... Не ж, колькі ні чапурыся перад люстэркам, прыкрываючы дачасныя складкі на лбе рэшткамі некалі пышнае чупрыны, колькі ні цягай з сабой просценькі студэнцкі дыпламацік, куплены ў камісіёнцы за вельмі ж смешныя грошы, — ты ўжо не падлетак. Дваццаць пяць гадоў як лёду, і няхай цябе во цяперака чорт жэніць.

Жыве Лявон за горадам. Паўгадзіны на працу ехаць. Жыве “на хаце” ў старэнькай адзінокай бабулькі, з якое ўжо сыплецца парахня. Ні пагаварыць — душу парадаваць, ні прывесці якую маладзіцу. Не свая хата. Адны стогны ды папрокі: не туды ступіў, не так прайшоў — словам, як у бурклівай цешчы. Адно шчасце — куток як задарам здымае, а дармоваму каню ў зубы не глядзяць.

Падмарозіла. Мо нарэшце наступіць сапраўдная зіма? Сёлета снегу за ўсю зіму кату па пяту навеяла. Горад акунуўся ў жоўта-карычневае святло ліхтароў, нібы ў цёмную бутэльку з-пад ліманаду. Усё навокал — і дрэвы, і машыны, і дамы, і нават асфальт — такое шэрае і нялюбае ўдзень, зараз выдавала казачна прыгожым, нібыта ён, Лявон, ішоў не па Мінску, а па нейкім экзатычным Антананарыву. Не ведае, як у Афрыцы, бо ніколі там не быў нават у сне, а ў Мінску казкаю нешта не надта пахне. Горад і горад, звычайны, будзённы, часам шэры, часам зялёны, часам прыветны ды ласкавы, а іншым разам пахмуры, злы і нялюбы. Гэта ад настрою. Горад, бывае, любіш, а бывае — ненавідзіш і нават праклінаеш, бо няма табе часу разглядаць твар гэтага тысячагадовага юнака. Родны, хоць сабе і чалавек, ён заўсёды прыгожы, бо да роднага твару прывыкаеш і не глядзіш, і не бачыш... Так і горад...

Лявон спусціўся ў метро, праехаў колькі станцый да аўтобуснага прыпынку, вынырнуў з падзямелля і — вачам сваім не паверыў: на вуліцы ішоў спорны сцюдзёны дождж. Ды не дождж — лівень! Ён тугімі струменямі сек балюча па твары, лез за каўнер, звінеў па намерзлым асфальце. Так, бывала, звінелі тугія струмені малака аб пустую даёнку, калі маці выводзіла на дзяннік даіць нашу любіміцу Каштанку. Белыя духмяныя струмені смачна барабанілі, затым цішэлі і нарэшце пачыналі сыта сіпець, захлынаючыся ў малочнай пене. Лявон любіў піць сырадой з такою пенаю... Таксама і лівень — зашумеў, загрымеў, забуяніў, потым апомніўся, спахапіўся, убачыў, што ён нарабіў, і засаромеўся, прыціх, яшчэ хвілін колькі нясмела, спужаўшыся, мабыць, сябе самога, пагоцаў па асфальце і баязліва кінуўся наўцёкі ў каналізацыю, абы не чуць, як будуць праклінаць яго людзі.

Разгублены Лявон нават не паспеў раскрыць парасона, хоць заўсёды насіў яго з сабою ў дыпламаце, на ўсякі выпадак, акурат чэхаўскі Белікаў — “кабы чего не вышло”.

Вось яно і выйшла. Горад, памыўшыся на Каляды, радасна заззяў усімі колерамі вясёлкі — куды там Венецыя! А мароз тым часам мацнеў, гарэзліва хапаў за шчокі, казытаў у носе.

Яшчэ ні аб чым не здагадваючыся, ляніва пад'ехаў Лявонаў аўтобус. Хлопец узрадаваўся, што хоць раз заедзе па-людску. Звычайна ж на аўтобусе толькі ў пекла ехаць, асабліва такою парою, калі людзі пазрываліся з працы. А тут палова салона пустая — што значыць Каляды. Хочаш — спі, хочаш — чытай газеты, што людзі добрыя і робяць. Газеты, сур'ёзныя і афіцыйныя, тоўстыя і не вельмі, за якімі яшчэ нядаў-

на так ганяліся, цяпер людзі ўжываюць замест снатворнага, балазе больш таннага сродку супраць бяссонніцы пакуль што не прыдумалі. Газеты, як і раней, калі яшчэ Лявон у піянерах бегаў, зноўку сталі падобнымі, нібы сіямскія блізняты. Па-рознаму хіба толькі пахнуць: у каго, як во ў Лявона, кавалкам "сабачае" кілбасы з універсама, у каго, прабачце — свежаю перадавіцаю, а ў іншых, самі разумееце... па прызначэнні. Лявон цяпер нідзе не прызнаецца без патрэбы, што працуе журналістам. Баіцца — няправільна зразумеюць.

Рэдкія, абыякавыя пасажыры спакойна вычытвалі насамі прэсу і таксама яшчэ ні аб чым не здагадваліся. Аўтобус, як заўсёды, няспешна прайшоў прыпынкі са два, а на трэцім, на Валгаградскай, раптам спыніўся, як акамянеў, шырока разявіўшы ўсе трое дзвярэй, пачаў нечага чакаць. Чакалі і пасажыры. Хвіліна, дзве, тры, дзесяць... Цярплівыя, талерантныя мінчукі насцярожана адклалі газеты, зірнулі ў вокны, нясмела загулі.

# ЛІВЕНЬ НА КАЛЯДЫ

Уладзімір МІХНО



АПАВЯДАННЕ

— Он что же, так и будет стоять? Хотя бы объявил... — першай не вытрымала непад'ёмная кабета, якую недзе даўно ўжо зачакаліся за калядным сталом, бо ўсю правізію да стала яна, відаць, везла ў сваіх велізарных валізках.

Народ, як па камандзе, замітынгаваў:

— Эй, спросите там у водителя...

— Он что, ненормальный?

— Ведь опаздываем же...

Усё растлумачыў "Мерседэс", які таксама, мабыць, некуды спазняўся. Машына, параўняўшыся з аўтобусам, паспрабавала сходу ўзяць невялічкі ўзгорак, колы адчайна круціліся, а сама яна стаяла на месцы, і раптам не вытрывала, газанула, знячэўку развярнулася на ўсе сто восемдзесят і смешна, нібы ў запаволенай кіназдымцы, пачала бокам набліжацца да аўтобуса. Салон прыціх і затаіў дыханне, быццам за вокнамі круцілі баявік. Яшчэ б хвіліна і...

— Крута! — зараз жа ацанілі падлеткі, якія толькі што ўскочылі былі ў аўтобус.

— Прикинь, совсем как у Шварца.

Тым часам народу ў салоне паболела. Цікава было праз акно назіраць за вуліцай. Моладзь кацілася да аўтобуса, нібы хакеісты ішлі ў атаку на вароты праціўніка, лёгка і віртуозна фліртуючы, балансавала рукамі. Асфальт ператварыўся ў суцэльнае хакейнае поле, не хапала толькі шайбы і клюшкі. Старыя, хто ракам, хто бокам, праўдамі-няпраўдамі паўзлі, чапляліся за транспарт, як тапелец за саломінку. А транспарт глуха стаяў. За лічаныя хвіліны шумная аўтасталіца ператварылася ў ледзяную пустэльню. Горад нібы хто зачараваў. Дзе замерлі, там і стаялі аўтобусы, тралейбусы, легкавікі і грузавікі. І толькі старэнькія развалюхі-трамвайчыкі сумленна адпрацоўвалі свой хлеб, сноўдаючы, быццам нічога і не здарылася, туды-сюды. Праўда, і трамвайчыкам зайздросціць не было чаго. Як яшчэ адчайны, люты натоўп не парваў іх на кавалкі. Лявон, каб заплацілі, не паехаў бы ў такім трамваі — людзі не то сядзелі, не то стаялі, не то віселі на поручнях, пад столлю, а каторыя не ўдастоіліся шчасця быць падвешанымі між небам і зямлёю, намертва ўчапіліся за дзверы і пакідалі падножкі толькі тады, калі вадзіцель выскокваў ды пачынаў лаяцца.

— Усё нам ад Бога, ад Бога... За грахі нашы, — нешта бубнеў сабе пад нос немалады ўжо чалавек з інтэлігенцкім саквояжыкам.

— Какова там Бога, к черту, в администрацию позвонить нада, бизабразия, — зноўку ўсчухалася цётка з валізкамі.

— Позвони, тетка, пускай декретом весну объявит, — зарагаталі падлеткі.

— В самом деле, ну что это такое? — зароў народ. — Опять зимы не ждали?

— А где коммунальные службы? Песка не могут подсыпать, что ли?

— Сіноптыкі, тваю маць, перапрацаваліся, на пуп узялі. Дождж на Каляды праспалі! За што толькі грошы плацяць? — размахваў саквояжам інтэлігенцік.

— Кругом мафия, — азвалася цётка з валізкамі.

Напэўна б, зараз дасталося і мафіі на арэхі, каб на вуліцы не ўбачылі бясплатны цырк. Здаровы, гадоў пад сорак, бугай, добра накалядаваўшыся, ішоў да аўтобуса. Адчайна махаў рукамі, нешта даказваў, відаць, хацеў аўтобус затрымаць. Два крокі — вобзем, пакутлівы пад'ём на карачках, зноў два крокі — вобзем. А ішоў ён, між іншым, напрасткі, па праезджай частцы, балазе машыны яму не перашкаджалі. Нарэшце аўтобус быў узяты.

— Фу, успел-таки, — бугай выцер узмакрэлую чупрыну, палапаў па страшнюшчых сваіх штанах і, дзіва, выцягнуў адтуль талончыкі, пакамечаныя, пашкуматаныя, сунуў іх пад самы нос кабеце з валізкамі: — Бабуся, пробейте, пажаласта.

Рогат у салоне. Кабета фыркнула, адвярнулася:

— Куда только милиция смотрит?

— Снова мафия? — зарагаталі падлеткі.

Лявон ім нават пазайздросціў... Маладыя, шустрыя. А ён... Ён у свае дваццаць пяць у вір ужо не палезе. Старэеш, Лявоне! А ці работа такая?.. Ён, газетчык, прывык маўкліва слухаць чалавека, чакам запісваў, а болей запамінаў. А што ён будзе казаць? Тое, што скажа ён, нікому нецікава, бо ўсе пра гэта ведаюць, але ж усе таксама маўчаць. "Потому что молчание — золото". Дый мову яго нават гэтыя шустрыя падлеткі засмяюць, абзавуць калгаснікам. Забалбочуць мову яго, каторай маці ў школе вучыла, каторую бацька любіў і паважаў. Бацька і маці пайшлі заўчасна, адным днём — таксама ж во на Каляды. Якое ўжо тут свята! Пайшлі — няўжо і мову з сабою прыхапілі? Там, разам з Купалам і Багдановічам, разам з Панчанкам і Танкам, мове нашай, мабыць, будзе зацішней. Няўжо і праўда Бог пакараў нас? За што? За грахі якія?

Цікава назіраць за людзьмі. Вось яны, у ледзяной пастцы, у вобдымках стыхіі. Сядзяць, чакаюць нечага, спадзяюцца, вераць. Чаго чакаюць? На што спадзяюцца? Трываюць, красамоўнічаюць, нават смяюцца... А што, хіба плакаць? Жыць стала лепей, жыць стала весялей. А дзверы, вунь жа яны, адчынены. Выйсце ёсць. Выходзь, бяры, як кажуць, ногі ў рукі і — спадзявайся на свае сілы. Але ніхто не спяшаецца выходзіць...

Салон, аднак, паступова пачаў пусцець. Гарачыя падлеткі выскачылі першымі, пажадаўшы цётцы з валізкамі шчаслівай дарогі, учапіліся за трамвай, утрамбаваліся, паехалі далей, у Зялёны Луг. Інтэлігенцік нерашуча выйшаў таксама, азірнуўся, абачліва пастукаў нагамі аб асфальт, размяў іх крыху і, праклінаючы ўсё на свеце, знік.

Лявон таксама падняўся. Але куды ісці? Падумаеш — палова Мінска знаёмых, сяброў па студэнцтве, па працы, па духу. А зайсці пераначаваць — няма куды. І потым — каму ты патрэбны, чужы і сумны, за калядным сталом?

Чакай, тут недзе не так далёка, на Кальцова, жыве яго стары знаёмы Пашка. Таксама журналіст, толькі што той у карэспандэнтах не сядзіць. З рэдакцыі ў рэдакцыю, з пасады на пасаду — як цыган па драбінах. Ногі доўгія, нос чуйны. Ваўка ногі кормяць. Пашка таксама яшчэ ходзіць бабылём, а жыве з бабуляй Васілінай. Старэнькая, часткова спаралізаваная, бабуля, аднак, спрытная на язык. Прыедзеш — хлебам яе не кармі, дай пагаманіць. Васіліна некалі жыла ў вёсцы. Потым вырвалася з карэннем у горад, бліжэй да дзяцей. Аднак лёсу не ўкажаш. Дачку пахавала тут, ужо ў Мінску, жыве во з унукам і марыць яшчэ пагуляць на яго вяселлі. У горад вырвалася, а гаварыць "па-сталічнаму" не навучылася. Бывала, пазвоніць Лявон на кватэру да Пашкі — таго дома ўдзень са свечкаю не знойдзеш. Доўга чакае Лявон, пакуль бабуля Васіліна пачуе, прышкандыбае:

— Га, Лявоне, дык ты мо да нас прыедзеш? Паўлік позна, казаў, вернецца, ну й няхай. А ты прыязджай, хоць у душы памыешся, пагамонім...

Гэтае самае "ў душы памыешся" Лявон не забудзе ніколі. Бабуля ўвесь час сумавала па вясковай лазні і цела сваё ў гарадскім душы ніяк не магла прывыкнуць мыць, але ж "у душы" яна назаўсёды засталася чыстаю. Працавітыя рукі праглі зямлі, але агарода ў іх у Мінску не было, дык бабуля хоць на балконе садзіла памідоры, купляла на апошнюю капейку свежую капусту і сама яе квасіла ў дзежцы.

Калі Лявон прыязджаў, бабуля месца сабе не знаходзіла ад радасці, бо было з кім пагаманіць...

Ісці на вуліцу Кальцова было далекавата, але ж і не ехаць туды трамваем. Нічога, некалі, яшчэ студэнтам, ён паўМінска пешкі выхадзіў, не прывыкаць. Праўда, тады і ў Мінску цішэй было, цяпер жа — неціхоты і галалёд. І — дзіва — ніводнага міліцыянта. Ісці — дзе святлей, і не баяцца нікога і нічога. І там, "на пятым небе", як кажа бабуля Васіліна, будзе табе і цёпла, і добра. Будзе і скварка, і чарка. Вось дзе не пагрэбуюць і тваёю кілбасою, і дарэчы будуць цукеркі...

На лесвічнай пляцоўцы Лявон доўга зіраў у цёмную "зрэнку" на дзвярах сябравай кватэры, перш чым адважыўся пазваніць. Нечым неўпадабаў ён сёння гэтае сляпое вока, як чула душа. А пазваніўшы, чакаў доўга, занадта ж доўга, здавалася, цэлую вечнасць. І сэрца абарвалася, і ў вачах памутнела ад страшнага прадчування...

Выйшла суседка:

— Няма там нікога, не званіце дарэмна.

— А дзе ж яны? — яшчэ не верыў Лявон.

— Васіліна Карпаўна памерла, з паўгода як. А хлопец — яго таксама нешта не відаць. Пэўна, у бацькі жыве...

Не сваімі нагамі паклыпаў уніз па лесвіцы.

Васіліна... Васіліна... Дрэва, вырванае з каранямі і выкінутае на асфальт. Вось табе і тэма для нарыса... Апомніся, Лявоне, які нарыс, гэта ж тваё жыццё...

Цемра. Холад. Але ж куды падацца? Нешчаслівыя твае Каляды.

Калі ўсё ж памяць бакі, можна трамваем дабрацца да цэнтра. Там у шыкоўнай камфартабельнай трохпакаёўцы раскашуе другі яго сябар — Лёшка, не любіць Лявон фешэнебельнага сяброўства. Хоць і сябруюць яны з Лёшкам, а "на хату" да яго Лявон стараецца не ездзіць. Дзіўная нейкая дружба ў іх. Лёшка разумны, башкавіты хлопец. Дурні ў акадэміі міліцыі не вучацца. Дый не раўняйся ты з Лёшкам, у яго бацькі "крутыя", у яго кватэра, машына — будучыня. А ў цябе што, акрамя тваёй беларускай мовы? Пастарунак — мо? Ужо ж вазілі аднаго разу. Не хадзіў пляшывы ў цэркаў, а пайшоў, то й плеш знайшоў. Тырчэў аднойчы ля Цэнтральнага універсама са сваім "інтэлігенцкім" дыпламатыкам ды раскрытым ротам мух лавіў. А ішла дэманстрацыя. Цяпер людзі ад дэманстрацый па норах хаваюцца, а ён як знарок хапуна дажыдаўся. Вось і схапілі. У машыну ды ў пастарунак. Ён ім па-беларуску тлумачыць пачаў, што ні ў чым не правініўся, а яны смяюцца, задаволены, бо "нацыяналістам" разжыліся. Толькі калі ў пастарунку раскрылі дыпламат, а там кілбаса і ладны кавалак сала, апраўдалі, паверылі. Кілбаса на іх дзейнічае лепей за пароль. Свой чалавек. Праўда, смяяліся доўга, абзывалі "сельской местностью" і "колхозом". Ну, ды хоць чыгуном, абы не ў печ.

Дык вось і Лёшка — сябар, а глядзі, каб таксама ў пастарунак не ўпёк... Гэтаму хаця б патэлефанаваць спачатку, каб не выйшла, як у дзеда Кандрата: "А ты што прэшся ў кабінет, свіное рыла, без дакладу?" Дзе патэлефануеш? Ноч. З аўтамата? І нават картачкі з сабой не прыхапіў. Лявон ішоў і не спадзяваўся, калі раптам ледзьве не стукнуўся лбом у шыльду: "Милиция". Вокны свяціліся.

— Што, зноў у пастарунак захацеў? — сам сябе ўголас запытаўся хлопец, з'едліва ўсміхнуўшыся. І сам сабе адказаў, — Ні за што!

Але як быць? Ласкавае цяля сем матак ссе. А ўрэшце, за спрос не б'юць у нос. Ён нерашуча адчыніў дзверы. Падышоў да дзяжурнага, ды раптам арабеў і выціснуў з сябе, нібы выштурхнуў па-руску:

— Разрешите позвонить. Гололед, автобусы не ходят, надо.., — апраўдваўся і сам сябе ненавідзеў.

Але міліцыянтам было не да яго пачуццяў. Відаць, аб'явілі надзвычайшчыну, і міліцыя стаяла на вушах. Дзяжурны зірнуў на Лявона, потым на свайго начальніка. Той адмахнуўся, як ад назойлівай мухі:

— Пускай звонит.

Дрыготкаю ад хвалявання рукою набіраў Лявон нумар. Слухаўку доўга ніхто не падымаў, але хлопец цярпліва чакаў, і неўзабаве пачуў знаёмы голас:

— Алло, я слушаю.

— Лёшка, гэта я, пазнаў?

— Какого еще я? — голас у слухаўцы здаўся Лявону раздражненым, і ён, спалохаўшыся, каб не паклаў сябра трубкі, паспяшаўся назвацца:

— Я — Лявон. Лявон Малец.

— А, Лёник! Ну, здравствуй. Как у тебя дела? Ты откуда, кстати, звонишь?

— Ды так, — схітраваў Лявон, — з канспіратыўнай кватэры. У мяне ўсё нармальна. Працую памаленьку. А ў цябе што новага? — Хлопец адчуў раптам, што не ведае, аб чым гаварыць з сябрам.

— Работаешь? Ну, ты даешь, на Рождество не работать — водку надо пить, понял?

— Няма з кім.

— Да? Что ж так слабо? А я вот тут с бабой. Ты знаешь, приезжай... — у слухаўцы раптам усталявалася няёмкая паўза, — как-нибудь, поговорим, повспоминаем. А сегодня — извини. Я — сам понимаешь...

Разумны.. Здагадаўся ўсё ж...

— Ды не, ты што, я сёння... у мяне яшчэ вунь колькі спраў, — знарок бадзёра казаў Лявон.

— Вечно ты в делах.

— Прафесія такая. Ну, ладна, бывай, не буду вам перашкаджаць.

Лявон, паклаўшы трубку, уздыхнуў з палёгкаю і толькі зараз убачыў, якімі вялікімі вачыма глядзіць на яго дзяжурны. Глядзіць і рот разявіў, акурат сам ён тады, ля універсама.

Стала смешна. Дальбог, хлопец ледзьве не зарагатаў, але стрымаўся, далікатна мовіў:

— Дзякуй вялікі.

І пайшоў. І пачуў за плячыма сцішанае:

— К-калі ласка...

І лёгка зрабілася на душы, быццам бы зваліўся з яе пудовы камень.

Ён ішоў, куды — і сам не ведаў. Наперадзе было па-ранейшаму цёмна і коўзка. Але трэба было ісці — і ён ішоў.

гледачоў атрымала стужка В. Тадароўскага "Краіна глухіх", карціна, дзе ў вобразе сімпатычнай глухой Яі адрадзіўся герой "Брата". Іронія лёсу? Хутчэй — заканамернасць, бо кілер Даніла Багроў і глухая Яя — сапраўдныя героі нашага часу. Блізкія, зразумелыя сучаснаму гледачу хваравітасцю сваіх учынкаў. І сваімі "крылатымі" марамі.

Новыя фільмы Пётры і Валерыя Тадароўскіх — "Рэтра ўтраіх" і "Краіна глухіх" — на "Лістападзе" паказвалі ў адзін дзень. Цяжка было не заўважыць, што абедзве карціны аб'ядноўвае адзіная тэма — любоўны трохкутнік.

У фільме П. Тадароўскага "Рэтра ўтраіх" (рымейк на фільм А. Рома "Трэцяя Мяшчанская") трохкутнік складаюць падмануты муж (Я. Сідзіхін), няверная жонка (А. Якаўлева) і сябра мужа (С. Макавецкі). І ўсе трое спрабуюць жыць разам (!). "Наша гераіня мае адразу двух мужоў. Здаецца, гэта някепскі расклад", — заўважыла М. Тадароўская, прадзюсер "Рэтра ўтраіх". Адзначу: някепскі ў карціне і акцёрскі расклад. Праўда, Макавецкі зноў сыграў добрага няўдачлівага героя з "Патрыятычнай камедыі" Хаціненкі, а вось Сідзіхін — героя новага амплуа, "з ватнымі рукамі і мазгамі". Вясёлая, рамантычная і вельмі прыгожая стужка Тадароўскага (Беларускі саюз мастакоў прысудзіў карціне прыз за аператарскую работу) — для сямейнага (утраіх) прагляду.

Любоўны трохкутнік малодшага Тадароўскага крыху іншы: глухая стрыптызёрка Яя (Д. Корзун), падобная да анёла Рыта (Ч. Хаматава) і яе палюбоўнік Алёша (М. Цюнін). Яі і Рыце сімвалічна адпавядаюць супрацьлеглыя колеры. "Ты — чорная, а я — белая", — кажа Рыта. У далёкай Краіне глухіх, дзе марыць апынуцца Яя, ёсць усё: і сонца, і мора, і пальмы, і нават грошы ("ты глухая — табе даюць"). Няма толькі мужчын. Гераіня выключае іх са свайго жыцця. Дзяўчаты спрабуюць жыць удваіх (пра фільм В. Тадароўскага можна прачытаць у "ЛіМе" за дзевятага кастрычніка 1998 года). Палкасці, эратычнасці А. Якаўлевай, якая стварае ў фільме "Рэтра ўтраіх" асаблівы настрой, у карціне В. Тадароўскага супрацьстаіць халодная прыгажосць рускай М. Дытрых — Д. Корзун, якой на "Лістападзе-98" аддалі прыз за лепшае выкананне жаночай ролі.

## МІФІЧНЫЯ РЭЖЫСЁРЫ

"Я не чакаю здзіўлення ні перад адным фільмам. І ведаю адно: здымаць трэба менш. І нямногіх", — упэўнены сёння рэжысёр Р. Балаян. Калі я глядзела новы фільм Р. Балаяна "Два месяцы, тры сонцы" (папярэдні — "Першае каханне" быў зроблены два гады таму), мне здавалася, што рэжысёр зрабіў яго, каб не забыцца на ўласны рэжысёрскі почырк, на характары сваіх былых герояў (звычайна — паглыбленых у сябе інтэлігентаў). Абыякавы настрой Балаяна перадаваўся з экрана: нібыта ў дрымоце я сачыла за духоўнымі пакутамі галоўнага героя, рускага чачэнца, вучонага (У. Машкоў), які вырашае гамлетаўскія пытанні: забіць ці не забіць, ненавідзець ці дараваць забойцу брата? І зноў сны, і зноў каханне. Я чакала здзіўлення ад фільма Балаяна. Аднак цяпер ведаю адно: глядзець на экран трэба менш. І на нямногіх.

Напэўна, самая гучная сёлетняя кінатрагедыя — правал на Канскім фестывалі фільма А. Германа "Хрусталёў, машыну!", карціны, якую рэжысёр здымаў амаль дзесяць гадоў. Крыўдна майстру, разумею. "Хрусталёў..." — гэта фільм будучага", — супакойвалі Германа адны. Другія ацэньвалі больш жорстка: калі няма творчай патэнцыі, дык навошта здымаць.

"У кожнага рэжысёра свой тэрмін, свая мяжа", — лічыць К. Шахназараў. І, як любы творца, баіцца таго часу, калі натхненне знікне назаўсёды. Можа, таму ў Шахназарава і з'явілася жаданне памясціць у адным фільме дзесяткі іншых невялікіх стужак, дзесяткі жыццёвых гісторый. У новым фільме Шахназарава "Дзень поўні" вялікая колькасць персанажаў: рэжысёры, статысты на кінастудыі, бізнесоўцы, кілеры, генералы, музыканты, сабакі і г. д. Ёсць і канкрэтная гістарычная асоба — А. Пушкін. Камера аператара, як нябачнае вока, падглядвае за людзьмі. А дзе людзі — там лёсы, успаміны, пачуцці. І ўсе яны складаюць адзіны ланцужок, адзіны круг жыцця. "Дзень поўні" — іграва́я карціна, але ні пэўнага сюжэта, ні дыялога у ёй няма. Па сутнасці, гэта павінна была быць дакументальная стужка. Шахназараў сыграў жыццё.

**...А беларускія кінематаграфісты — фестываль. Сёлета "Лістапад" зрабіўся даўжэйшым на два дні. Калі ў 1996 годзе конкурсную праграму фестывалю складалі толькі адзінаццаць стужак, то ў 1998 іх было ўжо васемнаццаць. Крок уперад? Можа быць. Але на юбілейным "Лістападзе-98" не адчувалася святочнай атмасферы (папярэдне настрой сапсавалі хамства на прэс-канферэнцыях, складанасці з акрэдытацыяй, непадрыхтаванасць аргкамітэта). "Лістапад" па-ранейшаму падзея местачковая, кожны год — адны і тыя ж твары: М. Рудзінштэйн, А. Янкоўскі, Я. Мацвееў, М. Бурляеў. Можа, надышоў час нешта змяніць?**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

МАЙСТЭРНЯ

# Абранне саюзнікаў: дзяцей, падыходаў, кніг

***Тры дзеі, два антракты, тры гадзіны сцэнічнага дзеяння, — прытым, што на самой сцэне працуюць раўналеткі гледачоў (узростам ад дзевяці да дванаццаці)? Безумоўны поспех апошняй мінскай прэм'еры мае шмат складнікаў і некалькі тлумачэнняў.***

***"Маленькі лорд Фаўнтлярой" (1896) Фрэнсіс Бернет (1849—1924), вядомы не аднаму пакаленню англамоўных і рускамоўных чытачоў, працягвае сваю адметную, цяпер ужо — сцэнічную гісторыю ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача рупнасцю рэжысёра Андрэя Андросіка, мастацкага кіраўніка тэатра.***

**— Андрэй Фёдаравіч, пра спектакль, чыя прэм'ера прыпала на сёлетні лістапад, мы размаўлялі ўжо гады два таму. Вы доўга апекаваліся маскоўскім калегам Шыйко і ягонымі "Шчаслівымі жабракамі" на тюгаўскай сцэне, па-свойму забяспечваючы поспех спектакля паводле Карла Гоцы, вы аднаўлялі й дасканалілі бягучы тюгаўскі рэпертуар, і "Маленькі лорд..." мусіў саступаць у часе і сцэнічнае прасторы наспелым, набалелым тэатральным праблемам. Але ўдзячная ўвага дзіцячае залы на прэм'еры, здаецца, мусіла б скампенсаваць вам усе побытавыя непрыемнасці...**

— Вярнуць сучасным дзецям нейкія духоўныя каштоўнасці, якія былі блізкія іхнім бацькам, дзядам, — вартая ідэя, як мяркуеце? У маім дзяцінстве, памятаю, знаходзіліся кніжкі, якія чыталі ўсёй сям'ёй і якія вызначалі настрой або зносіны між сямейнікамі на нейкі час. У Расіі, дарэчы, ёсць цэлая праграма выдання падобных, — адметных дзіцячых кніг, вядомых шмат у якіх краінах і шмат якім пакаленням. Распачыналася, ведаю, і ў Беларусі серыя "Скарбы сусветнай дзіцячай літаратуры", ды пасля дзвюх-трох кніжак справа спынілася. "Маленькі лорд Фаўнтлярой" якраз з тых вартых кніг, якіх нашы дзеці не толькі не чытаюць, — нават не ведаюць. Інсцэніроўку я знайшоў у Маскве, у Цэнтральным дзіцячым тэатры, калі зрабіўся мастацкім кіраўніком ТЮГа і засяродзіўся на пошуку літаратуры, адпаведнай маёй мастацкай праграме. Здалося, што па ўзроўні кніга Бернет якраз адпавядае лепшым прапановам ТЮГа, — напрыклад, спектаклю "Стваральніца цуду", аднаму з найлепшых і паводле эстэтычных якасцяў, і паводле глядацкага разумення.

**— А што за праграма, якую вы прынялі для сябе, стаўшы на чале дзіцячага тэатра?**

— Перадусім яна датычыць самой арганізацыі тэатра. Я хачу, каб ТЮГ наведвалі дзеці, падлеткі, юнакі... з бацькамі. Я хачу пазбыцца комплексу тюгаўскае непаўнавартасці, набытага яшчэ за савецкім часам. Грошы, сродкі, уліванні ў трупу мусяць адпавядаць мастацкай мэце — стварэнню Нацыянальнага дзіцячага тэатра. З адпаведным узроўнем сцэнічных прапаноў, культураю і да т.п. Трэба, выбачайце, абвясціць гораду пра дзіцячы тэатр, трэба адкрыць яго для гараджан. ТЮГ мусіць працаваць увечары, хоць і не штодня, тюгаўская каса мусіць быць адчыненаю (а часам у гэтым няма патрэбы, бо ўсе квіткі разабраныя па школах). Мусяць з'явіцца людзі, якія разумеюць: дзецям цяпер жывецца цяжка, скрутна, яны часта кінутыя, адрынутыя, не атрымліваюць самага патрэбнага. Мусяць з'явіцца тыя, хто без гучных слоў разумее згубнасць, трагічнасць такога становішча і трагічнасць будучыні, якая наступнічае такому становішчу. Спакваля такія людзі знаходзяцца. Яны і толькі яны здатныя змяніць ды пераўтварыць нешта. Скажам, паглядзець добры спектакль і расказаць пра яго адпаведна зацікаўленым людзям...

**— А што ўяўляе сабою эстэтычная частка вашай праграмы?**

— Да ўсяго — сапраўдную, вартую літаратуру. Каб не чуць нешта накшталт "пастаўце спектакль пра тое, як нядобра ўжываць наркотыкі". Не хачу — пра наркотыкі. Хачу — пра маленькага лорда. Упэўнены, што перажываць за яго не менш важна, чым змагацца з наркотыкамі. Мне здаецца, што страшныя словы пра наркотыкі, СНІД, засцераганне ад непажаданае цяжарнасці і да т.п. гучаць цяпер рашуча, цвёрда і надта часта. Так часта, што з імі ўжо асвойталіся, як з шумам за вокнамі. Праблема нашага тэатра — чалавек, дзіця. Дзіця са сваім светам, дзіця, чыю душу трэба аберагаць, а пачуцці — выхоўваць. Так аберагаць ды выхоўваць, каб дзіця само аберaглося ад наркотыкаў. Бо спектаклі, апанаваныя любой з названых праблемаў, чамусьці заўжды атрымліваюцца малаэстэтычнымі і не ўплываюць на рашэнне праблем. Натуральна, на забароненыя, на далікатныя тэмы размаўляць можна і трэба. Але тое мусіць быць размова асаблівай ступені даверу, асаблівай далікатнасці. А так размаўляць умеюць рэдкія людзі. Як правіла, рэдкага перакanання: калі ў нас ёсць дзеці, дык мы можам і абавязаны не толькі вучыць іх, але і ад іх вучыцца. Дзеці, адчуваючы падобнае стаўленне да сябе, па-іншаму вызначаюць сваю адказнасць, адкрытасць, дабрату.

**— Праблема часу — разбурэнне або нестварэнне сям'і. Ставіць пра гэта спектакль? Стары граф Дарынкур намаганнямі адваката Хэвішама дазнаецца, што ў далёкай Амерыцы ў яго ёсць унук, Седрык Эррал, нашчадак, які пасля смерці старога графа мае права зрабіцца лордам і спадкаемцам замка й земляў. Але ваш "Маленькі лорд..." якраз пра тое, як збіраецца, аднаўляецца сям'я і колькі трэба высілкаў, каб яна сабралася!**

— І як гэта важна, каб яна сабралася! Які сэнс гэта можа надаць жыццю! Я ставіў спектакль пра тое, як жыў на свеце чалавек, які зняверыўся, страціў сэнс жыцця, зрабіўся жорсткім, нецярпімым. Як жыў хлопчык, які сваёй верай і любоўю здолеў усё расставіць на свае месцы. Як з'явілася святло ў жыцці, як вынікнуў з жыцця сэнс!

**— Раптоўна гнуткім, далікатным, то зацята-падазроным, то трагічна-высакародным выявіўся Анатоль Жук у ролі графа Дарынкура. Гарэзлівай, дасціпнай і абаяльнай... жанчынай выйшла на сцэну Вера Кавалерава ў ролі лэдзі Лорыдэйл, — зразумейце правільна, як публіка бачыла ўсё больш у ролях хлопчыкаў. Скарыла сваёю жаноцкасцю Таццяна Жданава, па ролі — маці Седрыка.**

— На рэпетыцыях я казаў пра тое, што ў гэтым спектаклі мы ўсе мусім быць крыху дзецьмі, — дзеянне ў "Маленькім лордзе..." будуецца на прынцыпах дзіцячай гульні. Хобс (абаяльны Міхаіл Пятроў) ды Дзік, дарослыя прыяцелі Седрыка, адвакат Хэвішам (Аляксандр Палазкоў), які даведаўся пра амерыканскага нашчадка і спакусіў суровага графа яго адшукаць, нават сам граф Дарынкур, — персанажы, якія ў трактоўцы акцёраў намагаюцца абудзіць у сабе тое лепшае, што засталося з дзяцінства. Магчыма, гэта і ёсць самы лепшы спосаб зносіцца з дзецьмі ў зале.

**— У зале ўважліва слухаюць тэкст, — і адчуваюць, нягледзячы на выдаткі тюгаўскай акустыкі, адчуваюць, дакладна, не губляючы аніводнай нітачкі дзеяння ад самага пачатку, калі водгулле навальніцы гуляе ў пуставатым графскім замку, палохае графскіх наведнікаў...**

— Хацелася зрабіць гэткі склеп, дзе ўсё адгукаецца рэхам, але ўсё — мёртвае. І разумнік Хэвішам, даведаўшыся пра графскага ўнука ў Амерыцы, распачынае сваю інтрыгу, нібы ідзе ў заклад на дабрабыт графства ды душэўны спакой графа. Ён унушае Дарынкуру пра вяртанне хлопчыка, пра з'яўленне ўнука, — унушае ідэю аднаўлення сям'і.

**— Адкуль жа з'явіліся хлопчыкі ўжо ў самім спектаклі (ён мае два склады выканаўцаў?) Якім чынам іх з'яўленне падтрымала вашу эстэтычную праграму? Дзеці й жывёлы, як вядома з класікі рэжысуры, — забаронены прыём на сцэне, але ў "Маленькім лордзе..." ніякая травесці не надала б існасці, праўдзівасці нашаму глядацкаму перажыванню, як і любы фальш выканаўцы-хлопчыка...**

— Адзін з гэтых маленькіх цудаў, Мікіту Гузоўскага, мне падарылі ў тэлевізійнай дзіцячай студыі, якую вядзе Таццяна Кіракозава. Другі цуд, — на імя і прозвішча Дзяніс Мітніцкі — я ўбачыў на нейкім конкурсе дзіцячых калектываў. Калі распачынаў работу, дарэчы, запісаў сабе пра маленькага лорда: князь Мышкін, толькі маленькі. Па нейкай увазе да чалавека, па ўменні пачуць яго, стаць на ягоны бок або на ягоны пункт гледжання... Калі б не знайшлося хлопчыка, я б не браўся за спектакль: хлопчык на сцэне вызначае меру глядацкага даверу. Дзеці ўспрымаюць спектакль ("Доўгі спектакль!" — наракаюць дарослыя) яшчэ і таму, што на сцэне — свой! Не цётухна-травесці, а хлапчанё. Я вельмі непакоіўся за сваіх хлапчукоў, асабліва пасля таго, як мне давялі, што тры сцэнічныя гадзіны — не эпізод у кіно. Рызыка, як бачыце, апраўдалася. Шчыра вам скажу: самае дарагое, што ў мяне ёсць, — гэта мае хлопчыкі.

**— Разам з хлопчыкамі тюгаўцы яшчэ раз давялі пра магчымасці... баўлення часу ў тэатры, а не ў кампаніі з наркотыкамі. Давялі добразычліва, абачліва, на ўзор беларускім мас-медыа, дзе пра далікатныя рэчы ўзялі моду казаць прасцякавата, нахабна-абыякава, у лоб.**

— У нас іншыя, прабачце, адмычкі павінны быць, іншыя падыходы да людзей. Іх трэба браць у саюзнікі, калі намагаешся зрабіць штосьці. Я перад усімі ўзяў сабе ў саюзнікі двух хлапчукоў. Хацеў, каб яны мне паверылі. І яны працавалі, — дай Божа кожнаму з акцёраў так працаваць. Так, я клапачуся, каб ніхто не пакрыўдзіў маіх хлопчыкаў. (Адзін з іх цяпер захварэў — цяжка, на цукровы дыябет; як бы я хацеў спадзявацца, што гэта — узрастае...) Я казаў акцёрам: калі ў нас працуюць дзеці, гэта мусіць надаць рабоце дадатковага святла — стаўлення да дзіцяці. Нам павінна хапіць усяго чалавечага, мы мусім падцягнуцца; няможна не рыхтавацца да рэпетыцыі, сварыцца, займацца тэатральным побытам ля сцэны. І той з акцёраў, хто падпарадкаваўся такому закону, значна выйграў у сцэнічных зносінах.

**— Андрэй Фёдаравіч! У звязку з вашай тюгаўскай праграмай я мару пабачыць на нашых сцэнах герояў Клайва Льюіса, Толкіна, Льюіса Кэрала, Аскара Уайльда, Талстога, Караткевіча... Ці па сілах аднаму ТЮГу хоць што ўвасобіць з пералічанага ды з таго, што маецца на ўвазе? Мо трэба мацаваць саюз з іншымі беларускімі сцэнамі? Сёння важна ўдакладніць прадметы нашай мастацкай гутаркі, пытанні "пра што й нашто апавядаць са сцэны". Сёння тэатру важна вызначыцца з літаратурай (чытайце — драматургіяй), той важкай, вялікай, уплывовай, якая падтрымае нават там, дзе схібіць акцёр або рэжысёр. З літаратурай у такім звязку з тэатрам, які б раптоўна пацвердзіў ісціны, вядомыя з дзяцінства ды змусіў бы даць ім шчырае веры.**

— Лепшыя хвіліны майго жыцця былі звязаныя з тым, што я са сваёй дачкой, а потым з унукам чытаў кніжку, глядзеў фільм, і мы абодва плакалі. Няхай у гэты момант мы не казалі адно аднаму ні слова, — такое не забываецца. Маё сённяшняе быццё мае нефармальны характар... усвядомленага жадання паспець нешта зрабіць там, дзе гэта найбольш важна. У дзіцячым тэатры. Для дзяцей.

**З Андрэем АНДРОСІКАМ гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

## Кніга з кні




Вядома, што даведачная літаратура жыве доўга і з'яўляецца самай чытэльнай. Свайго роду збор помнікаў, дасягненняў агульначалавечай культуры — кніга "Памятники всемирного наследия", якая выйшла ў выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі.

Як прызнаецца аўтар гэтай кнігі, кандыдат гістарычных навук В. Кісель, думка аб стварэнні аднатомніка ўзнікла падчас працы над асобнымі тамамі 18-томнай энцыклапедыі. Захацелася сабраць у адно цэлае "цуды свету" мінулага і сучаснага, і каб было цікава людзям усіх узростаў. Шматтомныя выданні і манаграфіі, якія існуюць у продажы і бібліятэках, абмежаваны бар'ерамі задач чыстай навукі. Турысцкія даведнікі па асобных краінах, як правіла, адзначаюцца прастатой агляду.

Кніга "Памятники всемирного наследия" падрыхтавана на аснове аб'ектаў Спісу сусветных культурнай і прыроднай спадчыны чалавецтва, які складае ЮНЕСКА з пачатку 1970-х гг. Чытач знойдзе цікавыя звесткі аб захаваных рэштках чалавечых цывілізацый мінулага, нацыянальных грамадзянскіх і рэлігійных святынях, гістарычных цэнтрах славутых гарадоў, унікальных архітэктурных ансамблях і асобных помніках дойлідства. Ёсць там і апісанні шэдэўраў мастацтва сусветнага значэння, звесткі аб нацыянальных парках, запаведніках і цудоўных ландшафтах, традыцыйным ладзе жыцця, геаграфічных паняццях геалогіі, гісторыі, культуры і г.д.

У кнізе змешчана каля 300 артыкулаў аб названых помніках (а ўсяго іх налічваецца на сённяшні дзень больш 500). Назвы краін, на тэрыторыі якіх яны знаходзяцца, размешчаны ў алфавітным парадку. Кніга цудоўна ілюстравана, напісана навукова-папулярнай мовай. Мяркуецца, што яна будзе карыснай для выкладчыкаў, студэнтаў, вучняў, турыстаў, для кожнага, хто любіць нязведанае і хоча больш даведацца аб ім, хто марыць аб падарожжах і падарожнічае.

Кніга выклікае цікавасць не толькі да унікальных культурных і прыродных аб'ектаў свету, але, спадзяёмся, будзе спрыяць абуджэнню цікавасці да асабістых каранёў, усведамленню неабходнасці абароны прыроднага асяроддзя як агульнага.

**Галія ФАТЫХАВА**

## "Беларуская хатка" ў Мар'інай Горцы

"Беларуская хатка" — такую назву атрымала створанае нядаўна Мар'інагорскае культурна-асветніцкае таварыства. Сярод яго першапачатковых задач — адраджэнне і пашырэнне ўплыву беларускай культуры на выхаванне грамадскай думкі.

Ініцыятары стварэння таварыства імкнуцца арганізоўваць гурткі, клубы па інтарэсах, творчыя майстэрні, плануюць правядзенне вечарын, канцэртаў, семінараў, наладжваць шырокую турыстычна-экскурсійную дзейнасць. Найперш — на Пухаўшчыне.

**М. СЛАБАДСКІ**

ПЕРАКЛАДЫ

# Воблікам паэта народжана

***Спалучанасць з Адамам Міцкевічам, яна заўсёды і спалучанасць з большым, шырэйшым, агульнакультурным, агульнанацыянальным і агульначалавечым. Вершы пра Адама Міцкевіча — гэта неўміручая ўвага да яго, цікавасць да драм і трагічнасць яго жыцця, да жыццёвага чыну-подзвігу і духоўных узлётаў — у любові да Радзімы, да яе блізкай і далёкай гісторыі, да яе прыроды. І таму ў нізцы засуседнічалі вершы пра Рым Я. Івашкевіча і пра бытавыя рэаліі ("Пісьмовы стол Міцкевіча" С. Балінскага) з вершамі Я. Леханя пра пакуты і смерць А. Міцкевіча. І — напэўна — хораша дапаўняе іх верш Л. Левіна пра любоў Міцкевіча да музыкі Шапэна, і А. Мендзыжэцкага, які так нечакана падагульняе сонм прыжыццёвых паветаў на вялікага паэта, які сваёй сутнасцю ўсё і ўсіх перамагае.***

***І хто сказаў, што літаратура не нараджае літаратуру, мастацтва не нараджае мастацтва! Нараджалі і нараджаюць! І ніякі тут не адрыў ад жыцця, ніякая не літаратуршчына, — ад жывога вобліка паэта — жывое слова яго нашчадкаў, у пацвярджэнне слоў Андрэ Мальро: паэзія нараджае паэзію!***

**Алег ЛОЙКА**

Ян ЛЕХАНЬ

### Спакутаваны Міцкевіч

*На Сене збадзяўшыся з ранняга рана,*
*Чамару здымаў з плечукоў ён марудна,*
*На ложак прылёг. Не стары, каб занудны,*
*Ды вельмі спакутаваны, змардаваны.*

*Не мары яго ўраз прыспалі, змарылі,*
*Ды ўбачыў над возерам*
*срэбным альтанку,*
*І водар акацыяў белых світанку*
*Сплываў на цень лёгкі сукенкі Марылі.*

*Вышэптвалі вусны:*
*"Любоў нам — надарма,*
*Між намі азёр, мораў не намінаеш,*
*Днём помніш ты бітвы*
*і ўсіх камандармаў,*
*А вочы прымружыш, мяне ўспамінаеш".*
1944

### Смерць Міцкевіча

*Прыйшоўшым загад браць,*
*як кожнага разу,*
*Шлях перапыніла нябожчыкаў стража*
*І мовіла: "Вашых мы просьбаў не ўважым,*
*Бо ён памірае ад страшнай заразы".*

*І тыя заплакалі ўраз, нібы дзеці,*
*Шапталі спалохана: "Цёмна як, цёмна!..*
*То ж поўня, якая Стамбулу свеціць,*
*Якая ж інакшая, чым з па-над Нёмна!.."*

*А ён той жа хвіляю думаў: "Як блізка!..*
*То ж песня чуваць з-над маёй калыскі,*
*То ж бачу лілеі, то ж Свіцязі тоні,*
*Яшчэ б міг адзін, іх крануў бы далонню".*
1954

Юзаф ВІТЛІН

### Калядная песня пра Адама Міцкевіча

*І Табе і Яму нема*
*Над калыскай ззяла зорка Віфліема.*

*Поўныя хвалы,*
*Анёлы яго бераглі, аслы і лагодныя валы.*

*Маці-Дзявіца спявала над Дзіцем у яслях,*
*Цябе ж калыхала Вілія*
*ў струменых ясных.*

*Тры мудрыя каралі неслі яму*
*з паклонамі дары,*
*Табе ў падарунак Радзіму*
*забралі таксама тры.*

*Міро, кадзідла, золата —*
*для сына Панны Марыі,*
*Сібір, кайданы, шыбеніцы —*
*для ляшскай швіі.*

*Ён грахі свету адкупляў на крыжы*
*ў Ерусаліме,*
*Ты, на чужыне ўмёршы,*
*польскі Пілігрыме.*

*На трэці дзень ён уваскрос,*
*і Слова целам стала,*
*Ты з мёртвых не ўставаў,*
*ды слова тваё ўсцяж не памірала.*

*Ён — Бог, Ты — чалавек, і Ты,*
*і Ён цярпелі за мільёны,*
*Сёння — не боскі, а людскі боль*
*усім нам благаслаўлёны.*

*І Ён і Ты — абодва Вы —*
*вучылі Ведзе невымоўнай.*
*Любіць вучыў збавіцель,*
*як любіў настаўнік той,*
*Настаўнік небагаты з Коўні.*
1924

Станіслаў БАЛІНСКІ

### Пісьмовы стол Міцкевіча

*Агонь свістануў патайна,*
*бы ў страфе баллады.*
*Гадзіннік яму ў адказ стрэлкамі,*
*што задрыжалі*
*І, як вятрак крыламі,*
*толькі ж зваротным ладам,*
*Залапаталі, пабеглі ды — раптоўна сталі.*

*Тут і пачатак аповесці маёй зімовай.*

*Вечар. Стогадовай далечы.*
*Імглісты. Вільготны.*
*З акна, пры якім сядзіць*
*нейкі пан самотны,*
*Вулку відно пакручастую,*
*газоўку-ліхтарню*
*І над вітрынай склепіка —*
*надпіс бяздарны.*
*Пад падваротняй хтось прадае*
*печаныя каштаны.*
*Фіякр праехаў якісьці*
*ў сіваватыя туманы.*

*У пакоі Міцкевіча — ціхі, ціхі вечар.*
*Шалясціць гадзіннік,*
*пакалыхваецца свечка,*
*І вядзе, вядзе пяро шапатлівую гамонку*
*І кожнай любімай*
*"Пана Тадэвуша" старонкай.*

*Станьма ж на пальчыкі, зірніма памалу,*
*Што піша? А піша якраз:*
*"...гэта рэха грала".*
*Спыніўся раптам. І голаў кулакамі двума*
*Падпёр, нібы ў Літву ўзіраўся, якой няма.*
*Ціш. Не палохайма ж відмаў...*
*Ён, можа, той хвіляй*
*Наваградак бачыць, у суме вось,*
*вось сасніць Марылю...*

*Га?!. Не Адынец здаля па-сяброўску*
*пяе штосьці —*
*З той яго, ах, яго анёльскае маладосці.*
*Галаву падымае. Наслухоўвае.*
*Божа вялікі!*
*Рэха песні ўторыць: "Прэч... прэч, суме!*
*Хто, хто цябе клікаў?.."*
*А пры тосце: "П'ямо,*
*п'ямо ўсе здароўе Адама!"*
*Па пяро зноў сягае, усміхаецца смутна,*
*І вырушвае зноўку ў шлях, у той самы,*
*Слухаючы даўнія філарэцкія лютні.*

*Свечкі дзве, стол стары,*
*пяро ў руцэ, што замлела...*
*Мала гэтак. А сонца, нібы зноў ацалела.*
1940

Леапольд ЛЕВІН

### Міцкевіч слухае Шапэна

*Гаснуць і ўспыхваюць твары*
*ў шэрым паўзмроку,*
*Пабляклае, нурыцца ва ўспамінах вока,*
*І сэрцы сціскаюцца*
*ў дум вар'яцкіх палоне, —*
*Ды бліснулі клавішы, пасвятлела ў салоне.*
*І Фрыдрык руку падымае і вочы —*
*на ноты, —*
*Вада ў бераг плюснула?*
*Зашалясцела лістота?*
*Ці стрэл бэльведэрскі грымнуў*
*раптам у залі?*
*Як радасць, адзін гук,*
*а іншыя гукі — жалем.*
*То горка ў душы тых, хто слухае,*
*то найсалодзей.*
*А музыка, музыка! Чарадзеіць, дый годзе!*
*Акамянелі ўсе чыста. Ды чуе Міцкевіч:*
*Птах шугануў — пералётае*
*з дрэва на дрэва,*
*Рэй маладая з дружбай вядзе*
*ў гучным танцы,*
*Бароняць рэдут гарнізонныя паўстанцы...*
*Са слухачоў Ён адзін далонню*
*затульвае вочы, —*
*Няўжо збаяўся:*
*вупыр з-пад павека скочыць*
*І сварбу іх тхненнем*
*асуджальным атруціць?!*
*Галаву хавае ў сплёт рук,*
*бы ў зялёнай руцэ,*
*Разжалены, слухае прагна,*
*і ўжо з-пад павека,*
*Блакітнеючы,*
*у зеляніну выплываюць рэкі —*
*І першая з першым узлётам,*
*першым упадкам...*
*Чутны галасы — каханай, сяброў,*
*маткі, хорам*
*Чутно, дубу дуб, возера возеру.*
*Уздыханні перадаюць літвінскага бору,*
*І, бачыць, вецер падгоньвае пагоркі*
*І воз, у драбінах снапы, плён горкі...*
*Які б клавікодр сэрца абмыў так кроўю*
*І край, што заўжды быў для яго,*
*як здароўе?!.*
*Са скрухай воч шэрых, на душы — ураганы,*
*Ці ў шум Парыжа, заганны і незаганны,*
*Ці ў рамантычныя вулкі яго і бульвары,*
*Ці ў падковенскія выходзіць*
*ён яры і мары?*
*І то не ліхтары ўспыхнулі,*
*светаянскія жукі,*
*І раптам балеснае альснеццe: "Чужакі!*
*Краіну бацькоў нельга пакідаць нікому!*
*Скрозь нагоняць галасы*
*бацькоўскага дому!*
*Безабароннага, успаміны асочаць,*
*Чорным штандарам роспачы шумнуць*
*у вочы..."*
*Вось-вось, — як жа далёка!..*
*на французскіх гонях*
*Знаёмыя дрэвы, лісця шум зялёны,*
*Парыж квітнее, ночка зоры паліць,*
*Знаёмыя з маленства, і нёмнавая хваля*
*Вось, вось на бераг Сены грыву ўздыме...*

*— Чаго плачаш ты, Адаме?..*
*Плача. Ён — на Радзіме.*
1981

Артур МЕНДЗЫЖЭЦКІ

### Адам Міцкевіч*

*"Хваліцель портэру і брудэршафту..."*
*"Пабoрнік феадальнага ладу..."*
*"Любімчык езуітаў..."*
*"Праявіў варварскую нянавісць да развіцця грамадскай думкі ў Айчыне".*
*"Самазадаволенасць і пыха — адзіныя пабуджальнікі ягонай душы"*
*"Увесь у фальшы і слабіне"*
*"Адрокся ад уласнага генія..."*
*"Не верыць у сябе..."*
*"Не хоча быць сабой..."*

*Як бачылі цябе, так пра цябе пісалі.*
1970

*Сказы ў двукоссях — цытаты з друкаваных матэрыялаў 1836—1845 гадоў, якія былі накіраваны супраць Адама Міцкевіча.

Яраслаў ІВАШКЕВІЧ

### Міцкевіч у Рыме (1830)

*Якімі ж чужымі сталі рудыя муры Рыма*
*Калі голас адтуль прымчаўся*
*Едзьма нехта нас кліча*

*Арнаментамі непатрэбшчыны*
*Пакручастыя кіпарысы*
*Разлапушаныя пініі*

*Не да пакавання куфраў*
*Чапрак і посах*
*Гэтага хопіць*

*І кабет марны лямант*
*Тупнуць чобатам і ісці*
*У тамты бок*

*А там клічуць*
*Волі волі*
*Яшчэ Польшча не*

*Ісці туды дзе змагаюцца*
*Няхай не кажуць*
*Што Польшча існуе без мяне*

*А Польшча існуе без мяне*
1970

ВАРУНКІ

*Ёсць рэчы, якія ва ўсе часы называліся аднолькава.*
С. АЛЕКСІЕВІЧ

***Не так даўно газета "Советская Белоруссия" змясціла на сваіх старонках матэрыял "Вы мне интересны и надеюсь, что это взаимно". Жаданне пазнаёміцца выказвала новая супрацоўніца выдання Людміла Маслюкова. Пры гэтым досыць цьмяна расказвала пра сябе і ўсё болей жадала перавесці гутарку на іншую тэму. Было спадзяванне, што больш падрабязна пра ўласную асобу яна распавядзе ў наступных публікацыях. Аднак пад рубрыкай "Разговор" 21.11.98 ужо змяшчаліся гісторыі пра нешчаслівае жыццё чытачоў, якія адгукнуліся на запрашэнне на "ўзаемнасць". Шкада. Шматгадовы вопыт Людмілы Мікалаеўны можа паслужыць шыкоўнай ілюстрацыяй да тэмы "Свабодны выбар прафесійнага журналіста".***

# Пералётная птушка

## НАПІСАНАЕ ЗАСТАЕЦЦА

Да 1995-га наша гераіня ўжо працавала ў "Советской Белоруссии". Працуючы ў "СБ" Л. Маслюкова была абавязана спрыяць папулярызацыі В. Кебіча, Старшыні Саўміна — арганізацыі, чыім афіцыйным органам з'яўлялася ў той час газета. Трэба сказаць, што Маслюкова гэта рабіла не з такім імпэтам, як, напэўна, жадаў бы сам Вячаслаў Францавіч:

"В ходе встреч в управлении и на новой станции метро премьер В. Кебич получил вотум доверия как претендент на пост Президента Беларуси" (31.05.94. "СБ").

"Нельзя не признать, что В. Кебич, судя по реакции зала, получил здесь свои очки, но судя опять-таки по вопросам, репликам и отзывам людей, премьер заработал благосклонность по правилам" (28.04.94. "СБ").

"Формула В. Кебича — шаг за шагом все ближе к России месяц от месяца получает реальное наполнение. Премьер осуществляет замысел... Политик, руководитель, лидер, достигающий поставленных целей, тем самым создает вокруг своей идеи зону притяжения" (19.01.94. "СБ").

Праўда, пасля выбараў прэзідэнта, калі стала вядома пра перамогу зусім іншага кандыдата, Маслюкова будзе вымушана канстатаваць: "Кебич подвергся опале со стороны народа — самой суровой, неотразимой и трагичной для политика" (21.06.94. "СБ"). Гэта "памылачка", аднак, не перашкодзіла напісаць матэрыял-развітанне "Смотрите, кто уходит!", цалкам вытрыманы ў спачувальнай мелодыцы:

"Иные газеты писали о нем: все эти годы он коварно вел Беларусь к гибели. Почти нет сомнений, что эта кривда в глазах людей никогда не будет развенчана" (21.07.94. "СБ").

На першы погляд, усё як мае быць. Удзячная ўрадавая журналістка развітваецца з былым кіраўніком урада і, нягледзячы на перамогу яго апанента, абвяшчае крытычныя словы на адрас прэм'ера "кривдой". Чаму ж тады ўсе ўпэўненыя ў тым, што інфармацыйную падтрымку (да месца тут будзе назваць яе агітацыяй) Лукашэнку аказалі журналісты "СБ" і ледзь не першае пяро сярод іх належыць Маслюковай? Чаму сам Вячаслаў Францавіч, выступаючы па БТ і патрасаючы газетай, пытаўся ў лідэра прэзідэнцкай гонкі: "Як вы здолелі перацягнуць іх на свой бок?"? Калі шматлікія інтэрв'ю з Лукашэнкам, публікацыя яго антыкарупцыйнага даклада, гучныя загалоўкі можна трактаваць як прафесійнае выкананне журналісцкіх абавязкаў, то непасрэдны ўдзел у напісанні тэксту сенсацыйнай прамовы ў парламенце яўна выбіваецца за межы жадання павялічыць наклад саўмінаўскай газеты.

Прыгадаем некалькі радкоў з нашумелага даклада, аўтарства якіх належыць Л. Маслюковай:

"Мы становимся заложниками какой-то чудовищной, безнравственной и беспринципной системы манипулирования и обмана людей. Системы, в которой все продается и покупается".

Атрымліваецца, што адной рукой Маслюкова пісала панегірыкі кіраўніку Саўміна, а другой — абвінавачвае заключэнне створанай ім сістэме. У сваёй публікацыі "А. Лукашэнко как выразитель народного чувства" (13.01.94. "СБ") Людміла Мікалаеўна растлумачыць такі дзіўны падыход наступным чынам: "есть частности, а есть несравненно важное общее. Тогда мыслилось так: кто бы из четверых (Кебіч, Дубко, Новікаў, Лукашэнка. — **В. Д.**) ни победил — победит более или менее близкая нам и нашим читателям тенденция". Паколькі відавочнай была бесперспектыўнасць прэтэнзій Дубко і Новікава, журналістка добра разумела, што рэальная барацьба ідзе паміж прэм'ерам і А. Лукашэнкам. Першы паставіў свой подпіс пад белавежскімі пагадненнямі, другі выступіў супраць іх. Адзін фактычна стварыў урад, другі абвінаваціў яго ў карупцыі. Вячаслаў Францавіч кіруе эканомікай — Аляксандр Рыгоравіч канстатуе пагаршэнне эканамічнага становішча. Нішто сабе "частности"! Два супрацьлеглыя лагеры змагаюцца за ўладу, а назіральнік прыходзіць да высновы, што ў ворагаў маецца нешта агульнае, якое дазваляе яму насіць снарады то адным, то другім. Згодна з гэтай логікай першае, што павінен быў зрабіць Аляксандр Рыгоравіч пасля сваёй перамогі, гэта падпісаць указ аб прызначэнні Вячаслава Францавіча кіраўніком СВАЙГО ўрада. Ну як жа! Столькі агульнага: і прарасійская скіраванасць, туга па сацыялістычным мінулым, і г. д. Аднак малады прэзідэнт палічыў такі крок недапушчальным, а аналагічную прапанову абразай (31.10.94. "СБ").

Далейшае даўно і добра вядома, што шмат у дзейнасці прэзідэнта незадавальняла журналістаў, яшчэ большае назадавальненне адчуваў прэзідэнт, чытаючы свежую прэсу. Агульная мэта была дасягнута, далейшыя шляхі разышліся. Павінен быў адбыцца скандал — ён адбыўся ў канцы 94-га. Прыхільнікі кандыдата А. Лукашэнкі адышлі ў "канструктыўную" апазіцыю. Апальны рэдактар І. Асінскі разам са значнай часткай калектыву былой "СБ" утвараюць газету "Белоруссия". Праз некаторы час Л. Маслюкова пакідае і яе. Наступнае месца працы — орган КПБ "Товарищ". Аднак і там наша гераіня не затрымліваецца і пасля кароткага перапынку прапаноўвае сваё пяро апазіцыйнай, антыкамуністычнай, правай газеце "Народная воля". Кастрычнік 98-га — вяртанне ў "родные пенаты" — "Советскую Белоруссию", якая ўжо змяніла заснавальніка, лагатып, прынцыпы... Гэта, як высвятляецца, для Маслюковай нічога не значыць. Яна была, ёсць, будзе "палітычным аглядальнікам".

Натуральна, што першыя публікацыі Л. Маслюковай у прэзідэнцкай "СБ" не ўтрымліваюць крытыку прэзідэнта альбо яго атачэння. Разглядаецца, напрыклад, пытанне: чаму Тэтчэр выступіла ў абарону Пінinfoчэта?" "Понять в сущности легко — так проявляется на практике принцип двойного стандарта в политике. Тот самый принцип, на применении которого то и дело "ловится" Запад. Официальная Беларусь то и дело разоблачает и подчас достаточно резко лицемерную позицию государств развитой демократии" (23.10.98. "СБ"). Тут трэба сказаць, што тэма двайных стандартаў хвалюе Людмілу Мікалаеўну даўно, як, дарэчы, наогул узаемаадносіны Усходу і Захаду. Яна выдатна разумее, што гэта магічнае словазлучэнне — ключ да тлумачэння многіх рэбусаў палітычнага жыцця. І ў гэтым яна здольная вучаніца палітыкаў самых розных плыняў. Усяго некалькі мясяцаў таму за выкарыстаннем падвоеных стандартаў было заўважана не толькі кіраўніцтва Беларусі, але і вышэйшыя службовыя асобы Расіі: "Чуть чего союзники дружно обличают в использовании двойных стандартов по отношению к себе своих общих западных противников..." "Россия проводит политику двойных стандартов в отношении "несовершеннолетнего хулигана восточной Европы" (9.07.98. "НВ").

І што ж "цывілізаваныя" краіны? Як яны рэагуюць, успрымаюць гэтыя гульбішчы, тая ж Вялікабрытанія, напрыклад?

"Все это, вероятно, очень трудно усваивается британским джентльменским сознанием, базирующимся на понятии высокого престижа своей страны в глазах мирового сообщества" (9.07.98. "НВ").

І тут такі "момант ісціны" — арышт Пінinternalчэта. Але Л. Маслюкова раней за іншых убачыла "лицемерную позицию стран развитой демократии". Гэта раней яна называла Еўропу "просвещенной и воспитанной", цяпер жа маска зляцела і ў публіцыста змянілася рыторыка. Яшчэ крышачку і зноўку загучыць абвінавачванне "проклятых капиталистов" у фінансаванні буржуазных партый і абслугоўваючых іх жоўтых і карычневых газетак.

Аднак прыйшоў час разгледзець прагрэс (калі наогул тут да месца гэтае слова) у поглядах Маслюковай падрабязней. Лепей за ўсё разгледзець такі сур'ёзны фактар светапогляду чалавека, як адносіны да незалежнасці сваёй краіны, яе свабоды. 29.11.94г. у "СБ" Л. Маслюкова пісала: "Близится 8 декабря — третья годовщина беловежского сговора. На нынешней неделе следует ожидать усиленного потока пропаганды. Понадобится наворотить горы лукавых слов, чтобы завуалировать: в том дне таилось неисчислимое зло".

Ну калі аднаўленне незалежнасці дзяржавы — зло, чаму ж тады так актыўна абмяркоўвала выданне магчымасць увядзення інстытута прэзідэнцтва — гэта значыць, спрыяла з'яўленню "удельных князьков" і нават прапагандавала кандыдатаў на гэтую пасаду. Праўда, кандыдаты ўсе як адзін выступалі супраць незалежнасці Беларусі, за аднаўленне СССР, але самім удзелам у выбарах яны міжволі дзейнічалі на карысць справы ўмацавання гэтай самай незалежнасці. Парадокс тут яшчэ ў тым, што сказанае зусім не перашкаджала ствараць у масавай свядомасці стэрэатып "суверэнітэт — гэта кепска, любая інтэграцыя — добра". Нават патрапіўшы ў так званую "канструктыўную" апазіцыю, Маслюкова крочыць тым жа шляхам: "Какими бы подспудными интересами ни руководствовались ныне правители государств СНГ, всякий раз, разыгрывая карту сближения, они могут рассчитывать на благодарность разобщенных людей по любую сторону любой границы" (2.02.95. "Белоруссия").

Бачыце, ужо з'явіліся "подспудные интересы", аднак на ўдзячнасць інтэгратары ўсё адно могуць разлічваць... Трэба меркаваць, праца ў "Народнай волі" істотна змяніла светапогляд Маслюковай: "Фальшивый, конъюнктурный, циничный Союз не может облегчить жизнь вошедших в него народов. Ясное понимание этого дает право бросить в лицо Борису Николаевичу "Руки прочь от Беларуси!" (19.03.97. "НВ"). Нагадаю, што піша гэта камуністка, член партыі, галоўнай мэтай якой з'яўляецца аднаўленне СССР. Магчыма, мы памыляемся і ў дадзеным выпадку мае месца барацьба за "незалежнасць Беларусі ў складзе агульнай для ўсіх савецкіх рэспублік дзяржаве"? Тады чаму аўтар выступае супраць агульнага парламента і ўрада, апошнія, як вядома, былі ў СССР? Маслюкова пры гэтым, праўда, адзначае, што яна за "налаживание равных, взаимовыгодных и честных отношений между двумя народами". Але хто супраць? Гэты штамп выкарыстоўваюць і правыя і левыя, падыходзіць ён і для надання змене поглядаў выгляду натуральнасці. Гартаеш далей падшыўку "Народнай волі" і знаходзіш яшчэ больш цікавае: "Моя историческая родина Россия подыгрывает безумству рецидивами имперской психологии и шовинизма, от которых мне, к счастью, удалось избавиться" ("НВ", N200, 97 г.) Агаворка ў канцы сказа невыпадковая. Той, хто знаёмы з творчасцю Масклюковай узору 93—95 гадоў, ведае яе, як палымяную публіцыстку, што ўсё сваё майстэрства накіравала на ганьбаванне нацыяналістаў і іншых дэмакратаў. У сакавіку 95-га яна з газетнай старонкі нават абвесціць сябе "закоренелым интернационалистом и советским человеком". А тут такое... Вось для параўнання яшчэ некалькі цытат:

"Самые "прогрессивные демократы" настойчиво пытаются убедить народ, что полицаев времен Великой Отечественной войны теперь надо приравнивать в правах к защитникам Отечества" (21.1.94. "СБ").

"Обыватель не воспринимает... ни великую роль БНФ в пробуждении национального самосознания, ни заслуг фронта в возрождении истории, мовы, культуры, символики" ("НВ", N 200).

"В прошлом это знамя реяло изменниками Родины, вдохновляя их на кровавые расправы с соотечественниками, мирными жителями. С теми кого оно осеняло, воевали солдаты и партизаны" (11.05.93. "СБ").

Невядома, што адбылося (і ці адбывалася наогул што-небудзь) у свядомасці Маслюковай за той тэрмін, які падзяляе гэтыя выказванні ў часе, але факт публікацыі іх вымагае пэўных паводзінаў у далейшым. Напісала пра "осененных знаменем предателей" — не станавіся пад гэты сцяг сама. Я ж на ўласныя вочы бачыў Л. Маслюкову пад нацыянальнымі штандарамі падчас правядзення мітынгу журналістаў у падтрымку П. Шарамета. Тут мне могуць запярэчыць: маўляў, яна магла падзяляць мэты акцыі і не падзяляць іхніх сімпатый да сімволікі. Але тут мне ўспамінаецца дэпутат Шчукін. Той на бэнэфаўскія мерапрыемствы ходзіць з вялікім чырвоным сцягам. Цяжка — вазьмі маленькі. Толькі ж справа не ў тым...

## СУМЛЕННЕ АБО КАШАЛЁК?

Ёсць у рамане Генрыха Бёля "Дом без гаспадара" такі персанаж — доктар Шурбігель, які пасля вайны чытае даклады пра адносіны творчай асобы да царквы і дзяржавы, карыстаецца папулярнасцю. Нешматлікія яго ворагі знайшлі дысертацыю, напісаную доктарам у 1934 годзе і меўшую назву "Вобраз фюрэра ў сучаснай лірыцы". Вялікага клопату з гэтай прычыны Шурбігель не займеў, проста абвінаваціў ва ўсім сектанствуючых песімістаў і ерытыкоў, не здольных зразумець "паступовае развіццё духоўна пасталеўшай асобы".

"Как гражданка Беларуси, но с российскими корнями, я сама прошла довольно сложный путь, прежде чем ощутила себя вполне определенно белорусской", — піша Маслюкова ў "НВ" і нагадвае Шурбігеля. Мабыць, і можна было б паверыць у шчырасць Людмілы Мікалаеўны, калі б не некалькі вялізных "але". У матэрыяле "О национальной гордости белоруссов" яна піша адваротнае ўсяму таму, што пісала ў "СБ" Асінскага. Адно што З. Пазняк яе па-ранейшаму палохае. Трэба меркаваць, з тае прычыны, што ведае кошт "творчасці" Маслюковай. Калі ў 94-м яе сачыненні ўспрымаліся як аргументаваная пазіцыя, то названы твор — нішто іншае, як бездапаможная лаянка. Зянона Станіслававіча ўжо кліча "экстремистским ПАТРИОТОМ", хоць яшчэ некалькі год таму сцвярджала: "на Беларусь им глубоко наплевать". Натуральна, не абышлося без асабістых крыўд (Пазняк спрабаваў судзіцца з Маслюковай).

Цікава паглядзець, як тлумачыць Л. М. свой пераход з "Народнай волі" ў "Советскую Белоруссию". Па яе словах, змену месца працы абумовілі "коренные профессиональные, творческие и житейские интересы". Што датычыць прафесійных і творчых інтарэсаў, то пра гэта мы ўжо чыталі. Вось: "В этой редакции и при этом хозяине я обладаю устраивающей меня мерой творческой свободы и для меня это главное" ("НВ"). Што змянілася за некалькі месяцаў — невядома. Затое вядома, што "жыццёвыя цяжкасці" даўно хвалююць Л. Маслюкову. Так, у лютым 1998 года свет пабачыў артыкул "Ох, идти придется к лысому, ведь много денег у него". У ім утрымліваюцца развагі пра ўзаемаадносіны ўлады і творцы. У прыватнасці, адзначаецца, што А. Пугачова "распалась на женщину, которая поет, и певичку, которая откровенно обслуживает власть". І далей: "В свете таких превращений шлягер "Товарищ президент" на музыку композитора-песенника Э. Ханка из явления жизни бел. культуры переходит в разряд мелкой детали, характеризующей единую на просторах Союза Беларуси и России тенденцию" (4.02.98. "НВ").

Цікава, што, на думку Маслюковай, не дазволіла б нам звязаць яе пераход у "СБ" з узгаданай тэндэнцыяй? Што б ні пісала Л. М. пра "иной срез действительности", які журналістка жадае разгледзець, працуючы ў выданні Адміністрацыі прэзідэнта, шыла ў мяшку не схаваеш. Недарма ж рэдактар "НВ" І. Сярэдзіч падчас апошняй размовы з падначаленай спытаў: "Колькі трэба плаціць, каб не пакінула газету?" Пустое пытанне, Л. М. ужо вабілі іншыя перспектывы. Сам Аляксандр Рыгоравіч падчас Форуму журналістаў краін СНД празрыста намякаў: "А шкада, Людміла, што вы сышлі з "Советской Белоруссии". І яна вярнулася. Той, хто лічыць "СБ" беспартыйнай газетай — хай лічыць, Маслюкова ж выдатна ўсё разумее. У спісе выданняў, што выконваюць палітычную замову ўлады, 8 ліпеня гэтага года першым яна назвала "СБ". Калі, працуючы ў "НВ", галоўным для публіцысткі з'яўлялася творчая свабода, то пасля — "массовый читатель".

"У солидной и информированной, ежедневной и оперативной "СБ" на сей день самый весомый в республике тираж — 350000 подписчиков, читателей в совокупности — порядка полумиллиона". Першая публікацыя ў новай "СБ" і адразу панегірык. Хто ж адкажа Маслюковай лепей за саму Маслюкову: "все знают... как делаются тиражи лукашенковских газет. Для любого начальника проще зарплату домой не принести, чем не подписаться, скажем, на "СБ". "Ограбить, чтобы потом "облагодетельствовать взамен на раболепие — вот экономическая политика государства в отношении своих собственных подневольных газет" (8.07.98. "НВ").

## ВЫБАР

Журналістка зрабіла выбар. Аднак ці можам мы лічыць гэта яе асабістай справай? У выніку бясконцых змен поглядаў, выданняў, гаспадароў пахіснулася і без таго не вельмі моцная вера народа СМІ ў цэлым і друкаванаму слову ў прыватнасці. Журналістаў, якія працавалі з Маслюковай у адных рэдакцыях, будуць доўга папракаць дзейнасцю гэтай "прафесіяналкі". Камуністам і другім левым будуць казаць: маўляў, выгадавалі нацыяналістку. Нацыяналістаў — папракаць тым, што далі прытулак "чырвонай" і г. д. Дзень, калі Л. М. падпісала дамову з "саліднай" газетай — дзень чарговай паразы журналістыкі. Цяпер спалучэнне слоў, кшталту "другая старажытная прафесія", "прадажны журналіст", у дачыненні да любога прадстаўніка "чацвёртай улады" мы будзем чуць часцей. І ці знойдзем мы што адказаць?

*(Працяг на стар. 15)*

ЧАСАПІС

## Аснова творчасці



**Персанальная выстава акварэляў і малюнкаў выкладчыка мастацка-графічнага факультэта Віцебскага універсітэта Аляксандра Карпана, адкрытая ў дзень 45-годдзя мастака, стала не толькі выдатнай дэманстрацыяй аднаго з адметных накірункаў у сучаснай акварэлі, але і засведчыла высокі прафесіяналізм аўтара. Адоранасць і адукаванасць А. Карпана, яго мэтанакіраванасць і апантанасць у творчасці невыпадкова прыцягваюць да гэтага педагога па мастацтве студэнтаў, вызначаюць ступень даверу да яго асобы.**

**У экспанаваных на сёлетняй выставе малюнках агаленай мадэлі, якія выкананы амаль у класічнай акадэмічнай манеры, уражвае не толькі знешняя эфектнасць тэхнікі, але і дасканалае валоданне пластыкай, лініяй, тонам. Кожная з кампазіцый —**



**гэта да дробязей прадуманая мізансцэна, аснову якой вызначаюць прынцыпы рэалістычнага мастацтва. Нацюрморты, напісаныя А. Карпанам, ужо неаднойчы звярталі на сябе ўвагу гледачоў на разнастайных выставах суполкі "Віцебская акварэль". Зараз мастак экспануе выдатныя па вобразна-пластычных якасцях творы: "Нацюрморт са старым самаварам", "Чайныя ружы", "Нацюрморт з гарбузом". З аднолькавым майстэрствам, дастойным сапраўднага творцы, А. Карпан звяртаецца і да пейзажаў, у першую чаргу ўвасабляючы ў кампазіцыях адметны настрой ("Перад навальніцай", "Возера Крывое", "Вячэрнія цені").**

**"Мастак павінен праяўляць пэўную кансерватыўнасць у адносінах да ўласнага стылю, — адзначае А. Карпан. — Я не разумею рэзкіх радыкальных пераходаў з адной манеры ў другую. Часцей гэта звычайная няшчырасць. Стыль — "твар мастака" — фарміруецца гадамі і змяніць яго зусім не проста. Але і вызначыцца ва ўласным стылі дадзена не кожнаму і не заўсёды. Для мяне пытанне стылю і мастацкага ўзроўню маіх твораў — гэта яшчэ і справа ўласнага гонару, усведамленне вялікай адказнасці перад маімі вучнямі".**

**А. Карпан за апошнія гады наладзіў некалькі персанальных выстаў у Германіі, Ірландыі, прыняў удзел у буйных сусветных экспазіцыях — 37-ай і 38-ай міжнародных выставах у Франкфурце-на-Майне. "Экспазіцыі за мяжой надаюць упэўненасці і ўзмацняюць жаданне працаваць яшчэ больш, — заўважае мастак. — Але зрабіць выставу ў Віцебску для мяне — асаблівая адказнасць. Бо тут я жыву, тут мае педагогі, сябры, вучні".**

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ**

**г. Віцебск**

*На здымках: "Без назвы", "Дон Кіхот, наперад"*

---

*"...Насталі часы, аб каторых можна сказаць, што людзей нікчэмных яны не бачылі. Не стала як бы паветра для подлых інстынктаў. Няхай цяперашняе пакаленне зайздросціць, што я на гэта глядзеў сваімі вачамі".*

Альгерд АБУХОВІЧ

Пра ўплыў творчасці Адама Міцкевіча на станаўленне беларускай літаратуры XIX стагоддзя сказана нямала. Аднак выключнасць постаці славутага навагрудчаніна ў культурным жыцці Беларусі дазваляе, не баючыся перабольшання, сцвярджаць, што гэта па сутнасці невычэрпная тэма. Знітаванасць вялікага выгнанніка з радзімай заўсёды была настолькі шчыльнай, што прыходзіцца здзіўляцца, як чалавек, дзесяцігоддзямі адарваны ад бацькаўшчыны, здолеў жыць толькі яе патрэбамі. Па вялікім рахунку Міцкевіч так і не адаптаваўся да ладу жыцця меркантыльнай Заходняй Еўропы. Гэты палымяны рамантык стаў прызнаным празарлівым і вешчуном, здольным натхняць землякоў на творчыя пачынанні. І што істотна, ён не толькі прышчапіў рамантызм польскамоўнай літаратуры, не толькі раскрыў свету скарбы беларускага фальклору, не толькі міфалагізаваў і стварыў прывабнейшы вобраз Беларусі-Літвы, але сваёй творчасцю даў штуршок з'яўленню "новай" славянскай, хай сабе напачатку і сялянскай, літаратуры.

Ігар ЗАПРУДСКІ

# У Міцкевічавым кантэксце

Вясной 1832 года Міцкевіч напісаў трэцюю частку драматычнай паэмы "Дзяды". У ёй, акрамя іншага, былі адлюстраваны віленскія падзеі 1823—1824 гадоў, звязаныя з рэпрэсіямі царскіх уладаў супраць членаў студэнцкіх таварыстваў філаматаў і філарэтаў. Адным з галоўных персанажаў твора з'яўляецца сенатар Навасільцаў, царскі саноўнік, надзелены тады амаль неабмежаванай уладай у Польшчы, Беларусі і Літве. У паэме ён названы "подлым забойцам дзяцей" і паказаны крывадушным сатрапам. Яго кляўрэтам і беспрынцыпным памагатым выступае Пелікан, чыя здрадніцкая роля ў справе філарэтаў спрыяла будучай паспяховай кар'еры: ён быў прызначаны рэктарам Віленскага універсітэта. І Навасільцаў, і Пелікан у "Дзядах" былі прыкуты да ганебнага слупа гісторыі.

У прадмове да трэцяй часткі паэмы аўтар раскрыў стратэгію царскіх паслугачоў: "Навасільцаў найперш кінуў на пакуты дзяцей і моладзь, каб у самым зародку знішчыць надзеі будучых пакаленняў". Паводле аўтара, ён нават сфабрыкаваў гучную справу аб дзейнасці на Польшчы і Літве ўяўнай антырасійскай змовы, удзельнікамі якой былі названы студэнты віленскіх культурніцкіх таварыстваў. Літаратурныя працы маладых людзей ён прадставіў "як выразны бунт супраць урада". Гэта дазволіла сенатару атрымаць надзвычайныя паўнамоцтвы і распачаць рэпрэсіі — арышты, катаванні, закрыццё школ, — і нарэшце ў адной асобе стаць "абвінаваўцам, суддзёю і катам". Трэцяя частка "Дзядоў" выклікала гучны рэзананс як на эміграцыі, так і ў Расіі.

Больш чым праз два дзесяцігоддзі ў 1854 годзе ў Лондане на польскай мове ананімна былі выдадзены ўспаміны **"Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды"**. Кнігай адразу зацікавіліся ў эміграцкім асяроддзі. Для гісторыі беларускай літаратуры найбольшую каштоўнасць уяўляе 29-ы раздзел яе. У ім мемуарыст апавядае пра падзеі, якія адбыліся ў мястэчку Крашын у канцы 20-х гадоў мінулага стагоддзя. Там ідзе гаворка пра востры канфлікт паміж мясцовымі сялянамі і новым іх уладальнікам панам Юрагам, пра карныя меры царскіх уладаў супраць непакорлівых падданых, пра стаўленне да гэтай справы тутэйшага святара ксяндза Магнушэўскага (за свой кошт без афіцыйнага дазволу ён утрымліваў у мястэчку школу, дзе навучаліся вясковыя дзеці), пра нечаканы прыезд у Крашын няпрошаных гасцей.

Побач з рэальнымі асобамі ва ўспамінах фігуруе адзін загадкавы персанаж — "хлопчык Пётрак з Крашына". У абмалёўцы мемуарыста ён быў таленавітым паэтам і меў сшытак уласных твораў на беларускай мове. У прысутнасці аўтара "Аповесці..." па загаду свайго настаўніка Магнушэўскага ён прачытаў візіцёрам — сенатару Навасільцаву і рэктару Пелікану — "шэсць ці сем" сваіх журботных элегій. У выпадковага, як можна меркаваць, сведкі захаваўся ў памяці толькі фрагмент хрэстаматыйнага беларускага верша "Зайграй, зайграй, хлопча малы...". Яго скрупулёзна пракаментаваны тэкст і быў прыведзены паралельна з паэтычным перакладам на польскую мову ў 29-м раздзеле ўспамінаў.

Там апавядаецца, што жорсткі рок і злая воля крывадушных слухачоў загубілі маладога паэта. З ім абышліся гранічна сурова і несправядліва — аддалі ў салдаты. Між тым саноўныя госці, забіраючы рукапісы падлетка, абяцалі паклапаціцца "пра лёс такога незвычайнага паэта". Іх крывадушнасць і жахлівы паварот справы канчаткова падарвалі і без таго слабое здароўе састарэлага святара.

Атрымалася кранальная рамантычная гісторыя. Наіўны Пётрак з Крашына, якому было "ўсяго дзесятак з нечым гадоў" за свае вершы быў бессардэчна пакараны. І ўсё з-за празмернай даверлівасці настаўніка, які загадаў лепшаму вучню прачытаць гасцям "уласныя вершы на беларускай гаворцы, напісаныя без чыйго-небудзь натхнення і ўзору". Вяльможныя слухачы ўгледзелі ў творах крамолу. Іх вераломства і стала прычынай драмы — "праз некалькі дзён бязвінны хлопчык быў забраны паліцыяй у рэкруты, якіх ён так баяўся, а да ксяндза Магнушэўскага, чыё здароўе было аслаблена гэтай падзеяй дарэшты, прыставілі, як да арыштанта, варту". Вельмі важнае значэнне мае прыведзеная нібы між іншым заўвага мемуарыста пра несумненную самастойнасць творчасці Пётрака з Крашына і параўнанне яго загубленага таленту з больш шчаслівай творчай біяграфіяй шатландскага барда Роберта Бёрнса. У заключэнні раздзела аўтар "Аповесці..." зусім невыпадкова пафасна пашкадаваў: "Бёрнс, парабак англійскі, пры менш цяжкіх акалічнасцях, уласным талентам, не падтрыманым ніякай навукай, забяспечыў сабе неўміручае імя, а сваёй сям'і — пашану і дастатак; Пётрак з Крашына за талент, дадзены яму ад Бога, зазнаў самае жорсткае няшчасце!"

Лонданскае выданне 1854-га года — гэта унікальны факт у гісторыі беларускай літаратуры. У "Аповесці..." было абвешчана, што беларускі Паэт, выразнік мараў прыгнечаных прыгонных рабоў, прыйшоў і быў укрыжаваны. Гэта своеасаблівае Евангелле, у якім была агучана добрая вестка аб нараджэнні ў пакутах новай славянскай літаратуры. Пётрак з Крашына — усяго толькі святое ягнятка. У яго рана ці позна знойдуцца вучні і паслядоўнікі. Але ў сярэдзіне мінулага стагоддзя яны, гнаныя, не здолелі напоўніцу рэалізаваць свой творчы патэнцыял. Значна пазней, у 90-я гады, з'явяцца Мацей Бурачок і Сымон Рэўка, але яны будуць ужо суддзямі. І суд іх будзе суровым і безапеляцыйным.

"Аповесць..." была надрукавана далёка ад радзімы. Сімвалічна, што добрая вестка нарадзілася ў асяроддзі беларускай — ці, калі хочаце, польска-беларускай — эміграцыі і была агучана ў адным з цэнтраў еўрапейскай цывілізацыі.

Настрой крашынскага "пастушка", як ні дзіўна, вельмі сугучны ідэі верша Міцкевіча "Матрос", напісанага незадоўга перад ад'ездам з Вільні ў вечнае выгнанне-тулянне. У ім аўтар задае герою, здавалася б, парадаксальнае пытанне і атрымоўвае на яго такі адказ-апраўданне:

***Значыць, і гэткае шчасце магчыма,***
***Проста ў жыцці мітуслівым:***
***Можна пакінуць маці-радзіму,***
***Пакінуць і быць шчаслівым?***
***Эх, адказаў матрос, не трэба***
***Сэрцу майму дакора!***
***З маленства жыў я пад гэтым небам***
***І бачыў адно толькі гора.***
***Бачыў я праўду ў путах, уціску,***
***Цемру ў бедных галовах,***
***Бачыў, як багацей сваіх блізкіх***
***За грош прадаваць быў гатовы.***

*(Пераклад К. Кірэенкі)*

У трэцяй частцы "Дзядоў" Міцкевіч паказаў жахлівыя карціны "службы" ў царскім войску. У раздзеле "Дарога ў Расію" герой паэмы сустракае расійскія пяхотныя палкі, якімі камандуюць чужаземцы — немец, які любіць сентыментальныя творы Шылера, ці француз, які мармыча пад нос ліберальныя песні. Іх падначаленых чакае жахлівая доля — палова папросту вымра. Сваёй смерцю яны палепшаць дастатак начальнікаў і дапамогуць іх поспеху ў кар'еры. У натоўпе рэкрутаў аўтар адзначае і "беднага селяніна з літоўскага сяла", маркотнага і хворага. І гэтага чалавека чакае, пэўна, такі ж незайздросны лёс.

Яшчэ больш страшная карціна намалявана ў раздзеле "Агляд войска", дзе апавядаецца пра жахлівую гібель на парадзе маладога салдата, затаптанага кавалерыйскімі эскадронамі. Аўтар у скрусе адзначае:

***Хадзілі чуткі, што салдат затаптаны***
***Быў маладым хлопцам,***
***рэкрутам, літвінам,***
***Высокага роду, князя, графа сынам;***
***Са школы гвалтам у рэкруты аддадзены.***

*(Падрадковы пераклад мой).*

Ледзь не са школьнай лавы трапляе ў рэкруты і Пётрак з Крашына, далейшы лёс якога застаецца невядомым. Асабліва важна тое, што паводле зместу "Аповесці..." у госці да Магнушэўскага прыязджаюць менавіта Навасільцаў і Пелікан, хаця ў архіўных дакументах факт іх прысутнасці ў мястэчку не зафіксаваны. Якраз яны падманам і ліслівасцю дабіваюцца даверу, менавіта яны па-нялюдску ламаюць жыццё маладога сялянскага паэта і тым самым забіваюць і дабрадушнага шчырага ксяндза. Яны зноў, як і ў паэме Міцкевіча, выступаюць у ролі забойцаў, але цяпер дзіцяці і старога. Як і ў "Дзядах", у мемуарах кідаецца ў вочы неадпаведнасць "віны" і цяжару пакарання. Пётрак зазнаў салдатчыну за вершы, у якіх вяльможныя тыраны ўбачылі пратэст супраць сацыяльнай несправядлівасці. Верагодна, гэта не выпадковыя супадзенні, і 29-ты раздзел можна разглядаць як своеасаблівую ілюстрацыю да трэцяй часткі "Дзядоў". Мемуарыст нібы імкнуўся пацвердзіць слушнасць ацэнак, дадзеных Навасільцаву і Пелікану ў творы Міцкевіча.

У вершы "Зайграй..." ёсць чатырохрадкоўе:

***Гдзе я пайду? мілы Божа!***
***Пайду ў свет, у бездарожжа,***
***У ваўкалака абярнуся,***
***З шчасцем на вас азірнуся.***



Гэта неадназначны ў маральных адносінах адказ лірычнага героя на рытарычнае пытанне маці і сястры. Прыведзеныя радкі нясуць, бадай, асноўную сэнсавую нагрузку ў творы. Разважаючы пра вобразна-стылявыя асаблівасці верша, В. Каваленка пісаў: "Пайсці ў свет — гэта матыў народнай творчасці, а пайсці ў бездарожжа — гэта літаратурнае ўдакладненне залішне абстрактнай фальклорнай метафары, вобраза. Прычым "свет" удакладняецца "бездарожжам" не можа ў чыста фальклорным творы, бо слова "бездарожжа" не мае там паэтычнага зместу і таму не можа стаяць побач са словам "свет". Замяніць яго, стаць сінонімам "свету" магло паняцце "чужая старана", напрыклад, але ні ў якім разе "бездарожжа". І тое, што яны стаяць побач, у адным радку, злучаныя толькі знешнім сэнсам, толькі сувяззю ўдакладнення, вельмі каштоўна".

Будзе залішне смелым сцвярджаць, што гэта прамое запазычанне, аднак матыў бязмэтнага вандравання і канкрэтны вобраз "бездарожжа" стала прысутнічаюць у творчасці Міцкевіча. Так, трагізм існасці паміж небам і зямлёю, на бездарожнай пуцявіне, раскрыты ў другой частцы "Дзядоў", дзе апавядаецца пра пасмяротныя пакуты халоднай бессардэчнай дзяўчыны Зосі. Яна асуджана блукаць у нейкай няпэўнай прасторы:

***Так сярод бягучай хвалі,***
***Што імчыць па вечным бездарожжы,***
***Ні ўзняцца да неба,***
***Ні дакрануцца зямлі не можа.***

*(Падрадковы пераклад мой).*

У "Аповесці..." міфалагічныя ўяўленні аб ваўкалаку спецыяльна пракаментаваны: "Ваўкалак — не значыць тое ж самае, што чараўнік, бо чараўнік можа ўздзейнічаць на іншых, ваўкалак жа мае здольнасці толькі перакінуцца ў воўка або якога іншага звера, а потым, перакуліўшыся праз галаву, можа зноў стаць чалавекам. Паводле рускага простанароднага ўяўлення, Напалеон і Сувораў павінны былі мець гэтыя ўласцівасці пераўвасабляцца ў звяроў, з той толькі розніцай, што Сувораў ператвараўся ў мацнейшага звера". Заключная частка гэтага тлумачэння відавочна генетычна звязана з адпаведнымі радкамі паэмы "Пан Тадэвуш", дзе выпадковы госць Суддзі рускі капітан Рыкаў, прадракаючы блізкую вайну, гаворыць:

***У нас расказвалі ў паходзе на француза,***
***Што Банапарты чараваў, так і Сувораў***
***Стаў чараваць супроць***
***французскіх загавораў.***

*Аднойчы ў час бітвы знік*
*раптам Банапарты,*
*А ён, бач, лісам стаў. Уцяміў тыя жарты*
*Сувораў, — стаў хартом.*
*Пачуў француз пагоню,*
*Катом зрабіўся, наш тады змяніўся*
*ў поні.*

*(Пераклад П. Бітэля).*

Адносна гэтага месца Міцкевіч у аўтарскіх заўвагах адзначыў: "Шмат ходзіць аповедаў сярод простых рускіх людзей пра чары Банапарта і Суворава".

Такім чынам, можна пераканацца, што аўтар каментарыяў да верша "Зайграй..." быў добра знаёмы з шэдэўрам міцкевічаўскай паэзіі, і гісторыя пра трагічны лёс юнага крашынскага песняра так ці інакш была звязана з творчасцю паэта.

Пытанне аб аўтарстве "Аповесці..." канчаткова высветлілася толькі ў 1963 годзе пасля выдання адпаведнага тома "Польскага біяграфічнага слоўніка". На падставе апублікаванай раней перапіскі настаўніка Міцкевіча і філаматаў І. Лялевеля ім быў прызнаны Ігнат Яцкоўскі. У 20-я гады мінулага стагоддзя — наваградскі адвакат, затым удзельнік паўстання 1830—1831 гадоў, потым лонданскі эмігрант...

Аднак яшчэ ў 1895 годзе ў пецярбургскім польскамоўным часопісе "Край" аб атрыбуцыі "Аповесці..." пісаў В. Каратынскі — бадай, адзін з сыноў вядомага беларускага паэта. Ён схіляўся на карысць пісьменніка С. Рэйтана. На гэтую публікацыю адгукнуўся нехта В. Мацкевіч, які пераконваў, што мемуары належаць яго сваяку Яцкоўскаму. Пасля вяртання з выгнання на радзіму аўтар сам апавядаў, што выдаў кнігу ў Лондане за ўласны кошт і нібыта ўсяго ў трох экземплярах. Першы быў адпраўлены Міцкевічу, другі паслужыў для пазнанскага перавыдання "Аповесці..." 1858 года, а трэці, прывезены на Беларусь, пасля смерці мемуарыста трапіў да В. Мацкевіча.

Паведамленне пра такі нязначны "наклад" лонданскага выдання недакладнае. Дарэчы, І. Лялевель лічыў Яцкоўскага "не дэмакратычным таварышам" і пад уражаннем ад асабістай сустрэчы, якая адбылася ў Бруселі ў канцы 1853 года, у адным з лістоў назваў яго "незвычайным балбатуном". Аднак прызнанне, што першы асобнік "Аповесці..." прызначаўся менавіта Міцкевічу, гаворыць само за сябе. У такім выпадку аўтар, верагодна, улічваў густы свайго вядомага земляка. Гэта ў пэўнай ступені пацвярджаецца той акалічнасцю, што ў мемуарах ішла гаворка аб мясцовасці, апісанай у "Пане Тадэвушы", нават згадваўся бацька Міцкевіча. У эміграцкім асяроддзі гэта ў першую чаргу і выклікала цікавасць да кнігі.

Першае лонданскае выданне "Аповесці..." ўбачыла свет у так званай вольнай польскай друкарні, уладальнікамі якой у той час былі І. Яцкоўскі і беларускі паэт Аляксандр Рыпінскі, аўтар вядомага фальклорна-этнаграфічнага даследавання "Беларусь...", выдадзенага ў Парыжы ў 1840 годзе. Кампаньёны ў выдавецкай справе былі шчырымі патрыётамі, удзельнікамі паўстання 1830—1831 гадоў, людзьмі энергічнымі і прадпрымальнымі. Біёграфы Рыпінскага падкрэсліваюць, што якраз любоў да Беларусі стала прычынай яго збліжэння ў эміграцыі з Міцкевічам. Асобна трэба адзначыць, што ў першай палове 50-х гадоў XIX стагоддзя ён прыкладаў настойлівыя намаганні, каб сцвердзіцца як беларускі паэт. Прынамсі, у 1852 годзе Рыпінскі не толькі напісаў па-беларуску рамантычную баладу "Нячысцік", але і тройчы выдаў яе за мяжою, адзін раз нават асобнай брашурай, нарэшце, зрабіў беспаспяховую спробу надрукаваць яе тэкст і ў Расіі.

Адзін з філаматаў, вядомы натураліст Ігнат Дамейка пісаў пра аўтара "Дзядоў", што ён "хінуўся да людзей актыўных, неабыякавых да жыцця і больш за ўсё цаніў тых, хто па-сапраўднаму любіў свой край, бацькаўшчыну". І Рыпінскі, і аўтар "Аповесці..." яскрава засведчылі сваю актыўную жыццёвую пазіцыю, сваю неабыякавасць да лёсу айчыны і сваю зацікаўленасць справай культурнага развіцця роднага народа.

Вядома, што з эмансіпацыяй прыгнечанага сялянства Міцкевіч звязваў спадзяванні на адраджэнне страчанай дзяржаўнай незалежнасці. Менавіта ў забітым хлопе ён бачыў магутную сілу, здольную гарантаваць шчаслівейшую будучыню. Нездарма ў "Дзядах" ёсць радкі, у якіх вобразны прысуд "вярхам" грамадства пададзены ў кантрасце з надзеяй на "нізы".

***Наш народ як лава,***
***Зверху халодная і цвёрдая, сухая і агідная,***
***Але ўнутранага агню стагоддзі***
***не выстудзілі;***
***Плюнем на тую кару і спусцімся ўглыб.***

*(Падрадковы пераклад мой).*

Ці не жарынкай гэтага агню быў Пётрак з Крашына, пра трагічны лёс якога расказаў зямляк паэта?

Усур'ёз "стварэнне" беларускай літаратуры стала на парадак дня толькі ў 40-я гады XIX стагоддзя, калі Міцкевіч ужо адышоў ад актыўнай літаратурнай творчасці. Стомлены матэрыяльнымі нягодамі паэт ужо не мог жыць у пафаснай эйфарыі сваёй юначай "Оды да маладосці". Адарваны ад любай Наваградчыны-Літвы, ён асуджаны быў на чужыне чэзнуць як творца. І толькі таму закладалі падмуркі літаратуры яго народа іншыя.

# Як быццам чытае на памяць паэму...

*(Працяг. Пачатак на стар. 6—7)*

А. Міцкевіч у курсе лекцый славянскіх літаратур падкрэсліваў, гаворачы пра Пушкіна, што той адкрыў новую эру ў гісторыі рускай літаратуры, што яго голас "заглушаў усе астатнія". Вуснамі Пушкіна гаварылі ўсе прыніжаныя, незадаволеныя, пакрыўджаныя, падманутыя, адрынутыя. Міцкевіч называў Пушкіна вяршыняй усёй рускай літаратуры, але і гаварыў, што нібыта руская літаратура "закончылася разам з Пушкіным". На той час, безумоўна, закончылася.

Аднак, як сцвярджаецца ў літаратурнай крытыцы, Міцкевіч слаба ведаў літаратурны рух у Расіі пасля Пушкіна і дзекабрыстаў, упаў у скруху, не чакаў змен для свайго народа.

Пра чэшскую літаратуру паэт гаварыў, што тая здольна толькі аплакваць долю і нядолю свайго народа. Толькі польскай літаратуры ён надаваў асаблівае значэнне, бо ў яе была "ідэя будучага". Такой ідэяй была для Міцкевіча ідэя польскага месіянства.

Прыгадаем, што рускія філосафы неаднойчы пісалі пазней, што калі свет трэба будзе ратаваць, то яго выратуе Расія. А тут асаблівая роля ўскладвалася на таленавіты польскі народ. Вось чаму трэці і чацвёрты курсы маюць шэраг суб'ектыўных ацэнак твораў польскай літаратуры.

Адам Міцкевіч заўважаў у сваіх лекцыях, што зразумець і спасцігнуць славянскую душу немагчыма без таго, каб не паглыбіцца ў свет мастацтва, у духоўны космас. "Зразумець гісторыю народа немагчыма, не паглыбіўшыся ў самае сэрца яго літаратуры". Асабліва варта падкрэсліць палемічнасць лекцый паэта, які наглядна і доказна раскрываў бяздоказнасць і пустату сцверджання асобных нямецкіх гісторыкаў, якія ва ўсе трубы трубілі аб маральнай перавазе прадстаўнікоў "чыстакроўнай" арыйскай расы над усходнімі славянамі, безапеляцыйна адмаўлялі славянам у праве на сваё самастойнае існаванне, сваю гісторыю, навуку, культуру. Калі ёсць такая багацейшая і цікавейшая літаратура, сцвярджаў А. Міцкевіч, дык хіба можна не заўважыць самога народа, яго духоўнага багацця?

Паэт даводзіў маральную глыбіню і дасканаласць душы славян. Нам сёння асабліва блізкія тыя словы, якія ён паўтараў услед за чэшскім паэтам Коларам: "Усе народы прамовілі сваё апошняе слова. Цяпер, славяне, чарга за вамі".

Набліжаўся новы перыяд у жыцці і выкладчыцкай дзейнасці паэта. У 1841 годзе ён пазнаёміўся з Андрэем Тавіянскім, які выдаваў сябе за вялікага містыка, вучонага, лекара, прадказальніка (сёння яго назвалі б экстрасенсам). Пра Тавіянскага гаварылі і як пра агента царскай ахранкі, бо хто б стаў за звычайнага чалавека пасылаць афіцыйны запыт з рускага пасольства французскім уладам, калі таго раптам выслалі з Францыі? Міцкевіч "багатварыў" містыка і шарлатана, можа, яшчэ і таму, што той распавядаў яму такія факты з ягонага жыцця, пра якія мала хто ведаў. Як потым высветлілася, пра тыя "таямніцы душы" прызнанага паэта Тавіянскаму расказаў сябра Міцкевіча Адынец, сустрэўшыся з тым у Дрэздэне. Да ўсяго ж містык і псіхолаг, выратавальнік хворых людзей, які валодаў несумненным гіпнатычным дарам, вылечыў ад псіхічнага захворвання жонку паэта.

"Вучэнне" клалася, як кажуць, на ўрадлівую і падрыхтаваную глебу. Як было не



*Курган бессмяротнасці ў Наваградку.*

паддацца ўплывам А. Тавіянскага, не захапіцца яго месіянствам, ідэяй выключнасці, богаабранасці "пасланца божага на зямлі"? Сябры дружна адгаворвалі паэта ад падобных захапленняў, не верылі, што чалавек, які валодае такім здаровым практыцызмам, светлым розумам, адчувальным сэрцам, можа падпасці пад уплыў даволі сумніцельнага "вучэння". У адным з лістоў Шапэна чытаем: "Тое, што Тавіянскі, як хітры махляр, адурманіў працякоў, цягне іх за сабою, можа выклікаць толькі смех, але Міцкевіч — узвышаная душа і мудрая галава, як ён гэтага махляра не разгледзеў і не высмеяў"... З гэтага часу лекцыі ў Калеж дэ Франс ператварыліся ў суцэльнае ўхваленне містыцызму Тавіянскага. Дараваць адкрытую прапаганду якогась "завумнага" вучэння, сумніцельных і небяспечных ідэй улады не маглі. У 1844 годзе Адаму Міцкевічу давялося спыніць чытанне курса, бо міністэрствам асветы лекцыі былі прызнаны ненавуковымі.

Цікавая і ў многім павучальная гісторыя нават для нашага часу!

Набліжалася вялікае патрасенне 1848 года, памятная "вясна народаў", калі абуджаліся цэлыя нацыі, калі адна за другой краіны скідалі са сваёй шыі дзікае ярмо нявольніцтва.

Мы памятаем лёсы трох юнакоў, трох сяброў з Наваградскай і Карэліцкай зямлі — Адама Міцкевіча, Яна Чачота і Ігната Дамейкі. Адзін са студэнтаў-аднадумцаў — Ян Чачот — вялікі адрэзак свайго жыцця правёў у крэпасцях на бяскрайніх прасторах Расіі, другі — Ігнат Дамейка — ледзь не ўсё свядомае жыццё пражыў на чужыне, у Чылі. А трэці? Трэцяму было не лягчэй.

"Бог не дазволіў мне быць удзельнікам якім бы то ні было ў справе такой вялікай, такой важнай па сваіх будучых выніках. Я жыву толькі надзеяй, што не складу бяздзейсна рукі ў магіле...", — пісаў ён з Дрэздэна.

Але жыццё паклікала яго на перадавую. Як паклікала яно сотні і тысячы тых яго землякоў, якія здабывалі свабоду свайму краю ў многіх бітвах у новым ужо стагоддзі.

Яшчэ адзін яркі факт. Падчас аднаго са сваіх публічных выступленняў у Калеж дэ Франс у Парыжы Адам Міцкевіч дэманстраваў пры чытанні лекцый гравюру "Беларускі нявольнік". "Ці ведаеце вы гравюру, некалі створаную Міцкевічам, "Беларускага нявольніка", — я на гэтую карціну ніколі не мог глядзець без біцця сэрца". — пісаў А. Герцэн у адным са сваіх лістоў з Парыжа да М. Боткіна.

У брашуры "Перахрышчаная ўласнасць" ён даў падрабязнае апісанне таго малюнка на літаграфіі: "Беларускі мужык, без шапкі, які ашалеў ад страху, вечнай галечы і цяжкай працы, рукі за поясам, стаіць пасярод поля і неяк коса і безнадзейна глядзіць уніз. Дзесяць пакаленняў, замардаваных на баршчыне, утварылі такога парыю, яго чэрап звузіўся, яго рост знізіўся, яго твар з дзяцінства пакрыўся зморшчыкамі, яго рот скрыўлены ў сутаргах, ён адвык ад "слова". Апошні сказ мы мусім асабліва падкрэсліць. "Нянавісць, змешаная са злосцю і сорамам, напаўняе маё сэрца, — пісаў вялікі рускі рэвалюцыянер-дэмакрат, — калі я гляджу на гэты жорсткі дакор, на гэтае "за сякеру, браты", выяўленае з надзвычайнай дакладнасцю".

А. Герцэн ужо тады загаварыў аб вердзе сумлення за той стан і тое жыццё, у якім апынуўся беларускі народ, загаварыў, можа, упершыню пра вялікую адказнасць перад усім светам "за гэтае злачынства, за гэтага беларуса".

Пазней з артыкула Б. Белаказовіча "Хто быў аўтарам літаграфіі "Беларускі нявольнік", змешчаным у выданні "Праметэй" (М., 1972), стала вядома, што літаграфія належала польскаму мастаку Ю. Азямблоўскаму.

Як бачым, Адам Міцкевіч быў вельмі прафесійным і ад прыроды адораным лектарам, ён умеў зацікавіць слухачоў, захапіць іх, абудзіць сэрца і душу, развярэдзіць думку. Дзеля гэтага ён выкарыстоўваў, як бы мы сёння сказалі, і наглядны матэрыял: малюнкі, літаграфіі, кнігі, рэпрадукцыі карцін, фотаздымкі, лісты, паштоўкі і інш.

Ён яшчэ валодаў вялікім дарам імправізацыі, быў добрым прамоўцам. Кожны, хто ведаў А. Міцкевіча, адзначаў імправізатарскі характар ягонай паэзіі, асабліва тых вершаў, якія ён чытаў у пецярбургскіх і маскоўскіх салонах.

"Імправізатарскі верш яго, — пісаў П. Вяземскі, — свабодна і імкліва вырываўся з вуснаў ягоных гучнай і бліскучай плынню. У імправізацыі яго былі думка, пачуццё, карціны і ў вышэйшай ступені паэтычныя выразы. Можна было падумаць, што ён натхнёна чытае на памяць паэму, якую сам тут жа і напісаў". Гэта выключная ацэнка лектарскага майстэрства А. Міцкевіча.

Той дар навукоўца, "узвышаная душа і мудрая галава" (Шапэн), натхнёны талент імправізатара вельмі спатрэбіліся А. Міцкевічу ў час чытання курса лекцый па славянскіх літаратурах.

**Уладзімір НАВУМОВІЧ**

*Фота Ул. КРУКА*

# Пералётная птушка

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

Акрамя таго, пераход з "НВ" у "СБ" у святле змены В. Новікавым, П. Краўчанкам статуса "апазіцыянер" на статус "дзяржслужачы", некаму можа падасца стварэннем "пятай калоны" ў стройных шэрагах памагатых прэзідэнта. На гэтай ніве ўжо шчыруе "Славянский набат". Так гэты крок асобна ўзятай журналісткі скарыстоўваюць у палітычных мэтах. І яшчэ. Хіба рэдактары, даючы Маслюковай трыбуну, не ведалі, з кім мелі справу? Канешне, прафесійны журналіст каштоўны здабытак для любога выдання, але...

Некалі Л. Маслюкова павяла сябе, як прынцыповы журналіст, і сышла з газеты, якую прынізіла ўлада шляхам зняцця галоўнага рэдактара. Тады яна пісала, што добра разумее, хто і навошта шукае кампрамат на І. Асінскага. Сёння чалавек, які заняў месца яе былога шэфа, працягвае сцвярджаць, што Ігар Мікалаевіч "нячысты на руку", хоць крымінальная справа даўно спынена. Асінскі, яе былы таварыш па перадвыбарчай кампаніі, называе П. Якубовіча ворагам Лукашэнкі, а Маслюкова ідзе да Паўла Ізотавіча на службу. Сённяшні рэдактар "СБ" выйграе судовы працэс і патрабуе спагнання грошай з І. Асінскага. Апошні ўпэўнены ў заангажаванасці суда, а "прынцыповая" журналістка маўчыць. Верыць у правасуддзе? Вось адказ: "Установившийся в Беларуси порядок слишком хорошо известен журналистам независимых изданий, чтобы они питали какие-либо иллюзии насчет возможности выиграть судебный процесс у господ зимовских" (14.01.98. "НВ").

24 лістапада 98 года, "СБ", артыкул "Политический террор: за словом пуля". Галоўная фраза вялізнай публікацыі: "опять бесстыдство входит в моду". Да каго аднесці — здагадайцеся самі! Скокі на труне забітага расійскага дэпутата. Выкрыццё даносчыкаў нагадвае абарону ўласных гаспадароў. Развагі пра годнасць не выклікаюць нічога, акрамя раздражнення і агіды. Абвінавачванні ў экстрэмізме лексікай сталінскай прэсы і відавочная здрада...

Усё шукаю, што станоўчага можна сказаць пра Л. М. Паслядоўная прыхільніца камуністаў, якая, за выключэннем асобных момантаў, заставалася вернай партыі нават у стане ідэалагічнага ворага? Ну напэўна, хоць і не бясспрэчнае гэта сцверджэнне. Крытыкавала прэзідэнта, не адразу перайшла ў залежнае ад яго волі выданне?

Дык усё ж — перайшла, а крытыка журналістам надзеленых уладай асоб — прафесійны абавязак, а не дасягненне. Абараняла інстытут парламентарызму і законнасць у краіне? Але рабіла гэта, з'яўляючыся спачатку кандыдатам у дэпутаты, а пасля — дарадчыкам першага намесніка старшыні ВС РБ (г. зн. была асабіста зацікаўленая)...

Напісаў і яшчэ раз задумаўся: а ці была ў Людмілы Мікалаеўны пазіцыя, з якой яна б не збочыла нізавошта? А калі была, што здарылася? Калі адбылася ломка свядомасці? Пытанні, пытанні, пытанні...

**Вадзім ДОЎНАР**

ПАГІНАЦЫЯ

# Тастамент Адама Кіркора

СЁЛЕТА на Куццю-Каляды ўся Беларусь, Польшча — уся Еўропа святкуе 200-годдзе нашага знакамітага земляка: паэта Адама Міцкевіча, генія польскай літаратуры. І мала хто ведае (рызыкну нават сказаць — ніхто не ведае), што ў гэты ж святочны дзень на Беларусі нарадзіўся яшчэ адзін Адам, які для мінулага, XIX стагоддзя таксама быў годным сімвалам Літвы-Беларусі. Гэта —Адам Кіркор, этнограф, гісторык, археолаг, публіцыст, выдавец, літаратуразнавец, актыўны грамадскі дзеяч.

Абазнаны чытач можа запярэчыць: мы ж ягоны юбілей ужо адсвяткавалі? Яно так. Калі ўзяць у рукі цудоўны перакідны каляндар на 1998 г. (складальнік Ганна Запартыка), сапраўды, на адрыўным лістку “21 студзеня” прачытаем: “180 гадоў з дня нараджэння А. К. Кіркора (1818—1886)”. Гэтую дату мы пабачым, калі зазірнём у нядаўна выдадзены капітальны даведнік “Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік” (т.3), праўда, з асцярожнай агаворкаю (што вельмі характэрна для аўтара нататкі, вопытнага даследчыка Генадзя Кісялёва): “21.1.1818 (па іншых звестках 1819), в. Слівіна Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ.” Студзеньскую дату паўтараюць і іншыя айчынныя і польскія энцыклапедычныя даведнікі. Паўтараюць так услед за біёграфамі Кіркора: М.Янчуком і Р.Зямкевічам. Больш таго. Яшчэ пры жыцці Кіркора ягоная біяграфія двойчы ўзнаўлялася ў польскіх энцыклапедыях. За першым разам(Encyklopedyja powszechna. Warszawa, Naklad, druk i wlasnos S. Orgelbranda, 1863. Tom czwarty) гаварылася літаральна наступнае: “Кіркор (Адам Ганоры), які піша пад псеўданімам Ян са Слівіна, нарадзіўся ў былым Мсціслаўскім ваяводстве 21 студзеня 1818 г. Адукацыю атрымаў у гімназіі ў Магілёве і віленскім інстытуце...”

Аднак даследчык М. Бранштэйн у міжваенны перыяд, у 1930 годзе, прывёў каштоўны дакумент ( хросную метрыку, згодна якой А.Кіркор быў ахрышчаны 14 студзеня 1819 г. Такім чынам, атрымлівалася, што або Адам-Ганоры не быў хрышчаны цэлы год, або з датамі па-ранейшаму нешта не ў парадку.

Ужо ў наш час з'явілася адмысловая кніга-даследаванне Станіслава Кіркора “Мінулае памірае двойчы: Праўдзівая аповесць” (Кракаў, 1978). У ёй на багатым архіўным матэрыяле займальна, шматфарбна і дэталёва ўзноўлена жыццё і творчасць даследчыка Літвы. Прозвішча аўтара (невыпадковае супадзенне фамільянтаў, пра што даследчык нашчадак роду Кіркораў, заўважае адразу ва ўступе: “[Адам] быў далёкім кузэнам (стрыечным братам) майго дзеда, толькі ў трэцім пакаленні яшчэ далей мелі мы агульнага продка”. Манаграфія чытаецца як мастацкая аповесць, дзе замест дыялогаў ( шчодры россып урыўкаў з архіўных дакументаў, успамінаў, мемуараў, сабраць якія аднаму чалавеку было проста не падсілу, пра што Ст. Кіркор адзначыў спецыяльна: “Яшчэ важнейшым для мяне было тое, што падчас напісання маёй працы карыстаў з неацэннай дапамогі з боку шэрагу асобаў у Польшчы. Асаблівая мая ўдзячнасць і падзяка Станіславе Буяльскай, праф. Станіславу Дамброўскаму, в-ру Тадэвушу Дубецкаму, Юліюшу Гамуліцкаму, д-ру Стафану Кучыньскаму, Вандзе Рамейка, д-ру Малгажаце Стользман.”

Але ж акурат сярод варшаўскіх сігнатур, што захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве ды якімі карыстаўся Ст.Кіркор і прыхаваўся “Тастамент” і “Храналогія жыцця і прац” Адама Ганорыя Кіркора, з якіх можна даведацца праўдзівую дату нараджэння “даследчыка Літвы”. Таму што ў манаграфіі Ст.Кіркора маленства і юнацтва слыннага продка наогул згаданы адным абзацам (і тое пададзеным у каментарыях): “Адам Ганоры Кіркор нарадзіўся ў Слівіне на Магілёўшчыне, вядомая дата хросту: 14 студзеня 1819 г. У Вільню прыбыў восенню 1834...” Але “Храналогія жыцця і прац Адама Ганорыя Кіркора (Яна са Слівіна). (Накрэсленая ім самім на выразнае пажаданне п. Аляксандра Ельскага з Замосьця пад Мінскам у лютым 1886 г. Пасля маёй смерці можа служыць як матэрыял да біяграфіі, але ніколі як аўтабіяграфія, бо прыведзена толькі дзеля дакладанасці дат і фактаў)”, складзеная за паўгода перад смерцю ў далёкім Кракаве, дзе самотна дажываў свой век “даследчык Літвы”, якраз і распачынаецца важнай, знамянальнай датай:

“1818. Нарадзіўся я 24 снежня 1818 г. у Сьлівіне Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ. з айца Кароля і маткі Тэклі з Валадковічаў (цяпер Манастыршчынскі р-н Смаленскай вобл. **[Я.Я.]**

1828(1838. У 1828 г. паступіў у 1 клас гімназіі бернардзінаў у Мсціслаўі. У 1830 г. гімназію закрылі ў выніку скандальнай рэвізіі беларускіх школ праф. Пецярбургскага ун-та Язэпа Сяньkоўскага. Таму я навучаўся пры бацьках у Грынёўшчыне Клімавіцкага павета, пазьней я паступіў у Магілёўскую гімназію (1833 —1834).

У 1834 г. перабраўся ў Вільню, у Шляхецкі інстытут, дзе скончыў навучанне ў 1838 годзе...”

Так мы даведваемся не толькі адпраўную дату пачатку зямнога шляху Адама Кіркора, але і каму павінны быць удзячныя за “задакументаванае” па гадах, па месяцах і часам па днях жыццё вучонага. Чаму гэта храналогія не трапіла ў даследчыцкі абсяг адразу пасля смерці Адама-Ганорыя, а больш стагоддзя праляжала зацярушаная архіўным пылам ( незразумела. Крыўдна было б А. Ельс-каму даведацца, бо гэты працавіты бібліёграф у некралогу, змешчаным ім у “Przegla dzie literackim”, дадатку да часопіса “Край” (1886 Nr. 51), пайшоў услед за польскай агульнай энцыклапедыяй і паўтарыў памылковую дату нараджэння.

Тут прыведзена не ўсё, што выйшла з пад пяра Кіркора як ягоны запавет. Наогул зазначу, што перш чым публікаваць гэтыя матэрыялы пра Адама Кіркора на зразумелай для беларускага чытача мове — іх належала перакласці (удакладніць паасобныя мясціны мне дапамог праф. А.Мальдзіс). Аднак перш чым мець тэкст для перакладу яго належала расчытаць, што было, паверце, справай нялёгкай. І за гэта мая бязмежная падзяка нябожчыцы маме маёй, Марылі-Ірэне і старшаму навуковаму супрацоўніку Інстытута гісторыі НАН, унікліваму мовазнаўцу-палеографу Уладзіміру Свяжынскаму. Вось гэты тэкст:

"Пры жыцці нарабіў я шмат галасу, людзі жадалі цікавіцца маюць асобай. Гаварылі благое і добрае, але мала ў тым было праўды. Там, дзе ахвяроўваўся для агульнага дабра, бачылі здраду, і наадварот, у сумленным выкананні абавязку — бачылі нейкі ґераізм учынкаў. Памру, і хіба ўжо хутка (што дай Божа!) — і зноў не ўнікну прысудаў. У “Encyklopedyi Powszechnej” шмат недакладнасцей (нават год нараджэння ўказаны лжыва), у іншых успамінах даты паперакручаныя. Ды няхай пішуць што хочуць (але няхай хоць даты будуць дакладныя. Таму жадаю, каб гэтую нататку, напісаную пры поўнай свядомасці, пасля маёй смерці аддалі шляхетнаму Каралю Эстрэйхеру, але не таму, быццам я напрашваюся на біяграфію, на якую, шчыра кажучы, не вельмі і заслугоўваю — бо жадання было шмат, ды ўчынкаў замала — але каб нейкі шараговы бібліёграф мог выправіць памылкі. Эстрэйхеру таксама аддаць усе пакеты з лістамі, што знаходзяцца ў куфры, для якога асобны інвентар, ці хутчэй алфавітны паказальнік, я тут у Кракаве склаў. Да гэтага яшчэ належыць далучыць кракаўскую карэспандэнцыю. Знойдзецца там не адзін цікавы ліст, што належыць да нашай сумнай гісторыі і прасвятляе не адну старонку. Урэшце пісьмы тыя заслугоўваюць увагі як аўтографы амаль усіх нашых знакамітасцяў і могуць да нечага прыдацца. Таму няхай Эстрэйхер распарадзіцца гэтым помнікам шматгадовых маіх літаратурных клопатаў паводле свайго разумення. Мой партрэт 1861г. з подпісамі віленскіх навукоўцаў і літаратараў, падараваны мне як рэдактару “Кур'ера Віленскага”, — аддаць кракаўскаму навуковаму таварыству, калі яно пажадае яго прыняць. Але мой алейны партрэт адаслаць Феліксу Кіркору ў Варшаву. Кніжкі і рознае начынне належаць маёй жонцы, за выключэннем толькі планаў Брауна [Brauna], Вільні і Гародні, а таксама маленькіх краявідаў (на дрэве) Ліды, Меднік, Трабаў і краявідаў Вільні, здаецца трох (яны ў маёй сястры Тэклі), якія павінны належаць Крак[аўскаму] Наву[оваму] Тав[арыстcву] (ці будучай Акадэміі). Зборы карцін, партрэтаў, краявідаў, археалагічных забыткаў і ўсё гэта ў 4 тоўстых кнігах складаюць выключна уласнасць маёй жонкі. Аднак жадаў бы, калі толькі яно магчыма, каб усё гэта перахоўвала ў цэласці і пасля як найдаўжэйшага жыцця запісала ўсё якой-небудзь нацыянальнай установе, паколькі ёсць там каштоўныя забыткі. Хацеў бы я нешта пакінуць на памятку для каханай сястры маёй Тэклі Кіркор і найдаражэйшаму ды шчыраму прыяцелю майму ад 1834 г. — Казіміру Пашкоўскаму — але што ж, калі нічога годнага не маю ім ахвяраваць. Таму няхай самі выберуць сабе што захочуць з рэчаў, якія застануцца пасля маёй смерці.

Маю даўгі. Некалькі асоб могуць на мяне слушна крыўдзіцца. Бог сведкам, не прагнуў гэтай страты, не жадаў іхняй крыўды! Аднак тое не апраўдвае мяне —прынаймней, я нікога не абвінавачваю, хутчэй сябе самога, бо я жыў дзеля ідэі, бо распачынаў выдавецтва без сродкаў, бо не ўмеў прадбачыць будучыні і наступстваў. Выязджаючы з Пецярбурга ў снежні 1870 г. я меў пазык на 33 тысячы рублёў срэбрам. Крэдыторам кінуў друкарню, за якую давалі (Стасюлевіч) 20 тыс. р., прадаў газету (“Новое время”) за 10 тысяч р. Марыгероўскаму, які і дакумент падпісаў і афіцыйную заяву зрабіў да ўладаў; рухомая маёмасць, мэбля, біблітэка, што налічвала да 5 тысяч тамоў — маглі, аднак, каштаваць 9 тыс. руб. — таму фундуш адпавядаў памеру доўгу, хоць знайшліся і такія, якім de fakto нічога не належала [...]. Здавалася, хоць сам згіну, але нікому нічога вінен не буду. З гэтай думкай я ўцёк у Кракаў. Аднак іначай сталася! Колькі хто каму вінен —цяжка меркаваць — можа і я. Пэўна толькі тое, што калі б я застаўся на пасадзе і не выехаў з Пецярбурга — нічога б, можа, не здарылася — але я павінен быў выехаць. Чаму? Ёсць рэчы, пра якія і перад смерцю не прамаўляюць! Не выехаць — не мог, няхай гэта ўжо Бог рассудзіць.

У дзень ад'езду меў некалькі тысяч рублёў, усё раздаў друкарні, рэдакцыі і г.д. — сабе пакінуў 600 р., з якімі і прыехаў у Кракаў. [...] Таму бессаромна хлусяць тыя, якія даводзяць, што я выехаў са значнай сумай. Каткоў і Краеўскі будуць пасьміхацца і байкі выдумляць пасля маёй смерці — аднак ёсць факты і жывыя сведкі, якія могуць абвергнуць паклёп [...]

Паўтараю: гэта ўсё пішу не дзеля апраўдання. Няхай кажуць што хочуць. Жыццё маё было шчырым, можа, нават залішне адкрытым. Няхай судзяць, абы толькі справядліва.

Я здаровы і пры памяці. Аднак стан мой ненармальны. Жыццё надламілася, а здараюцца хвіліны, калі думка пра смерць паўстае адзіным суцяшэннем. [...] Сумная мая доля! І навошта мне кранаць-казаць пра тое, што баліць, што докучае самотніку, яшчэ нядаўна акружанаму вялікай сям'ёй, колам прыяцеляў. Га! Сталася!

Смерць не страшная. Маю ў сабе досыць пачуцця самаацэнкі і рэалізму, але мне аж мурашы пачынаюць па скуры бегаць, калі згадаю, што памру не ў Вільні. Ах, я так любіў гэтую Вільню, гэтую прыгожую маю Літву! Я аддаў ім цэлае жыццё, усе дні і ночы, працу ўсяго жыцця, маёмасць, сабраную працаю і потам. Усё прысвяціў для Літвы, і няраз ахвяроўваў ёй нават... але што каму да гэтага! Цяжка толькі, што памру не на Літве, што пахаваны буду не на Росах[...]"

●

Так, Адам Кіркор прадбачыў свой лёс: ён памёр 23 лістапада 1886 і быў пахаваны на Ракавіцкіх могілках у Кракаве.

Пройдзе час і 200-годдзе Адама Кіркора нашы нашчадкі, спадзяюся, адзначаць не менш годна, чым сёлетні двухсотгадовы юбілей вялікага Адама Міцкевіча, што памёр на чужыне і таксама спачыў навекі ў Кракаве — у каралеўскай рэзідэнцыі на Вавелі. Абодва яны пакінулі Бацькаўшчыну не з уласнага жадання, а па злой волі абставін, што нібы хмары абклалі былі наш край. Горка чытаць, як найбольшым прагненнем, самым патаемным жаданнем для нашых суайчыннікаў летуценілася спачыць на “ціхіх Росах”. Пра гэта (ужо ў нашым, XX стагоддзі) вершам паспавядаўся Ул. Жылка.

***...Прайшоўшы свет***
***раздзетым, босым,***
***Пара падумаць і пра кут:***
***На могілках***
***зацішных Росы***
***Хачу спачыць***
***ад каламут.***
***Сачыцьмуць мой спакой***
***найпільней***
***Муры старой,***
***каханай Вільні.***

Славутыя віленскія могілкі Росаў (дзе спачываюць Сыракомля і сэрца Пілсудскага, а ад нядаўняга часу і прах Івана Луцкевіча) апынуліся па-за межамі сучаснай Беларусі. Але мы маем адмысловую магчымасць вярнуць нашых сыноў, раскіданых па свеце, на Бацькаўшчыну ў выглядзе помнікаў ля колішніх іхніх родных сялібаў ці ў іншых мясцінах на іх малой Радзіме. А для пісьменніка заўсёды найлепшым помнікам было, ёсць і застанецца выданне і перавыданне ягонай творчай спадчыны, што ахвяроўвалася на алтар Айчыны.

**Язэп Янушкевіч.**





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 2848-461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 2848-525, 2847-985 |
| АДДЗЕЛЫ: | |
| публіцыстыкі — | 2848-204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 2847-985 |
| літаратурнага жыцця — | 2848-462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 2847-985 |
| паэзіі і прозы — | 2848-204 |
| музыкі — | 2848-153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 2848-153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 2848-462 |
| навін — | 2848-462 |
| мастацкага афармлення — | 2848-204 |
| фотакарэспандэнт — | 2848-462 |
| бухгалтэрыя — | 2366-071 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4009
Нумар падпісаны ў друк 24.12.1998 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999

Заказ 7532/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12